24 чэрвеня 2016 | № 25 (490)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Якая будучыня ў Вышаграда?
Стар. 21





# Каму «адкруцяць галаву»?

## Кошты растуць, пачынаць адкручваць можна ўжо зараз



Сяргей ПУЛЬША

У чарговы раз нас запэўнілі ў неверагодным. У тым, што росту коштаў у сувязі з дэнамінацыяй не будзе. Пра гэта Лукашэнка, размаўляючы з прадстаўнікамі працоўнага калектыву фабрыкі «Спартак».

«Росту цэн у сувязі з дэнамінацыяй не будзе. Гэта я вам гарантую, — цытуе Лукашэнку БелТА. — Мы за гэта адарвем галовы, калі хтосьці паспрабуе скарыстацца гэтым тэхнічным працэсам (гэта чыста тэхнічнае мерапрыемства)».

Насамрэч, рост коштаў у сувязі з дэнамінацыяй — працэс аб’ектыўны. Таму што нішто ніадкуль не бярэцца. І, калі ў дзяржсектары будзе «жалезнае рэгуляванне», то ў прыватным сектары эканомікі кошты вырастуць гарантавана. Гэты працэс ужо пачаўся.

Першае, што будзе расці, — паслугі так званых «вендынг-аўтаматаў»: прыладаў па продажы кавы, напояў, розных снэкаў. Кава ў большасці аўтаматаў сёння каштуе 10 тысяч рублёў, або ў новых цэнах 1 рубель, які будзе манетай. Гэта значыць, што без манетапрыймача ніяк не абысціся. Усталяваць яго на адзін апарат каштуе 8–12 мільёнаў рублёў. Гэтыя выдаткі трэба акупляць, таму кава падаражэе. Ці ўжо падаражэла: прынамсі там, дзе п’ю каву я, кошт кубачка ўжо вырас з 10 тысяч да 15-ці.

Больш дасведчаныя людзі ўзгадваюць мінулыя дэнамінацыі. Аж да хрушчоўскай грашовай рэформы 1961 года. Сталы чытач «НЧ» Вольф Рубінчык падзяліўся з намі цікавым фрагментам з кнігі экс-чэмпіёна свету па шахматах Анатоля Карпава «Сястра мая Каіса», дзе ён распавядае пра рынак роднага Златавуста (Расія) пасля хрушчоўскай грашовай рэформы: «Колькі я сябе памятаў, шклянка суніц або пучок кісліцы заўсёды каштавалі рубель. Калі ў 1961 годзе памянялі грошы ў суадносінах 10:1, тыя ж суніцы і кісліца ні дня не каштавалі грыўню. 15–20 капеек, дый тое з неахвотай, а ўжо ў наступнае лета пра цану, ніжэйшую за 30 капеек, нават і размаўляць не жадалі».

Узгадвае «хрушчоўскую рэформу» і фінансавы партал myfin.by: «Наяўныя грошы і ўклады абменьваліся па курсе 1 да 10, цэны ў крамах знізіліся ў той жа прапорцыі. Але памяняліся дзве велічыні, якія не мелі для простага савецкага чалавека значэння: знізіўся курс рубля да амерыканскага долара і памер забеспячэння рубля золатам (на золата і долары рубель свабодна не абменьваўся). Адзіным афіцыйным змяненнем аказалася павышэнне коштаў на ювелірныя вырабы. Падаражанне імпарту не было прыкметна адразу, з прычыны дзяржаўнага рэгулявання коштаў. Тым не менш, рэагуючы на гэтыя ці іншыя не вядомыя нам фактары, цэны на рынках знізіліся толькі ў 4–5 разоў, супраць 10 у дзяржгандлі».

Такім чынам, у выпадку сённяшняй дэнамінацыі, з улікам мінулага досведу, варта чакаць: павышэння курса долара, павышэння кошту золата і павышэнне коштаў на рынках.

Вельмі важным з’яўляецца момант даверу да фінансавай сістэмы краіны. Калі грамадзяне ёй давяраюць, то гэта добра. А калі даверу няма, то людзі будуць імкнуцца захаваць свае зберажэнні іншым чынам. Укладаць іх у тыя ж долары і золата.




**Увод манет незаўважна можа «з’есці» да 15–20% вашага бюджэту**

У свой час усіх нашых прадпрымальнікаў прымусілі набыць касавыя апараты. У выніку гэтых прыладаў у Беларусі набралася амаль чвэрць мільёна і 167 мадэляў. Некаторыя з іх проста не «заточаныя» на працу з манетамі, а іншыя не працуюць і з дробамі. То бок, чыста фізічна на іх не атрымаецца выдаць чэк у 1 рубель 10 капеек — толькі ў 11000 рублёў. Іх давядзецца адправіць ва ўтыль і набыць новыя. Гэтыя выдаткі, зразумела, аплацяць пакупнікі праз павышэнне коштаў.

У дэнамінацыі і ўводзе ў абарачэнне манет ёсць яшчэ два псіхалагічных моманты. Першы: імкненне хутчэй пазбавіцца ад старых грашовых знакаў. Як канстатуе той жа сайт myfin.by, набыццё тавараў за «старыя» грошы падганяе рост коштаў і, як следства, паскарае інфляцыю ці вядзе да дэфіцыту, які, у канчатковым выніку, таксама вядзе да абясцэньвання нацыянальнай грашовай адзінкі і росту коштаў.

Другі момант: людзі лягчэй развітваюцца з манетамі, чым з купюрай на тую ж суму. Адна справа, калі ў цябе ў гаманцы паперка з наміналам у 20 000 рублёў, і іншая — манета ў два рублі. Увод манет будзе спрыяць росту так званых «спантанных пакупак», набыццю «непатрэбных дробязяў». У гэтым ёсць станоўчы момант, бо такая сітуацыя спрыяе ажыўленню рознічнага таваразвароту. Але незаўважна гэта можа «з’есці», паводле падліках адмыслоўцаў, да 15–20% вашага бюджэту. Таму ў першыя месяцы пасля дэнамінацыі трэба быць асабліва пільнымі.

Так што адкручвай галовы — не адкручвай, а нешта ў коштах усё ж вырасце. Галоўнае, каб не вельмі істотна, каб насельніцтва не кінулася скупляць долары, забяспечыўшы дэвальвацыю і абясцэньванне ўжо новых грошай. Асабліва нервовым можна параіць запасціся валяр’янкай. Так яно больш надзейна будзе.

# Андрэй Бандарэнка можа пачаць галадоўку

Сяргей ПУЛЬША

**На тыдні ад вязня сумлення Андрэя Бандарэнкі, які адбывае пакаранне ў турме №4 Магілёва, прыйшоў шэраг лістоў яго сябрам. З іх вынікае, што ўмовы яго ўтрымання значна пагоршыліся. І Бандарэнка тлумачыць, чаму.**

Нагадаем, што праваабаронцу нядаўна вынеслі вымову за тое, што ён у дзённы час ляжаў на ложку, а затым паставілі ў камеры відэаназіранне і выводзяць на прагулку ў кайданках і са службовым сабакам. «Пяць месяцаў гэта (ляжанне на ложку ў дзённы час) нікога не турбавала, а тут раптам усе ўзняліся: якое абразлівае дзеянне, якое падрывае ўвесь выхаваўчы працэс!» — піша Бандарэнка.

«Аказваецца, 22 чэрвеня падыходзіў тэрмін пераводу мяне на агульны рэжым адбывання пакарання (зараз я на строгім), што давала мне магчымасць дадаткова атрымліваць пасылкі, бандэролі, спатканні і тэлевізар. На гэта, зразумела, ніхто пайсці не мог. Нават падумаць жахліва — Бандарэнка з тэлевізарам! Адразу пасля вымовы мяне сталі яшчэ і закоўваць у кайданкі перад вывадам з камеры. Гэта ўжо нібыта за тое, што я на прафілактычным уліку. Не зусім толькі зразумела, што гэта яны сем месяцаў «рызыкавалі», выводзячы мяне без кайданкаў», — напісаў ён у лісце ў «Новы Час».

Крыху пазней ліст ад вязня атрымаў і былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў. Яму Бандарэнка паведаміў, што нядаўна правёў пяць сутак у штрафным ізалятары. Падставай для гэтага паслужыла нібыта размова вязня з іншым зняволеным падчас прагулкі. На самай справе працэс «зносін», па словах Бандарэнкі, складаўся ў тым, што пры вяртанні з прагулкі, ужо непасрэдна перад камерай, у яго нехта ззаду спытаў: «Якая камера?». Мяркуючы, што пытаецца кантралёр, ён адказаў «васьмідзясятая». У гэтым і склалася правапарушэнне.

Пры складанні пратаколу аб парушэнні рэжыму Бандарэнку адмовілі ў яго праве напісаць тлумачэнні. Замест гэтага супрацоўнік задаваў яму пытанні і запісваў адказы. У сувязі з гэтым Бандарэнка адмовіўся падпісаць пратакол. На наступны дзень яму далі магчымасць прадставіць свае пярэчанні, аднак рашэнне аб накладанні спагнання ўжо было прынятае.

Пасля адбыцця пакарання ў ізалятары вязня папярэдзілі пра адказнасць па артыкуле 411 Крымінальнага кодэкса («Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі»). Ён успрыняў гэта як пагрозу наступнага прыцягнення яго да крымінальнай адказнасці.

Таму Андрэй Бандарэнка лічыць, што ў дачыненні да яго праводзіцца мэтанакіраваная палітыка дыскрымінацыі і ціску. Ён папярэдзіў адміністрацыю турмы пра тое, што ў выпадку працягу такой палітыкі вымушаны будзе звярнуцца да скрайняй меры пратэсту — галадоўкі.

# Праз выбары не працягнуць кантракт?

**Вольга Дамаскіна працуе ўжо 16 гадоў у Нацыянальным Полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку. З 2012 года загадчыцай музея традыцыйнага ткацтва Паазер'я. У 2016 годзе атрымала другую адукацыю ў Інстытуце культуры Беларусі па кваліфікацыі «Музеязнаўца».**

«З чэрвеня, я пайшла да дырэктара, каб даведацца, ці працягнуць са мной кантракт, які ў мяне да 31 ліпеня. Апошнім часам мяне вельмі часта папярэджвалі пра тое, што ён у мяне заканчваецца. Калі я пачала размову пра працягненне кантракта, дырэктар мне сказала, што пакуль не вырашыла, а я ёй распавяла, што буду ўдзельнічаць у выбарах», — расказала Вольга Дамаскіна.

Па яе словах, дырэктарка ў размове адзначыла, што Вольга «даўно перарасла музейны ўзровень, трэба ісці вышэй, і вельмі добра, каб у парламенце быў бы хоць адзін чалавек, які ведае музейную справу».

«Рассталіся мы на тым, што яна будзе думаць. Але ж мне мае калегі амаль адразу расказалі, што, калі я сышла, кіраўніцтва агучыла, што працягваць кантракт са мной не будзе», — сказала актывістка Руху «За Свабоду».

Па правілах запаведніка, паведамленне аб спыненні кантракта выдаюць за 1,5 месяцы, але ў калектыўнай дамове прапісана, што не пазней чым за месяц, патлумачыла яна.

«Я люблю сваю працу, свой музей і хачу працаваць далей. А мой удзел у парламенцкіх выбарах даў бы магчымасць публічна агучыць не толькі праблемы краіны, горада, але і музейнай справы, культуры. Тое, што кантракт пагражаюць не працягнуць, я звязваю толькі з маім рашэннем удзельнічаць у выбарах», — заключыла актывістка Руху.

**Паводле рух.by**

# Затрымалі, склалі пратакол, забралі шаўроны

**Вяртаючыся са спаборніцтваў спартыўна-патрыятычнага клуба «Ваяр», Валер Бычкоўскі нават не падазраваў, што наперадзе яго чакаюць выпрабаванні на звычайнай станцыі мінскага метро.**

Спусціўшыся ў метро на станцыі «Усход», Бычкоўскі разлічыўся за праезд і прайшоў праз турнікет, як раптам пачуў ззаду голас інспектара службы бяспекі: «Мужчына, пачакайце, прад'явіце рэчы на дагляд». Той адказаў, што ўжо аплаціў праезд і яшчэ раз гэта рабіць не збіраецца. Пасля чаго спусціўся на перон чакаць цягніка. Аднак праз хвіліну шлях у вагон яму перагарадзіў інспектар, паведаміўшы, што ў вагон яго не пусціць і мае права затрымаць.

Бычкоўскі не збіраўся скандаліць і патлумачыў, што трэба было рэчы правяраць раней, а не тады, калі аплочаны праезд. Інспектар выклікаў на дапамогу дзяжурнага супрацоўніка міліцыі і патлумачыў, што грамадзянін не жадае прайсці на праверку рэчаў.

У сваю чаргу Бычкоўскі казаў пра тое, што праезд быў аплачаны, а калі нехта жадае здзейсніць дагляд ягонага заплечніка, дык няхай гэта робяць тут, на пероне.




«Яны схапілі мяне з абодвух бакоў, пачалі выкручваць рукі, павалілі, доўга коўзалі па падлозе і ўрэшце начапілі на мяне, як на нейкага злачынцу, кайданкі. Гэта ўсё бачылі людзі. Пры гэтым адарвалі срэбную завушніцу. Затым мяне завялі ў пакой міліцыі, дзе сталі пісаць нейкую паперу. Я доўга дамагаўся, каб супрацоўнік міліцыі назваў сябе. З восьмай спробы той паказаў свой бэйдж: Алег Гайскі. Мяне апытвалі, але пры гэтым я заўважыў, што кажу ім адно, а яны пішуць зусім іншае. Тады я адмовіўся нешта тлумачыць і міліцыянт выклікаў маёра, які паводзіў сябе больш адэкватна», — распавёў Бычкоўскі.

Пасля складання пратакола апытання супрацоўнікі міліцыі знайшлі ў рэчах некалькі шаўронаў з «Пагоняй» і нашыўку клуба СПК «Ваяр» з шасціканцовым крыжам. Здзівіўшыся такой знаходцы, хаця такія ж шаўроны былі нашытыя на вопратцы Валерыя, супрацоўнік міліцыі пачаў спехам некаму тэлефанаваць і ўрэшце яго павезлі на медычную экспертызу, якая засведчыла поўную адсутнасць алкаголю ў крыві.

Затым Бычкоўскага даставілі ў аддзяленне міліцыі і пакінулі нанач у «малпоўніку».

«Ранкам давялося доўга чакаць нейкага рашэння. Толькі ў 11 гадзін мне паведамілі, што складзены пратакол за непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП РБ) і мяне зараз павязуць у суд. Прагледзеўшы асабістыя рэчы, якія мне вярнулі ранкам, я заўважыў, што адсутнічаюць шаўроны. На патрабаванне вярнуць іх, яны сказалі, што зробяць гэта потым, а самі хадзілі па калідоры і паказвалі іх іншым супрацоўнікам», — паведаміў Бычкоўскі.

У судзе Першамайскага раёна Мінска суддзя вырашыў выклікаць на разгляд справы ў якасці сведкі кантралёра службы бяспекі і перанёс пасяджэнне.

Нездаровая цікавасць супрацоўнікаў міліцыі да нацыянальнай сімволікі ў апошні час істотна ўзрасла. Літаральна дзень таму з аўтамабіля-таксі актывіста Леаніда Кулакова каля Цэнтральнага РУУСа «зніклі» два сцяжкі з «Пагоняй». З гэтай нагоды ён пакінуў заяву ў міліцыі.

**Паводле spring96**

# Прадпрымальніцу давялі да самагубства

**55-гадовая Таццяна Дупанава раніцай 21 чэрвеня выкінулася з балкона на 8 паверсе.**

Вядома, што жанчына працавала па найме ў роднай сястры — то бок была аформленая як наёмны работнік. Але працавала фактычна на сябе, ездзіла з таварам па раёнах.

Па словах Анатоля Шумчанкі, лідара грамадскага аб'яднання «Перспектыва», які першым паведаміў пра здарэнне, некалькі тыдняў таму па дарозе ў Чачэрск Дупанаву затрымала ДАІ. Зацікавіліся дакументамі на тавар і выклікалі АБЭЗ. Тавар канфіскавалі.

22 чэрвеня жанчыну чакаў суд. Але за дзень да гэтага, а 4-й раніцы яна сышла з дома. Паднялася на 8 паверх «маласямейкі», што стаяла непадалёк. Выйшла на агульны балкон — і скочыла ўніз.

«Па факце смерці жанчыны 1960 года нараджэння праводзіцца праверка. Цела знайшлі раніцай 21 чэрвеня ў Савецкім раёне Гомеля. Дакладную прычыну смерці пакажа судова-медыцынская экспертыза. Асноўная версія здарэння — суіцыд», — паведаміла «Нашай Ніве» Марыя Крываногава, прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта ў Гомельскай вобласці.

Падрабязней пра здарэнне распавяла сяброўка Таццяны Дупанавай, Людміла.

«Таццяна гандлявала адзеннем. І вось, тыдні з два таму паехала на сваім старым «Опелі» ў той Чачэрск. Яна ездзіла па раёнах, сама за рулём, прыязджала ў базарны дзень на мясцовыя рынкі. І ў той дзень, па дарозе ў Чачэрск, мела дзве торбы з сукенкамі, якія і канфіскавалі. Тавару было на 20 мільёнаў рублёў, — кажа Людміла. — Ну і ў яе была нейкая праблема з дакументамі на тавар, ДАІ выклікала АБЭЗ, потым падатковую. Яе адвезлі кудысьці ў аддзяленне, і хоць у пратаколе стаіць, што дапытвалі тры гадзіны, яна казала мне, што правяла там больш за шэсць. Потым тэлефанавалі сястры Таццяны з падатковай Чачэрска, размаўлялі ў такім тоне, што сястры стала кепска... Карацей, наша сістэма, дзе ўсе такія правільныя, знайшла сабе парушальніка».

Па словах Людмілы, потым Таццяна паехала на гандаль у Буда-Кашалёва, каб зарабіць на аплату штрафаў. І прыйшлі дзве жанчыны, якія сфатаграфавалі яе гандаль, а пасля Таццяну зноў выклікалі ў падатковую.

«І вось у яе здарыўся псіхалагічны зрыў», — наракае Людміла.

Людміла запэўнівала, што пойдзе на суд разам з ёй, на Таццяну ціснула тое, што яна нібыта «будзе выглядаць злачынцам» перад сястрой і тое, што ў сястры могуць быць праблемы праз яе.

«Я прапаноўвала ёй пазваніць Шумчанку, пракансультавацца, але Таццяна адмаўлялася, казала, што яна ж не прадпрымальнік афіцыйна, а наёмны работнік. Яна баялася нават ісці да адвакатаў — лічыла, што, калі на суд прыйдзе з адвакатам, падумаюць, што яна «крутая», — узгадвае Людміла. — Штраф ад 100 да 200 базавых, які паабяцалі, — для яе гэта было ўсё. Баялася яшчэ, што з 1 ліпеня пачнуцца новыя праверкі... За гэтыя тыдні яна схуднела на 14 кілаграмаў, перастала есці, спаць... Ёй патрэбная была псіхалагічная дапамога, мы ўсе яе супакойвалі, але на такі вынік ніхто не разлічваў, вядома...»

Людміла кажа, што бяда з Таццянай павінна паказаць, што ўсё ж з людзьмі трэба абыходзіцца па-людску.

**Паводле nn.by**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ведаць, з кім сябраваць

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Раней толькі ў нас была формула: «Газ у абмен на пацалункі». Гэта калі мы Расіі — пацалункі і запэўніванні ў вечным сяброўстве, а яны нам — газ і нафту. А зараз і расійскія чыноўнікі ўзялі гэтую формулу на ўзбраенне. Праўда, яны яе вычварылі: «Пацалункі ўзамен на нішто».**




Фота www.rosbalt.ru

Толькі пару тыдняў таму мэр Масквы Сяргей Сабянін і старшыня Савета федэрацыі Расіі Валянціна Мацвіенка рассыпаліся нам у кампліментах. Маўляў, мы выратавалі іх падчас расійскіх контрсанкцый у дачыненні да заходніх прадуктаў, накармілі Расію. Сабянін з Мацвіенка з'ехалі, а расійскія структуры пачалі пільна прыглядацца да партнёра.

Рассельгаснагляд абвясціў пра забарону ўвозу ў Расію праз Беларусь грыбоў, гароднiны і садавіны з краін Афрыкі — з 27 чэрвеня. Праўда, відавочнага беларускага следу тут няма: рашэнне прынята ў сувязі з падазрэннямі з нагоды сапраўднасці фітасанітарных сертыфікатаў краін паходжання падкарантыннай прадукцыі. Пад сумневы трапілі Кот-д'Івуар, Бенін, Нігерыя, Гвінея-Бісаў, Гвінея, Буркіна Фасо, Цэнтральна-Афрыканская Рэспубліка, Малі. Тым не менш, жартачкі Аляксандра Рыгоравіча на сустрэчы з Пуціным пра «беларускія бананы» зараз адгукнуцца нежартоўным зніжэннем экспарту.

Больш за тое, Усерасійская акадэмія знешняга гандлю канстатавала, што Беларусь у 2013–2015 гадах у разы павялічвала пастаўкі баклажанаў у Расію, хоць іх унутраная вытворчасць засталася прыкладна на тым жа ўзроўні.

«Асноўным экспарцёрам баклажанаў стала Беларусь — краіна з падобнымі з Расіяй прыроднымі ўмовамі, якія ёй неяк «атрымалася» адаптаваць для вырошчвання цеплалюбівых раслін. З 2013 па 2015 гады Беларусь нарасціла экспарт баклажанаў у Расію больш чым у чатыры разы», — пішуць даследчыкі. У 2013 годзе імпарт баклажанаў з Турцыі амаль у два разы перавышаў пастаўкі ў Расію з Беларусі. У 2015 годзе сітуацыя змянілася да адваротнай: з Беларусі завозілася ў два разы больш, чым з Турцыі.

«Аднак Беларусь — не радзіма баклажанаў. Паводле звестак Белстата, Беларусь падвоіла іх імпарт у 2015 годзе ў параўнанні з 2014 годам. Вытворчасць агародніны ў Беларусі знаходзіцца прыкладна на тым жа ўзроўні, што і раней, што сведчыць пра магчымы схаваны рээкспарт прадукцыі», — дадаюць аўтары даследавання.

Не разумею, што тут дзіўнага. Канешне, Беларусь — не радзіма баклажанаў. Але ў сувязі з глабальным пацяпленнем яшчэ і не тое можа быць. У мяне ў гародзе тыя ж баклажаны, напрыклад, растуць. Сёлета, дарэчы, чакаецца іх неблагі ўраджай. Чаму б не вырошчваць іх і ў прамысловых маштабах?

Увогуле, нам трэба змяніць канцэпцыю наведвання краіны рознымі расійскімі прадстаўнікамі СМІ. Дэсанты расійскіх журналістаў і блогераў (пераважна з рэгіёнаў РФ) высаджваюцца ў Беларусь з зайздроснай рэгулярнасцю. Мы ім тут дэманструем буйныя прадпрыемствы, мяса-малочныя комплексы, цукеркавыя і машынабудаўнічыя вытворчасці. А трэба проста павазіць іх па беларускім поўдні. Па так званых «прыватных гаспадарках». Там яны пераканаюцца, што ў Гомельскай вобласці, напрыклад, выдатна растуць абрыкосы, персікі і тыя ж баклажаны. А на Берасцейшчыне выспяваюць кавуны і вінаград.

І яшчэ наконт беларускай прадукцыі. Днямі той жа Рассельгаснагляд распаўсюдзіў даследаванне, у якім сцвярджаецца, што больш за 50% малака ў Расіі — зусім не малако. Расійскія вытворцы, аказваецца, дадаюць у сваю прадукцыю крухмал, соду, вапну, і нават мел, гіпс ды борную кіслату. Усё гэта робіцца нібыта для засцярогі ад хуткага скісання, але патрэбны эфект за кошт такіх дадаткаў не дасягаецца, а фальсіфікат прыводзіць да харчовых атручванняў.

Так што піце беларускае. У нас, можа, і перавышаецца норма ўтрымання антыбіётыкаў, на што пастаянна ўказвае той жа Рассельгаснагляд, але мелу, гіпсу і борнай кіслаты няма.

Але не толькі харчамі нас папракаюць усходнія суседзі. Б'юць па самым балючым. Расія плануе ў трэцім квартале 2016 года скараціць пастаўкі нафты ў Беларусь у паўтара разы ў параўнанні з другім кварталам, паведаміў «Інтэрфакс». Скарочаны графік паставак нафты ўжо падпісаны.

Звязана гэта нібыта з тым, што Беларусь не дае Расіі бензіну. Па графіку паставак, Беларусь павінна накіроўваць у Расію ў 2016 годзе 1 млн. тон бензіну або каля 250 тыс. тон штоквартальна. Але да гэтага часу беларускае паліва на расійскі рынак не паступала. Паводле дамовы, у выпадку зніжэння паставак у Расію бензіну з Беларусі больш чым на 10% ад аб'ёмаў, прадугледжаных графікам, расійскі бок мае права знізіць у адказ пастаўкі нафты.

Але ў тым жа пагадненні прапісана, што Беларусь мае права не пастаўляць бензін сабе ў страту. Літр бензіну АІ-92 у Маскве каштуе 31 рубель пры курсе долара ў 64 рублі. То бок менш за 50 амерыканскіх цэнтаў. Літр таго ж 92-га ў Беларусі каштуе 11.100 пры курсе долара 19.742. То бок больш 50 амерыканскіх цэнтаў. Дык якая нам карысць вазіць паліва ў Расію?

Можа быць, мы б былі лагаднейшыя ў гэтым пытанні, каб Расія скінула нам цану на газ. Спрэчкі пра гэта, нагадаю, вядуцца не першы месяц. Паводле рускіх, цана на расійскі газ для Беларусі разлічваецца на аснове міжурадавай дамовы, і складае 142 долара. Наш урад лічыць, што ёсць яшчэ і пагадненне ў межах ЕАЭС, па якім кошт газу павінен быць каля 80 долараў.

Тым не менш, расійскі віцэ-прэм'ер Аркадзь Дварковіч заявіў, што наш саюзнік не бачыць падстаў для прадастаўлення зніжкі на газ Беларусі. «Перамовы з Беларуссю працягваюцца. Нашы беларускія калегі выходзяць з рознага роду прапановамі, мы іх уважліва вывучаем. Пакуль у нас няма разумення, чаму мы павінны даваць зніжку, пакуль такіх падстаў не бачым. Тым не менш вельмі ўважліва вывучаем апошнія прапановы, перададзеныя літаральна два дні таму нашымі калегамі. Адрэагуем абавязкова на іх. Але на дадзены момант рашэння няма», — сказаў ён.

Што з гэтага ўсяго вынікае? Трэба ведаць, з кім цалуешся. Інакш атрымаецца, што ў аднаго з партнёраў пацалунак — гэта каханне, а ў другога — чысты разлік.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Валер Мазынскі

**Вядомы беларускі рэжысёр стаў лаўрэатам прэміі імя Васіля Быкава «За свабоду думкі».**



Статуэтку, якая сімвалізуе свабоду думкі, Валер Мазынскі атрымаў з рук аднаго з першых лаўрэатаў Уладзіміра Арлова.

«Што можа быць лепшай узнагародай, чым Свабода? Свабода краіны немагчыма без свабоды думкі», — сказаў падчас уручэння ўзнагароды кіраўнік Руху «За свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Уручэнне прэміі, заснаванай Рухам «За свабоду» ў 2008 годзе, адбываецца штогод у дзень народзінаў Васіля Быкава на яго радзіме ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна.

Прэмія ўручаецца выбітным беларусам, пераможцу абірае журы з ліку лаўрэатаў мінулых гадоў. Лаўрэатамі прэміі сталі Рыгор Барадулін, Уладзімір Арлоў, Павел Севярынец, Алесь Пушкін, Ада Райчонак, Уладзімір Някляеў, Лявон Вольскі і Алесь Белакоз, Зміцер Вайцюшкевіч і Алесь Марачкін, Віктар Шалкевіч, Ніл Гілевіч.

Валер Мазынскі вядомы як грамадскі дзеяч, заснавальнік, мастацкі кіраўнік тэатра «Вольная сцэна», аўтар дакументальных і тэлевізійных фільмаў, рэжысёр і чытальнік беларускага агучвання твораў замежнай і айчыннай літаратуры.

## Паліна Барадачова

**Пераможца конкурсу «Міс Беларусь–2016» ужо ведае, на што пойдуць атрыманыя ёю прызы.**



Яна іх прадасць і заплаціць «падатак на лайдацтва».

На пытанне «Еўрарадыё», чым дзяўчына займалася да конкурсу, яна адказала: «Гуляла ў гандбол, займалася дабрачыннасцю, працавала мадэллю, як фрылансер, афіцыйна не ўладкаваная на працу». З чаго лагічна ўзнікла пытанне: яе ж закранае падатак на беспрацоўе! «Заплачу, калі нейкая папера прыйдзе. Я не хаваю, што афіцыйна не працую, а закон ёсць закон», — адказала Барадачова.

Ну а тое, што застанецца пасля сплаты падатку на беспрацоўе, у тым ліку і выйграны аўтамабіль «Джылі», дзяўчына мае намер аддаць на дабрачыннасць. «Гэта было маё рашэнне, мая мэта ўдзелу ў конкурсе. Калі гэта споўнілася, я стрымаю сваё абяцанне», — сказала яна.

Каму менавіта аддаць машыну, пераможца яшчэ не вырашыла: «У дзіцячы дом які-небудзь, таму, каму яна будзе больш патрэбна, чым мне, каб яны змаглі кудысьці з'ездзіць». Цікава, хто возьме, нават задарма, гэтае дзіва беларускага аўтапраму?

## Уладзімір Канаплёў

**Віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта Беларусі падтрымаў прапанову лідара расійскай ЛДПР Жырыноўскага правесці ў Расіі альтэрнатыўную Алімпіяду.**



Жырыноўскі заявіў 21 чэрвеня, што трэба правесці ў жніўні паралельныя «рэгіянальныя еўрапейскія алімпійскія гульні», калі зборная Расіі не паедзе на Алімпіяду ў Рыа-дэ-Жанейра. Пры гэтым Жырыноўскі ў Маскву ці Сочы запрашае ўсіх спартсменаў, якія не будуць дапушчаныя да бразільскай Алімпіяды.

«Трэба аддаць належнае: ЛДПР і асабіста Уладзімір Вольфавіч заўсёды з вялікім задавальненнем падтрымлівалі парламенцкую беларускую дэлегацыю па ўсіх пытаннях. У яго, відома, вельмі цікавая прапанова... я яго, ва ўсялякім разе, падтрымліваю», — сказаў Канаплёў.

Цікавая логіка: калі расійскія дэпутаты падтрымлівалі нашых не зусім легітымных парламентароў, то мы таксама павінны падтрымаць Жырыноўскага шляхам арганізацыі «паралельнай» Алімпіяды. Вось і кажы потым пра тое, што «спорт па-за палітыкай».




Фота www.tut.by

# У будучыню праз чорны ход

Сяргей ПУЛЬША

**Прамова Аляксандра Лукашэнкі на Усебеларускім народным сходзе, па сутнасці, была квінтэсенцыяй яго ранейшых прамоў. Дый ніхто асабліва новага і не чакаў. Відавочна мы вярнуліся ў атмасферу «брэжнеўскага застою». «Слава КПСС», карацей.**

## Не ў свой час

Мы атрымалі адказ на тое, чаму Усебеларускі народны сход праводзіўся зараз, а не перад прэзідэнцкімі выбарамі. Сам Рыгоравіч адзначыў, што ён праводзіцца не пад палітычныя кампаніі, а тады, калі можна падвесці вынікі. На яго думку, зараз — самы час.

Насамрэч, прамова кіраўніка дзяржавы на гэтым сходзе нагадвала менавіта перадвыбарчае выступленне. Ён, як заўсёды, казаў «канкрэтна ні пра што». Паглыбляючыся ў праблемы адукацыі (аж да колькасці ўрокаў працы ў школе), аховы здароўя (аж да працы асобных паліклінік), маляваў перспектывы развіцця асобных галін прамысловасці (аж да канкрэтных прадпрыемстваў) і іншае ў тым жа рэчышчы. Так і хацелася ўзгадаць яго знакамітае выслоўе: «Беларускі народ будзе жыць кепска, але нядоўга». А таму больш чым двухгадзінная прамова абяцанкамі і перспектывамі нагадвала менавіта выбарчы спіч.

Мы не дачакаліся асноўнага: аналізу таго, чаму краіна знаходзіцца ў крызісе, і як з яго выйсці.

## Вінаватыя — як заўсёды

Канешне, частка выступу кіраўніка дзяржавы была прысвечаная «выкананню прагнозных паказчыкаў мінулай пяцігодкі». Але наконт гэтага мы амаль нічога не пачулі. Проста таму, што Аляксандр Рыгоравіч пяцігодку разглядае вельмі своеасабліва. Так бы мовіць, шырэй. Аж ад пачатку развалу СССР. І нельга з ім не пагадзіцца, што зараз беларусы жывуць лепей, чым у 90-я гады мінулага стагоддзя. Праўда, не нашмат, але ж…

Так, Лукашэнка прызнаў, што з пяцігодка 2011–2016 гадоў была «праблемная». Але вінаватыя, як заўсёды, не мы. Вінаваты Еўрасаюз, у якім у 2013-м скараціўся ВУП. Вінаватая Расія, якая ў 2014-м патрапіла пад санкцыі Еўрасаюза і ўвайшла ў рэцэсію. Вінаватая і вайна Расіі і Украіны, якая ўдарыла па нашых традыцыйных рынках збыту. «Гэта асноўная прычына», — сказаў Лукашэнка. Не згадваючы пры гэтым ані фінансавы крызіс 2011 года, ані дэвальвацыю напрыканцы 2014 года, ані аналагічны працэс у жніўні 2015-га. Ані тое, што ВУП ЕС, на падзенне якога спасылаўся беларускі правадыр, ужо два гады як расце. А вось у нас — не.

Увогуле, за пераможна-прапагандысцкай рыторыкай Аляксандр Лукашэнка не згадаў ніводнага (!) правалу эканамічнай палітыкі. Ён абышоў такія балючыя пытанні, як падатак на беспрацоўе, рост тарыфаў ЖКГ, пашырэнне беспрацоўя, зніжэнне ВУП і рост інфляцыі. І нават не надаў увагі дэнамінацыі.

Як у савецкім анекдоце. «Мы рухаемся да камунізму сямімільнымі крокамі! — А чаму ж тады мяса ў крамах няма? — Я ж кажу, мы рухаемся да камунізму сямімільнымі крокамі! Худоба за намі не паспявае…»

## Насцярожвае

Трэба аддаць належнае спічрайтэрам кіраўніка дзяржавы. Падрыхтаваць двухгадзінную прамову, фактычна ўхіліўшыся ад праблем, і падкрэсліўшы нашы дасягненні, якія будуць развівацца і надалей, — гэта тытанічная праца.

Аляксандр Лукашэнка ў прамове для Усебеларускага сходу неаднаразова прыводзіў лічбы розных рэйтынгаў, у якіх краіна паднялася з ніжэйшага месца на вышэйшае. Гэта рэйтынг эфектыўнасці аховы здароўя, індэкс чалавечага развіцця, рэйтынг адукаванасці ў свеце і нават «Праграма тысячагоддзя» ААН, некаторыя пункты якой, па словах Лукашэнкі, мы ўжо выканалі. Гэта пункты па памяншэнні дзіцячай смяротнасці, барацьба з голадам, пісьменнасць насельніцтва. Праўда, гэтыя пункты мы выканалі яшчэ ў часы СССР, але хто ж гэта згадае…

Месцамі ў рэйтынгах былі заменены абсалютныя лічбы. Толькі зрэдку можна было пачуць, на колькі ў нас выраслі, напрыклад, інвестыцыі. Альбо колькі пабудавана жылля і колькі плануецца пабудаваць. Там, дзе такія паказчыкі не ўражвалі, гэта замянялася месцам у якім-небудзь рэйтынгу.

## Новая старая эканоміка?

Што ж датычна перспектываў, намаляваных нам на будучую пяцігодку, то, канешне ж, нам трэба для гэтага моцна папрацаваць. Але ў нас ёсць перспектывы росту, якія ўжо сёння працуюць.

Найперш, па словах Лукашэнкі, у Беларусі створана серыйная вытворчасць легкавікоў. Ён меў на ўвазе тыя самыя «Джылі» — «адрыжку» айчыннага аўтапраму. А за суперцяжкавіком БелАЗ, сказаў кіраўнік дзяржавы, «чарга стаіць». Бачна, ён меў на ўвазе рэкардсмена кнігі Гінэса, БелАЗ-75710, які можа падымаць 450 тон грузу.

Серыйную вытворчасць «Джылі» планавалі запусціць і ў 2013-м, і ў 2014-м гадах, але гэтых аўто на дарогах Беларусі так і не пабольшала. Што ж тычыцца «суперБелАЗаў», то такія машыны робяцца пад заказ (канешне, кошт аднаго экземпляра — мільён дзвесце тысяч еўра), і таму пра «чаргу» ўвогуле казаць не прыходзіцца.

Але не ў машынах справа. Справа ў дысанансе, які атрымліваецца, калі ўважліва слухаць прамову. Бачна, што раздзел пра дасягненні і раздзел пра перспектывы пісалі розныя людзі. З аднаго боку, Лукашэнка хваліць «Джылі» і разглядае яго як перспектыўны кірунак эканомікі краіны. З іншага — ён адразу ж кажа, на Захадзе зараз стаіць чарга па электракары.

Наконт электракараў ён слушна адзначыў, што ўвод у дзеянне Беларускай АЭС, якую плануюць раскачагарыць у 2018–2020-х гадах, дасць патрэбную энергію для такіх машын. Але навошта нам тады «ўчарашні дзень», то бок тыя самыя «Джылі»?

Лукашэнка кажа, што Захад імкнецца да «зялёнай эканомікі», і мы павінны таксама адпавядаць выклікам часу. І адначасна ўзгадвае тую ж БелАЭС, якую «зялёнай» назваць язык не павернецца.



Фота www.minsknews.by

**Лукашэнка прызнаў, што пяцігодка 2011–2016 гадоў была «праблемная». Але вінаватыя, як заўсёды, не мы. Вінаваты Еўрасаюз, у якім у 2013-м скараціўся ВУП. Вінаватая Расія, якая ўвайшла ў рэцэсію. «Гэта асноўная прычына», — сказаў Лукашэнка**

## Рэвалюцыі не будзе

Аляксандр Лукашэнка на Усебеларускім сходзе пацвердзіў сваю старую пазіцыю, агучаную неаднаразова: ніякай рэвалюцыі ў эканоміцы не будзе. Мы ў далейшым будзем толькі рэагаваць на выклікі часу і вырашаць праблемы, як кажуць, па меры іх паступлення. «Урад, можа быць нават увесь, прапануе радыкальныя крокі. Я кажу, нават калі яны правераныя жыццём, хто іх будзе рэалізоўваць? Калі 2–3 чалавекі разумных ведаюць, што рабіць, ці будуць рабіць астатнія? Патрэбны людзі. Я гатовы да любых рэформаў, ці гатовыя вы, грамадства? Мы ходзім па крохкім лёдзе. Але што будзе, калі мы пачнём ламаць крохкі лёд? Ніякіх радыкальных рэформаў не будзе», — сказаў ён.

Таму галоўнымі задачамі застаюцца мадэрнізацыя кіравання (лозунг, відавочна спёрты з перадвыбарчай праграмы Тацяны Караткевіч), скарачэнне дзяржапарату, «палітыка крохкага лёду» (выраз А.Р.) і гэтак далей. Не было прапанавана народу і новага «сацыяльнага кантракту», нягледзячы на тое, што Аляксандр Рыгоравіч шмат казаў пра ваенныя пагрозы і мірнае неба над галавою.

Галоўную выснову прамовы можна акрэсліць словамі: «Пацярпіце, хутка ўсё будзе».

## Простыя словы

Некалькі цытатаў ад Аляксандра Рыгоравіча:

«Паланэз» — гэта мой, наш падарунак да Пятага Усебеларускага сходу, гарант чыстага неба» (маецца на ўвазе ракетная сістэма «Паланэз» беларускай вытворчасці, выпрабаванні якой паспяхова скончыліся днямі).

«Нельга дзяцей перагружаць у школе. Яны ў нас напалову хворыя і гарбатыя ходзяць».

«Мужык у 20–25 год не ўмее лямпачку ўкруціць альбо затачыць нож на кухні. А дзяўчо, яна што, умее гузік прышыць? Чаму мы ад гэтых элементарных рэчаў адышлі ў школе?»

«Нармальныя падручнікі — гэта ікона ў школе».

«Дакажыце, што там гэтага няма. Пакуль ніхто не даказаў. А калі не даказалі, што няма, значыць, ёсць» (Лукашэнка ставіць міністру прыродных рэсурсаў задачу знайсці ў «нашай матухне-зямлі нават тое, што ўявіць немагчыма»).

«Чужога браць нельга, я пра гэта 20 гадоў кажу. Не бачу я, не бачаць праваахоўныя органы — вы ж усе ў царкву ходзіце. Ён жа ўсё бачыць!» (пра карупцыю).

Пра БелАЭС і пратэсты эколагаў з нагоды яе будоўлі: «Нас пачынаюць сёння накланяць. Народ павінен гэта ведаць. Мы гэта ведаем і на калені не ўстанем!» (бурныя апладысменты).

# Што гэта было? Гісторыя Усебеларускіх сходаў

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Фармальна Усебеларускі сход збіраецца для абмеркавання пытанняў развіцця краіны на наступныя пяць гадоў. На самай жа справе ён заўсёды быў прымеркаваны да пэўнай палітычнай акцыі.**

## Першы — па рэферэндуме

Першы Усебеларускі сход адбыўся 19–20 кастрычніка 1996 года з нагоды ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму, галоўным пытаннем якога была новая рэдакцыя Канстытуцыі, якая істотна ўзмацняла прэзідэнцкую ўладу.

Ён праходзіў у Палацы спорту ў атачэнні армейскіх фармаванняў. Па словах самога Лукашэнкі, гэта яму «по-отечески» параіў кіраўнік расійскага ўраду Віктар Чарнамырдзін.

Першы сход быў самым шматлікім. На яго прызначылі ажно 4740 дэлегатаў. З іх 1164 складалі жанчыны, 637 — працоўныя і калгаснікі, 554 — інжынерна-тэхнічныя кадры, а таксама студэнты, пенсіянеры і вайскоўцы, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, прадстаўнікі сацыяльна-культурнай сферы.

Гэты сход зацвердзіў сваю структуру, якая застаецца нязменнай і да сёння: прэзідыум, сакратарыят, мандатная камісія, рэдакцыйная камісія, падліковая камісія.

Менавіта тады Лукашэнкам былі вызначаны галоўныя прыярытэты развіцця: экспарт, жыллё, харчаванне. У знешняй палітыцы ўпершыню была дэклараваная знакамітая шматвектарнасць.

Першы Усебеларускі сход меў праблемы з легітымнасцю. Форум не быў прапісаны ў Канстытуцыі. Нездарма дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання Анатоль Нятылькін, які падтрымліваў Лукашэнку, заклікаў замацаваць статус сходу ў новым праекце Асноўнага закона.

На тым мерапрыемстве выступіў сённяшні кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Аляксандр Косінец, які тады быў прафесарам Віцебскага медынстытута: «Гарантам правоў, свабодаў і сапраўднай дэмакратыі быў, ёсць і будзе Лукашэнка. Моцнага Вам здароўя!»

Варта адзначыць, што тады былі рэдкія, але ўсё ж крытычныя ацэнкі і прапановы. Напрыклад, старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі XIII склікання па адукацыі, навуцы і культуры Уладзімір Плешчохоў прапанаваў уключыць у канстытуцыйны праект прапанову, якая дапускала адхіленне кіраўніка дзяржавы ад улады з-за парушэння прысягі. Ён жа прапанаваў прыбраць з праекта норму, згодна якой адлік паўнамоцтваў прэзідэнта пачынаецца з уступлення ў дзеянне новай рэдакцыі Канстытуцыі.



Лукашэнка падчас працы Першага Усебеларускага народнага сходу з іконай св. Міхаіла Архангела — падарункам дэпутатаў Дзярждумы Расіі




Плакат, прысвечаны Трэцяму Усебеларускаму народнаму сходу

Рэзалюцыя першага сходу мела палітычны характар: яна была цалкам прысвечана рэферэндуму і заклікала дэпутатаў Вярхоўнага Савета адклікаць альтэрнатыўны праект Канстытуцыі. З 4740 дэлегатаў 11 выказаліся супраць такой рэзалюцыі, а 47 устрымаліся.

На наступных сходах такой «дэмакратыі» больш не было.

Зборнік матэрыялаў сходу быў надрукаваны пад грыфам прэзідэнцкай адміністрацыі і пад назвай «Толькі народ мае права вызначаць свой лёс» накладам у 1000 асобнікаў.

## Другі — да прэзідэнцкіх выбараў

Сход адбыўся 18 мая 2001 года ў будынку Палаца Рэспублікі. Той факт, што ён прайшоў цягам аднаго дня і за некалькі месяцаў да прэзідэнцкіх выбараў, хутчэй за ўсё сведчыў пра ўпэўненасць кіраўніка дзяржавы ў папярэднім выніку будучай кампаніі. Форум праходзіў пад лозунгам «За моцную, квітнеючую Беларусь!», а яго лейтматывам сталі словы Лукашэнкі: «Мы паднялі нацыю з каленяў».

Гэты сход быў амаль удвая меншы па колькасці за папярэдні: у ім прынялі ўдзел 2 500 дэлегатаў, з іх — 755 жанчын, 221 — працоўных, 273 — прадстаўнікоў сельскай гаспадаркі, а таксама інжынерна-тэхнічныя кадры, прадстаўнікі сацыяльна-культурнай сферы, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый, студэнты, пенсіянеры, прадпрымальнікі.

На ім была замацавана традыцыя запрашэння ў якасці дэлегатаў асоб з сусветным імем. У працы Другога Усебеларускага сходу браў удзел лаўрэат Нобелеўскай прэміі Жарэс Алфёраў, які там жа быў узнагароджаны ордэнам Францыска Скарыны. Алфёраў заклікаў Беларусь, Расію і Украіну падпісаць новую дамову аб стварэнні Саюза ў Брэсцкай крэпасці.

Што да легітымнасці, то гэты сход адбыўся паводле закона «Аб рэспубліканскіх і мясцовых сходах», які быў прыняты 12 ліпеня 2000 года. Лукашэнка, звяртаючыся да дэлегатаў сходу, асабліва звярнуў на гэта ўвагу.

Гэты форум быў самым «лагодным» з усіх. На ім адсутнічалі выпады адносна палітычных апанентаў, рэзалюцыя мела выключна сацыяльна-эканамічны характар. На першае месца была пастаўлена эфектыўная медыцына, затым ішла актывізацыя інвестыцыйнай і інавацыйнай палітыкі і г.д.

Пасля сходу накладам у 3000 асобнікаў выйшаў зборнік дакументаў і матэрыялаў. У складзе рэдкалегіі — такія вядомыя асобы, як Уладзімір Замяталін (на той час — намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта), а таксама пісьменнік Эдуард Скобелеў (на той час — галоўны рэдактар Інфармацыйнага бюлетэня прэзідэнцкай адміністрацыі).

**Усебеларускі народны сход ператварыўся ў добра адрэжысаваны спектакль са строгім іерархічным размеркаваннем роляў удзельнікаў**

## Трэці — «Дзяржава для народа»

Да прэзідэнцкіх выбараў быў прымеркаваны і Трэці Усебеларускі сход. Ён адбыўся 2–3 сакавіка 2006 года пад лозунгам «Дзяржава для народа».

Гэта быў самы ўзнёслы і эмацыйны форум. Ён паклаў пачатак выпуску адпаведных прапагандысцкіх плакатаў. З нагоды яго правядзення з'явілася адмысловая паштовая капэрта з маркай. Зборнік дакументаў і матэрыялаў пад рэдакцыяй першага намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Анатоля Рубінава і намесніка Алега Праляскоўскага выйшаў накладам у 7000 асобнікаў.

Напярэдадні сходу Інстытутам сацыяльна-палітычных даследаванняў пры прэзідэнцкай адміністрацыі была выдадзена брашура «Беларусь напярэдадні Трэцяга Усебеларускага народнага сходу», дзе пад адной вокладкай былі сабраныя заклікі пра паляпшэнне прамысловасці, сельскай гаспадаркі, росце даходаў насельніцтва, якія дзяржаўная прапаганда паўтарала гадамі.

У гэтай брашуры не інакш як з іроніяй можна прачытаць: «Сведчаннем высокага даверу Расійскай Федэрацыі да нашай рэспублікі з'яўляецца захаванне для Беларусі льготнага кошту на газ па ўнутрырасійскіх цэнах (46 долараў за 1 тыс. кб.)».

У трэцім сходзе бралі ўдзел 2500 дэлегатаў. Кожны пяты ўдзельнічаў у працы папярэдняга сходу. Упершыню былі запрошаны былыя партыйна-дзяржаўныя кіраўнікі БССР: Мікалай Дзямянцей, Анатоль Малафееў, Мікалай Слюнькоў, Яфрэм Сакалоў, а таксама лётчыкі-касманаўты СССР — беларусы Уладзімір Кавалёнак і Пётр Клімук. У працы сходу прымаў удзел кіраўнік расійскай Дзярждумы Барыс Грызлоў.

Акрамя Лукашэнкі безумоўным фаварытам форума стаў старшыня праўлення Нацбанка Пётр Пракаповіч, якія атрымаў званне Героя Беларусі. Сам Лукашэнка і Пётр Клімук, які «сядзеў з Пецем Пракаповічам за адной школьнай партай», прамовілі сапраўдныя панегірыкі галоўнаму банкіру краіны.

Па напалу эмоцый Трэці Усебеларускі сход пераўзышоў папярэднія. Лукашэнка абрынуўся на альтэрнатыўных кандыдатаў у прэзідэнты — Аляксандра Казуліна (які быў удзельнікам папярэдняга сходу і імкнуўся ўдзельнічаць і ў гэтым, але быў жорстка збіты) і Аляксандра Мілінкевіча. Дасталося і былому старшыні Вярхоўнага Савета XII склікання Мечыславу Грыбу, які быццам бы, па словах прэзідэнта, старэйшы за яго ў два разы.

Трэці сход запомніўся «перламі» кіраўніка дзяржавы наконт Скарыны і Піцера, «здорового дурака», лякалаў для адзення. У выдадзеных афіцыйных матэрыялах тыя хібы былі, безумоўна, выкрасленыя.

У рэзалюцыі Трэцяга Усебеларускага народнага сходу на першае месца была пастаўлена барацьба з карупцыяй, а таксама «ўсебаковае гарманічнае развіццё чалавека на аснове павышэння рэальных грашовых даходаў».

## Чацвёрты — «Разам дзеля будучыні»

Чацвёрты Усебеларускі сход адбыўся 6–7 снежня 2010 года пад лозунгам «Разам дзеля будучыні», і быў прымеркаваны да чацвёртых прэзідэнцкіх выбараў. У ім прымалі ўдзел 2500 дэлегатаў.

На сход упершыню былі запрошаны былыя прэм'ер-міністры Вячаслаў Кебіч, Уладзімір Ярмошын, Сяргей Лінг, а таксама партфункцыянер часоў БССР Аляксей Камай.

Зборнік матэрыялаў выйшаў накладам у 3000 асобнікаў. Невядома, хто курыраваў яго выданне: адсутнічае склад рэдкалегіі, а таксама грыф Адміністрацыі прэзідэнта. Пазначана толькі шараговае прозвішча адказнага за выпуск.

Удзельнікам Чацвёртага Усебеларускага сходу шляхам збору подпісаў за сваё вылучэнне імкнуўся стаць адзін з кандыдатаў на пасаду прэзідэнта — Уладзімір Някляеў. Аднак у адміністрацыі Ленінскага раёна сталіцы яго кандыдатура не была зарэгістраваная.

«Чырвонай рысай» выступу Лукашэнкі на форуме праходзіла ідэя лібералізацыі эканомікі, свабоды бізнесу. Менавіта тады нарадзіўся знакаміты лозунг: канкурэнцыя — паўсюль, дзе магчыма, дзяржаўнае рэгуляванне — там, дзе неабходна. Беларускі кіраўнік таксама папярэджваў аб недапушчальнасці рэвалюцый, ліміт якіх нібыта ўжо вычарпаны.

На сходзе выступіў лідар расійскіх камуністаў Генадзь Зюганаў, які аддаў належнае геніяльнасці Сталіна, маючы на ўвазе заключэнне пакта ***«Молотова-Ребентропа»*** (так у тэксце зборніка матэрыялаў. — А.К.).

Прамовы астатніх выступоўцаў зводзіліся да ўсхвалення кіраўніка дзяржавы. Рэзалюцыя сходу мела выключна авантурны характар: «Лічыць ключавой задачай пяцігоддзя стварэнне ў Беларусі прынцыпова новых вытворчасцяў, фарміраванне новага аблічча беларускай эканомікі, Беларусь павінна ўвайсці ў лік першых 50 краін свету з найвышэйшым індэксам развіцця чалавечага патэнцыялу».



Галасуюць дэлегаты Чацвёртага Усебеларускага народнага сходу

i | Я працую па размеркаванні



# «Пяць гадоў я наўпрост выкінула»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Жэня скончыла Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «інжынер-эканаміст» і пайшла па размеркаванні. Аднак месца працы ёй не спадабалася, і яна здолела пераразмеркавацца.**

### Актрыса не атрымалася

Калі я пачала размову з Жэняй, адразу заўважыла яе экспрэсіўнасць. Дзяўчына за хвіліну магла некалькі разоў памяняць інтанацыі ў голасе, і кожны сказ напяваць усё новымі мелодыямі. «Добра было б ёй быць актрысай», — падумалася мне. Жэня нібыта прачытала мае думкі і стала распавядаць, што ў дзяцінстве марыла быць спявачкай альбо актрысай. Нават сама пайшла ў тэатральны гурток, але кар'ера чамусьці не склалася.

Аўтарытэтам для Жэні, як гэта часта здараецца, была старэйшая сястра. Яна здала ЦТ па матэматыцы на 99 балаў і абрала спецыяльнасць, звязаную з кампутарнымі сістэмамі. Пасля гэтага акцёрскія мары Яўгеніі канчаткова развеяліся: спецыяльнасць, атрыманая ва ўніверсітэце, павінна быць сур'ёзнай і важнай, а астатняму навучышся на курсах.

На ЦТ дзяўчына здавала матэматыку, рускую і англійскую мовы. Куды менавіта паступаць, Жэня думала вырашаць «па факце», галоўнае, каб гэта быў бюджэт. Дзяўчына набрала 330 балаў, таму выбіраць было з чаго. «Наргас я нават разглядаць не хацела, мне папросту не падабалася назва. Калі вучыцца, дык толькі ў БДУ. Тады я думала: эканамічная адукацыя ніколі не пашкодзіць».

### Чаканне абуджэння

Але ў БДУ Жэня не паступіла і пайшла ў БНТУ. «Калі мне маці прапанавала разгледзець спецыяльнасць інжынера-эканаміста, я вельмі раззлавалася. Я была так радая развітацца з фізікай-матэматыкай, а тут зноў усё гэта на пяць гадоў. Але і суседзі сталі мяне пераконваць: маўляў, атрымаеш добрую спецыяльнасць, і столькі хлопцаў там будзеш бачыць, і мужа сабе знойдзеш! — Жэня іранічна ўсміхнулася. — Ну-ну!»

Універсітэт не спадабаўся дзяўчыне з першага ж дня. Напэўна, такое адчуванне з'яўляецца натуральным, калі паступаеш кудысьці, глушачы сваё «я». Жэня адчувала — гэта зусім не яе. Але на першым курсе закахалася, таму астатняе было без розніцы. Другі курс яна адыходзіла ад роспачы расстання. А пасля панеслася — моўныя, тэатральныя, цырульныя курсы, моладзевыя праекты, міжнародныя абмены студэнтаў... Жэня шчыра прызналася, што канспекты не пісала, лекцыі прагульвала: «Я была ўпэўнена, што аднойчы расплюшчу вочы і зразумею: «О Божухна, як жа я раней не магла здагадацца, што маё месца — гэта (я думала, што Бог яго пакажа)...» Тады б я кінула ўсё і паступіла б туды, дзе і размеркаванне не падавалася б страшным»...

### «Я ж не «супер-ваў»

Азарэнне ўсё ж прыйшло да Жэні. Толькі заззяла яно іншымі прамянямі. Дзяўчына прачнулася і зразумела, што ўжо піша дыплом! Пяць гадоў прайшло, а яна яшчэ нібыта абітурыент, які знаходзіцца ў пошуку. Прыйшоў час думаць і пра размеркаванне. Яўгенія меркавала, што ўсе захочуць узяць яе да сябе маркетолагам альбо лагістам, і наогул, што сама справіцца з пошукам працы. Але ўсе гутаркі заканчваліся правалам. Ніхто не хацеў браць дзяўчыну без магчымасці звольніць, калі яна ўсё ж такі апынецца не «супер-ваў», як яна пра сябе думала.

Потым студэнтам было абвешчана, што, калі яны размяркоўваюцца ў прыватныя фірмы, то абавязаны выплаціць «дапамогу» БНТУ ў памеры апошняга года навучання. Пасля гэтага Жэня спыніла пошукі і стала чакаць прапаноў ад універсітэта. У выніку дзяўчыне паказалі адзіны варыянт на кафедры: навуковы інстытут (назву інстытута дзяўчына пажадала не агучваць), які выконвае даручэнні міністэрства.

«Мне сказалі, што я буду займацца навуковай дзейнасцю. Туды патрэбны быў, прынамсі, магістрант, але мне сказалі, што падыду і я. Канешне, бо заяўка на гэтае месца ляжала аж два гады! На пытанне «чаму?», загадчыца кафедрай адказала: навука — гэта для дарослых, а моладзі там сумна».

Дзяўчына схадзіла на гутарку. У Жэні запыталіся пра сярэдні бал і ці збіраецца яна ў дэкрэт. І сказалі, што будзе магчымае пераразмеркаванне. Жэня вельмі добра запомніла менавіта гэта.

### Праца, якую заядаеш салодкім

Першы дзень адпрацоўкі прайшоў у хваляванні: «Я ніколі не працавала на сур'ёзным месцы, таму мне падавалася, што трэба будзе рабіць нешта мегаважнае. Але ў першы ж дзень я зразумела: мегаважнае — не да мяне. Нам прыходзілі даручэнні з Міністэрства кшталту: «Напішыце, як усё кепска». Але кепска павінна быць не праз нашы памылкі. Альбо напісаць, як усё добра. Вось так цэлымі днямі і ламалі галаву, як прыдумаць «добрае» або «кепскае».

На працы Жэня проста сядзела, правярала пошту, чакала пастаноў, і рабіла выгляд, што яна робіць нешта важнае і значнае.

Кожны год інстытут, дзе працавала Жэня, павінен быў пісаць навуковую справаздачу на дадзеную міністэрствам тэму. Дзяўчына патлумачыла, што гэта нешта накшталт дыпломнай, за якую міністэрства пералічвае інстытуту грошы. Уся яе праца і заключалася ў напісанні справаздач і манітарынгаў: «Мне было вельмі сумна. Мне хацелася бачыць вынік маёй працы. Напрыклад, пекар спёк хлеб — хлеб набыў чалавек, чалавеку смачна — і ён шчаслівы...»

«У нас было заданне, якое павінны былі выконваць маладыя спецыялісты. Яно заключалася ў прыдумванні функцый міністэрству. Напрыклад, адна з функцый міністэрства, якую прыдумалі, — сінтаксічная. Прыдумкі мы дасылалі. А нам зноўку давалі заданне прыдумляць новыя функцыі... Усе гэта спраўна выконвалі, а я — не бачыла сэнсу. Відавочна, што сістэма задання не ёсць слушнай, вынік будзе няправільным, і наогул гэта было падобна на ідыятызм! Я баялася, што я адна з такімі думкамі. Але ў выніку апынулася, што большасць лічыла, як і я, але добрасумленна ўсё выконвалі».

**У нас было заданне, якое павінны былі выконваць маладыя спецыялісты. Яно заключалася ў прыдумванні функцый міністэрству. Адна з функцый міністэрства, якую прыдумалі, — сінтаксічная. Усе гэта спраўна выконвалі, а я — не бачыла сэнсу**

«У мяне пачалася дэпрэсія, якую я стала заядаць салодкім кожны дзень. Я ела вельмі шмат салодкага! Тады пачала займацца спортам — на працягу трох месяцаў я амаль кожны дзень хадзіла на трэніроўкі. Пасля забіла на гэта і зноўку сядзела і ела».

Жэнін заробак складаў 3 750 000 рублёў плюс квартальныя прэміі. З гэтых грошай дзяўчына набывала праязны, раз на два месяцы аплачвала моўныя курсы, адкладала па 10–20 долараў. Ежу набывалі бацькі. І на каву ды гарбату з сяброўкамі грошай хапала. Бывала і так, што бацькі пад канец месяца давалі грошы на праезд і ежу.

З плюсаў працы Жэня вылучыла добры калектыў — з ёй працавалі жанчыны розных пакаленняў.

### Пераразмеркаванне як выйсце

На сумнай і бессэнсоўнай працы Яўгенія павольна і безнадзейна праглядала вакансіі на «Tut.by». І пабачыла, што на адной фірме з'явілася вакансія, дзе патрабаваліся веданне мовы, актыўнасць і гэтак далей. Жэня вырашыла хаця б для асабістага досведу прайсці сумоўе. А ў выніку яна спадабалася кіраўніцтву, а кіраўніцтва спадабалася ёй. І, што ўзрадавала Жэню, — іх не спужала яе пераразмеркаванне. «Мне вельмі хацелася папрацаваць у гэтай кампаніі, якая займаецца ІТ-сферай, хацелася руху, цікавых нестандартных задач. Там неверагодна вялікая каманда і неверагодна вялікі офіс!» — усклікае дзяўчына. Натуральна, гэта зусім не тое, пра што Жэня марыла ўсё жыццё, але сабе яна даказала, што немагчымае магчыма.

### Не баяцца шукаць і знаходзіць

За некалькі дзён Жэні трэба было звольніцца і пераразмеркавацца. Намеснік дырэктара сказала, што не хоча ламаць жыццё дзяўчыне, і адпусціла яе, але без дазволу ўніверсітэта дзяўчыну звальняць не пагаджаліся. З універсітэтам у Жэні ўзніклі праблемы — доўга рыхтаваліся патрэбныя дакументы. Тым не менш, усё склалася на яе карысць.

«Кажуць, ні пра што не варта шкадаваць. А я шкадую, што адвучылася пяць гадоў. Можна сказаць, што я іх наўпрост выкінула. Не мела ўяўлення, што гэта за спецыяльнасць, кім я хачу быць і што мяне чакае. А пяць гадоў праляцелі незаўважна — і іх не вернеш. Усё ж лепш год не паступаць, не баяцца асуджэння, папрацаваць афіцыянтам або яшчэ кім-небудзь і падумаць, чаго ты хочаш ад гэтага жыцця. І ці патрэбная наогул табе вышэйшая адукацыя?» — кажа Яўгенія.

Жэня — гэта прыклад таго, што варта не баяцца шукаць сябе. Калі адчуваеш, што тое, што ты робіш, не тваё — кідай і ідзі далей.

Чамусьці я ўпэўнена, што і гэта працоўнае месца — не на ўсё жыццё. Але пакуль Жэні падабаецца, што яна працуе не ўпустую. У трохпавярховым офісе ІТ-кампаніі дзяўчына бачыць вынік сваёй працы. І ад гэтага хочацца працаваць, а не «выседжваць» восем гадзін — хаця і заробак не вышэй за папярэдні.

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №6 (118)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Незалежнасць у чырвона-зялёным

**Напэўна, усе ўжо чулі гэтую аб'яву ў метро — пра тое, што варта начапляць новы беларускі сімвал Перамогі — кветку яблыні на чырвона-зялёнай бутаньерцы. Замяшчэнне чорна-аранжавай стужкі яблыневым кветам пачалося яшчэ ў пазамінулым годзе, але цяпер у ім абазначыўся адзін нюанс.**



Яблыневы квет на чырвона-зялёным фоне названы сімвалам Перамогі, якая забяспечыла Беларусі незалежнасць. Пра гэта кажуць не толькі дыктары ў метро, пра гэта напісаныя канцэптуальныя абгрунтаванні.

БРСМ падрыхтаваў грунтоўны дакумент пад назвай «Канцэпцыя правядзення рэспубліканскага патрыятычнага праекта «Кветкі Вялікай Перамогі». У экспплікацыі сцвярджаецца, што вобраз «адлюстроўвае <…> поспех і росквіт суверэннай дэмакратычнай Беларусі». Такім чынам, мы замяняем георгіеўскую стужку, якая была фундаваная Кацярынай II — той самай Кацярынай, якая знішчыла незалежнасць нашай краіны — на яблыневы квет на чырвона-зялёным фоне, нібыта пазбаўленым імперскіх канатацый.

Так, незалежнасць праступае ў гэтым сімвале быццам двойчы: першы раз у кантэксце свабоды ад гітлераўскай навалы, другі раз — як незалежнасць ад Кацярыны II і расійскай імперыі, якая ганарыцца каляровым спалучэннем, з'яўленне якога прыпадае на той самы час, калі драбілі Рэч Паспалітую.

І нездарма, здаецца, «незалежніцкі» голас загучаў у метро акурат пасля таго, як «Газпрам» агучыў намер падаць у суд на беларускія прадпрыемствы па спагнанні пазыкі. Яны нарэшце зразумелі тое, пра што па-беларуску пісалася апошнія дзесяць гадоў. Яны спрабуюць зрабіць са свята Перамогі нацыянальны дзень памяці. І на першы погляд усё неяк атрымліваецца. Але толькі на першы погляд.

Як мы памятаем, эпідэмія георгіеўскіх стужак у Беларусі была павальнай. У 2006–2008 гадах іх пачалі чапляць на свае карчы амаль усе: таксёры, пацаны з раёнаў, маршрутчыкі, дальнабоі, шафёры з АПК, дзядзькі на прадстаўнічых «Мэрсах». Гэта сталася стыхійнай (хай сабе і добра спланаванай РІА «Навіны», «Срэбным дажджом» і «Студэнцкай грамадой») акцыяй, цэсна завязанай на памяць. Усе, хто прыгадваў Перамогу і ганарыўся ёй, а ганарыліся і прыгадвалі мільёны, бо чалавеку ў жыцці патрэбныя нагоды для гонару і радасці, — чаплялі стужку як увасабленне памяці.

Што адбываецца з «Кветкамі Вялікай Перамогі»? Ці шмат вы бачылі кіроўцаў з белымі суквеццямі? Хіба які таксёр замяніў георгіеўскую стужку яблыневай?

Чырвона-зялёны квет стаў атрыбутам люду, які гоняць на мітынг ці ўрачыстасці. Іх можна пабачыць на людзях, якія ідуць з урачыстасцяў ці святкуюць у парку пасля таго, як урачыстасці скончыліся. Іх не адразу здымае моладзь пасля таго, як заканчваюцца лінейкі. Але масавай ды стыхійнай заменай георгіеўскай стужцы сімвал не стаў.

І на маю думку гэта тлумачыцца не толькі тым, што ў краіне з такой запазычанасцю па заробках і 6% інфляцыяй па выніках трох месяцаў трэба быць супрацоўнікам гарвыканкаму, каб чапляць дзяржаўную сімволіку на люстра свайго аўтамабіля і спадзявацца, што на гэтым аўтамабілі ўдзячныя суседзі не выведуць ключом «За моцную і квітнеючую Беларусь!».

Гэтая замена «Георгія» не спрацоўвае таму, што яна — роўна пра тое, чым таго «Георгія» хочуць замяніць. І тут нам зноўку трэба вярнуцца ў самы пачатак. Ці атрымала ў 1945-м годзе Беларусь незалежнасць? Так, яе вызвалілі ад гітлераўцаў (прычым не 9 траўня, а яшчэ ў 1944-м). Але ці свабоднай яна зрабілася? Ці суверэннай? І, калі яна зрабілася свабоднай, навошта было ў 1990-м прымаць Дэкларацыю аб суверэнітэце?

Калі ж мы прызнаем, што вызваленне ад сталінізму ды савецкасці ў 1945-м годзе не адбылося, чаму сімвалам Перамогі мы абіраем чырвона-зялёны фон? Той самы, які быў дзяржаўным колерам Савецкай Беларусі? Ці ёсць гэта сапраўдным сімвалам нашай незалежнасці, пра якую мне кажуць у метро, пра якую напісана ў «Канцэпцыі «Кветак Вялікай Перамогі»»? То бок сапраўдная незалежнасць — гэта калі кіраўніка краіны прызначаюць у Маскве, усе дзяржаўныя выдаткі вызначаюцца ў Маскве, грошы на тэрыторыі ходзяць савецкія, адукацыя ўбудаваная ў савецкі марксісцкі адукацыйны праект — вось гэта тая незалежнасць, якую вы хочаце, каб святкаваў народ?

Расіяне, чапляючы георгіеўскія стужкі, радуюцца славе ўласнай зброі, якая перамагла турак у 1774-м. І дзіва, што беларусы не спяшаюцца чапляць чырвона-зялёны яблыневы квет! Ён не пра нас.

Сады квітнеюць не толькі ў Беларусі, само квітненне можа сімвалізаваць што заўгодна. Гэта занадта шырокі, а таму абсалютна пусты знак.

Што да бутаньеркі, то семіятычным рэферэнтам гэтага знаку з'яўляецца савецкае панаванне, дэсігнатам — каляровая сімволіка Беларускай ССР. Каб выцісунць вірусное пакланенне народа чужой сімволіцы, варта прапанаваць сваё, гэткае ж вірусное. Але гэтае сваё мусіць быць не пустым, безрэферэнтным, а адсылаць да сапраўдных герояў і сапраўдных перамог.

Здаецца, Янка Маўр быў першым, хто яшчэ ў 1945-м годзе звязаў супольную польска-літоўска-рускую перамогу над тэўтонцамі пад Грунвальдам з вайной з гітлераўцамі. Пра ідэйны патэнцыял Грунвальда можна прачытаць у цудоўнай кнізе Генадзя Сагановіча «Грунвальд у беларускай гісторыі: спроба разбору палітычнага міфу». Пячатка Вітаўта, зброя ягонага войска, Вітаўтавы харугвы — усё гэта магло быць цудоўным замяняльнікам чырвона-зялёнай савецкасці ды нулявых азначэнняў кветкі яблыні.

Дзед Талаш, Янка Купала, любы пазнавальны нацыянальны дзеяч ваеннай эпохі мог бы спрацаваць на суверэнныя нацыянальныя канатацыі гэтага сімвала лепей за чырвона-зялёную бутаньерку.

Мроіцца, канечне, раённы бамбіза, у якога на дваццацігадовым «Subaru Impreza» побач са «Спасибо деду за Победу» лунае вершнік, узяты з Вітаўтавай пячаткі. І ўсё гэта на бел-чырвона-белым фоне.

Усведамляючы, што гэтыя мроі — пра іншую Беларусь, я не адмаўляю сабе ў асалодзе верыць, што аднойчы і я ў ёй прачнуся.

**Віктар Марціновіч, budzma.by**

## Конкурс «Зразумей Украіну»

**Саюз беларускіх пісьменнікаў, Літаратурны дом «Логвінаў» і Беларускі ПЭН-Цэнтр абвяшчаюць конкурс эсэ і перакладаў сучаснай украінскай літаратуры «Зразумей Украіну».**

Конкурс праводзіцца ў дзвюх намінацыях:
1. Пераклад сучаснай украінскай літаратуры (паэзія, кароткае апавяданне, эсэ).
2. Аўтарскае прачытанне сучаснай украінскай літаратуры (рэферат або эсэ, прысвечанае аднаму з сучасных украінскіх аўтараў альбо канкрэтнаму твору).

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца школьнікі і студэнты, маладзейшыя за 25 год, якія стала пражываюць у Беларусі. Мова твораў — беларуская, руская, украінская.

Тэксты ў электронным выглядзе (фармат Word, 14 кегль, максімальны памер пераклада або твора 20 старонак) трэба дасылаць на адрас: zrazumiec.ukrainu@lohvinau.by

Тэксты прымаюцца да 25 кастрычніка 2016 года.

Абвяшчэнне пераможцаў адбудзецца напрыканцы лістапада.

Першыя месцы ў намінацыях атрымаюць планшэт, другія і трэція — чыталку. Усе ўдзельнікі атрымаюць кніжныя падарункі ад кнігарні «Логвінаў» і будуць запрошаныя на майстар-клас па творчым пісьме.

У журы конкурса ўваходзяць прадстаўнікі Літаратурнага дома, Беларускага ПЭН-Цэнтра і Саюза беларускіх пісьменнікаў.




# «Лета з Быкавым»

**Саюз беларускіх пісьменнікаў і Kniharnia. by прэзентуюць новы аўдыёпраект «Лета з Быкавым» і прадстаўляюць у папулярных аўдыёфарматах (у тым ліку для iPhone, iPod, iPad) тры аповесці класіка нацыянальнай літаратуры «Бліндаж», «У тумане» і «Пакахай мяне, салдацік».**

Акцыя распачынаецца напярэдадні 19 чэрвеня, Дня нараджэння Васіля Быкава.

Тэксты славутага творцы агучылі акцёры Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Запіс зроблены на студыі «HUKAPIS» кампаніі Prastora.by.

На сайце lit-bel.org можна бясплатна паслухаць першыя пяць раздзелаў кожнага з твораў, а спампаваць аўдыёаповесці цалкам — на сайце kniharnia.by.

Нагадаем, што раней Саюз беларускіх пісьменнік прапанаваў чытачам у электроннай версіі першыя дзесяць тамоў Поўнага збора твораў Васіля Быкава, а зусім нядаўна — яго кнігу «Парадоксы жыцця». Кнігу Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава склалі тэксты, напісаныя ў апошнія гады, якія выйшлі ўпершыню папяровым выданнем у 2004 годзе. Гэтая кніга-білінгва (пераклад на рускую мову Ірыны Шаўляковай) таксама даступная бясплатна ў электронным фармаце на сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў lit-bel.org.



# Штамп у пасведчанне аб нараджэнні

**У мінскім Літаратурным музеі Петруся Броўкі адбыўся выпускны вечар Школы маладога пісьменніка пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**

Прыгожыя людзі ўсміхаліся на ўсе свае магчымасці, і было бачна, што яны напраўду хвалююцца, напоўніцу адчуваюць урачыстасць моманту і якоесь замілаванне да каляжанак і калегаў.

Выступоўцаў было больш за два дзясяткі, рэгламент абавязваў да лаканічнасці. Куратаркі школы Юлія Цімафеева і Алена Казлова адзначылі, зазначылі і падкрэслілі ўсю важнасць існавання Школы пісьменніка і тое, як добра на гэты раз былі матываваныя навучэнкі і навучэнцы. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч павіншаваў «школьнікаў» з выпускам і папрасіў паболей твораў, якія выклікалі б здзіўленне, бо з гэтага здзіўлення якраз і жывіцца літаратура. Далей па альфабэтным парадку выступалі і спрабавалі здзівіць выпускніцы, два выпускнікі і трое выкладчыц: Ганна Бутырчык, Наталля Паваляева і Людміла Рублеўская; усіх іх па чарзе выклікалі з бітма запоўненай кватэры Броўкі двое суіскальнікаў сэртыфікатаў Школы: Канстанцін Касяк і Дар'я Кулік.

На сцэну кожны ішоў, як на дзяржаўны іспыт, трымаючы ў руках шпоры — свае літаратурныя творы. І калі атмасфера літаратурных чытанняў прозы не патрабуе асаблівай дэталізацыі, то рэплікі, якія папярэднічалі агучванню твораў ці ўрыўкаў, былі даволі пакальныя: у паветры насілася параўнанне з радзільнай залай…

Напрыканцы ўсіх чакала «раздача сланоў», а менавіта сертыфікатаў па заканчэнне Школы, якія, з увагі на вышэйсказанае, можна было назваць і пасведчаннямі аб нараджэнні. Па выхадзе з «радзільнага дома» дыпламанткі і дыпламанты ўліліся ў кантэкст агульнагарадскіх святкаванняў выпускніка, умца-умцалі сумнеўнай музыкай кавярні на праспекце, калі я вяртаўся дадому, але ў якой з іх раствaрыліся літаратаркі і літаратары, цяжка было зразумець. Горад удаваў, што нічога асаблівага не адбылося. Як быццам бы і не ўзнікла новай генерацыі беларускай прозы, лічыцца з якой неўзабаве давядзецца ўсім.

**Ціхан Чарнякевіч**

# Беларуская аўтарка — хто яна?

**У Варшаве прайшоў чарговы Міжнародны кірмаш, на якім была прадстаўлена і сучасная беларуская літаратура.**

«Books From Belarus» — некамерцыйны праект, галоўная мэта якога — прэзентацыя беларускай літаратуры за межамі краіны. У гэтым годзе арганізатаркі праекта ўзялі за мэту не толькі прадставіць лепшыя кнігі беларускіх незалежных выдавецтваў, але і паказаць менавіта жаночы твар беларускай літаратуры.

Не сакрэт, што, нягледзячы на багацце літаратурнай спадчыны, афіцыйны канон беларускай літаратуры і «пантэон класікаў» прадстаўлены мужчынскімі імёнамі: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Васіль Быкаў, Уладзімір Караткевіч. Цягам усяго XX стагоддзя адчуваўся выразны гендарны дысбаланс, і сітуацыя крыху змянілася толькі з распадам Савецкага Саюза і набыццём Беларуссю незалежнасці. Але Нобелеўская ўзнагарода Святланы Алексіевіч прыцягнула ўвагу і да іншых жаночых галасоў у беларускай прозе і паэзіі.

На Варшаўскім кірмашы была прадстаўлена творчасць толькі часткі беларускіх аўтарак, якія працуюць у самых розных жанрах: Валянціны Аксак, Святланы Алексіевіч, Алены Брава, Насты Кудасавай, Марыі Роўды і Тані Скарынкінай. Кожная з іх мае свой адметны стыль, сваё ўнікальнае стаўленне да жыцця.

Падчас кірмаша з удзельніцамі праекта праводзіліся сустрэчы і дыскусіі, на якіх не адзін раз падымаліся пытанні: «Хто яна, жанчына-аўтарка ў сучаснай Беларусі? Да якіх тэмаў яна звяртаецца ў сваіх творах? З якімі цяжкасцямі сутыкаецца?» Па гарачых слядах публікуем вытрымкі з іх адказаў і меркаванняў.

### Марыя Роўда, пісьменніца:

— Сёння я не ведаю, ці дацягваю да статусу феміністкі, але тое, што беларускі заўсёды былі вымушаны працаваць на роўні з мужчынамі — гэта дакладна. Нават вясковыя прафесіяналы — настаўніцы, урачы — заўсёды павінны былі працаваць і ў сваёй сферы, і дзяцей гадаваць, і за гаспадаркай сачыць. А калі паглыбіцца ў гісторыю часоў росквіту шляхты — калі мужчына паміраў на вайне, жанчына павінна была выхоўваць хлопчыка як ваяра, таму валодаць зброяй і вярхом ездзіць яна заўсёды ўмела…

Калі гадуеш маленькае дзіця — ёсць перыяд, калі ты, па ідэі, нічога не можаш рабіць, акрамя як займацца ім. Але прыходзіцца браць на сябе функцыі літагента: займацца прамоцыяй кнігі, кантактамі. Кладзешся спаць а першай, устаеш а шостай. Вось калі б табе сказалі: «Марыя, ты пісьменніца — вось стол, канапа, сядзь і пішы»… Але ў рэальнасці — хочаш пісаць — твае праблемы. Яшчэ б зразумелі пісьменніцтва за працу, калі б яна прыносіла грошы. Прыкладам, амерыканка нараджае дзіця, сядзіць дома, піша кнігу, продаж якой напрыканцы прыносіць гадавы прыбытак у двухкратным памеры. Канечне, яе муж пагадзіцца, каб яна і наступную пісала…

Я не магу сказаць, што жанчыны ў нас зусім ужо на ўзбочыне, але, мяркуючы па каментарах да жаночых зборнікаў, людзі не заўсёды бачаць у жанчыне-аўтарцы асобу. І, сапраўды, каб атрымаць добрыя водгукі, трэба вельмі пастарацца. А вось аўтар-мужчына, нават не асабліва таленавіты, заўсёды будзе ў пашане…

### Наста Кудасава, паэтка:

— Даводзіцца часам ахвяраваць сваёй творчасцю для сям'і, бо калі не ахвяраваць, тады ўзнікае пачуццё нейкай віны. Яно прысутнічае заўсёды. Увесь час, пакуль ты пішаш, — ты адчуваеш віну. Кшталту, вось я магла б нешта зрабіць зараз, больш карыснае для дзяцей і дома. Але, можа, гэта няправільна — быць пісьменнікам і адчуваць віну? І ці не ёсць гэта нейкім стэрэатыпам, які мне навязалі з дзяцінства? Я не ведаю.

Я лічу, што ў нас насамрэч вельмі моцная жаночая літаратура. Можа быць, нам, жанчынам-аўтаркам, проста не хапае прамоцыі. Грамадства ў нашай краіне больш патрыярхальнае. Жанчыне трэба быць на вельмі моцнай пазіцыі, трэба вельмі гучна заявіць пра сябе, каб яе ўжо немагчыма было не заўважыць і не палічыцца з ейнай прысутнасцю ў культурніцкім полі…

### Таня Скарынкіна, паэтка:

— Я так давно пишу стихи, что не разделяю ни себя человека, ни себя поэта — мы все живем дружно вместе. Думаю, что для того, чтобы быть поэтом — нужно быть упрямым. Вот вы делайте и думайте, что хотите, а я пишу стихи, и головой об стенку. Я не могу по-другому. И как бы ко мне не относились, игнорировали, психовали, насмехались — где-то меня ранит, да, но я все равно не перестану писать стихи. Это сильнее меня…

Почему я всё время говорю «поэт»? Русское «поэтесса» мне не нравится. А белорусское «паэтка» нравится. Вообще ближе всего к идеалу польский вариант: «poeta»…

### Алена Брава, пісьменніца:

— Жанчыны-пісьменніцы ў Беларусі дагэтуль вымушаны даказваць, што яны вартыя таго, каб да іх адносіліся ўсур'ёз, а іх творчасць нічым не горшая за мужчынскую. Беларускія аўтаркі выпрацоўваюць свае спосабы маўлення, шукаюць свой арыгінальны стыль, пішуць сваё цела і душу, пазбаўляюцца страхаў ды комплексаў, набываюць свабоду праз слова. І слова гэта менавіта беларускае. Гэта мова нашага народа, на якой сёння размаўляе не надта вялікая частка гэтага народа — у асноўным, тыя, хто разумее: без сваёй мовы няма нацыі, няма еўрапейскай краіны Беларусь. Але, паўтаруся, гэтых людзей не так ужо і шмат. Мы выбіраем гэтую мову для сваёй творчасці, памяншаючы такім чынам патэнцыйную колькасць чытачоў, але гэта — наш свабодны выбар. Для часткі грамадства, якая захрасла ў стэрэатыпнасці мыслення, мы — двойчы аўтсайдаркі: таму, што жанчыны, і таму, што пішам па-беларуску. Але хто, калі не мы, дапаможа нашым сёстрам залудніць тую terra incognita свайго «я», дзе дагэтуль хаваюцца пачвары? Тую частку душы, якая была ў нас гвалтоўна адабраная?..

Увогуле, у сённяшняй Беларусі пісьменніцтва нізведзена да ўзроўню «хобі». Пісьменнік піша, як правіла, у «вольны ад асноўнай працы час» (больш цынічны выраз у адносінах да пісьменніцкай творчасці цяжка прыдумаць). І калі мужчына-пісьменнік яшчэ можа даць рады гэтай сітуацыі, то жанчыне асабліва няпроста хаця б з тае прычыны, што раздзяленне працы ў беларускай сям'і застаецца па-ранейшаму патрыярхальным, а дзеці лічацца «жаночай справай». Жанчына-пісьменніца-маці вымушана раздзірацца паміж неабходнасцю выжыць фізічна (разам з дзіцёнкам) і галоўнай справай свайго жыцця. Так ці інакш, ідзеш на кампраміс. Творца асуджаны на самоту па самой сваёй сутнасці, аднак жанчыне значна цяжэй, чым мужчыне, адваяваць права на дыстанцыю ад сваіх блізкіх, а без гэтай дыстанцыі пісьменніка няма.

### Надзея Кандрусевіч, перакладчыца, каардынатарка праекта «Books From Belarus»:

Я думаю, з удзелам «Books From Belarus» у Варшаўскім кніжным кірмашы ўсё атрымалася. Праект выклікаў рэзананс сярод наведвальнікаў, журналістаў, людзям нагадалі пра існаванне беларускай літаратуры. Аўтаркі, прадстаўленыя ў праекце, змаглі пабачыць адна адну, адчуць салідарнасць і падтрымку, выказацца наконт праблем, якія іх хвалююць, бо, сапраўды, у Беларусі яны не заўсёды маюць магчымасць для такіх сустрэч. Я вельмі рада, што ў нас была супольная сцэна са шведскім праектам Марыі Сёдэрберг «Літаратурнае падарожжа». Дзякуючы ёй у нашай праграме паўдзельнічалі не толькі аўтаркі і аўтары з Беларусі, але і з Польшчы: пісьменніцы Малгажата Шэйнэрт і Катажына Тубылевіч, са Швецыі: пісьменніца Эбба Віт Брадстрэм, перакладчык Андэш Будэгод і інш.

**Аляксандра Дварэцкая**

# Заходнік

## Генрыху Далідовічу — 70!

**Генрых Вацлававіч Далідовіч на працягу 30 гадоў адказваў за змест літаратурна-мастацкіх часопісаў («Полымя», пасля — «Маладосці»), таму добра ведае выбітных пісьменнікаў розных пакаленняў. Яго ўдзел у літаратурнай вечарыне гарантуе 10–15 хвілін цікавых успамінаў. Але кожны творца мае дзень, калі з юбілейнай нагоды ўзважваюцца і яго здабыткі...**



70–80-я гады мінулага стагоддзя, нягледзячы на акалічнасці сацыяльна-палітычнага характару, былі часам плённай творчай працы Уладзіміра Караткевіча, Яўгеніі Янішчыц, Міхася Стральцова... Генрых Далідовіч заняў годнае месца ў шэрагу лепшых тагачасных аўтараў — нават і ў акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры» — дзякуючы трылогіі з раманаў «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і «Свой дом», а таксама раману «Заходнікі», адзначаным Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь (1996).

Калі беларусы праз пэўны час раптам зацікавяцца гісторыяй утварэння беларускай дзяржаўнасці, багатымі на палітычныя падзеі 1917–1918-мі гадамі, то раманы Г. Далідовіча будуць выдатнай асновай для сцэнарыя адпаведнага гістарычнага фільма.

Між персанажаў трылогіі — супрацоўнікі рэдакцыі «Нашай нівы» на чале з Янкам Купалам, Зміцер Жылуновіч, Іван Серада, а таксама дзяржаўныя дзеячы, «пра якіх мы амаль нічога не ведаем, хто ў 1918 годзе гуртаваўся вакол Белнацкома і Белкамсекцый, дапамаглі дабіцца законнага права беларускага народа на сваю дзяржаўнасць». Ленін падтрымлівае ідэю стварэння аўтаномнай Савецкай Беларусі, Сталін падазрае Жылуновіча ў «хітрым сепаратызме», Аляксандр Мяснікоў ледзь хавае нянавісць да беларускага нацыянальнага руху... Раман «Свой дом» мае шчаслівы фінал — утварэнне БССР, якое 1 студзеня 1919 года святкуюць Янка Купала, Зміцер Жылуновіч і Язэп Дыла. Затое эпілог трылогіі сумны. Лёсы многіх герояў скляліся трагічна, пра што сведчаць як кароткія біяграфічныя даведкі, так і пункцірна азначаны працяг жыцця прыдуманых персанажаў.

Трылогія ўражвае як капітальная праца, якая ўзнаўляе значныя, але малавядомыя факты палітычнай гісторыі нашай краіны. Як адзначаў Г. Далідовіч, «у 1980–1995 гадах і я — у прозе — далучыўся да даследчыкаў часу ўтварэння БНР і БССР, выклаў сваю версію ў раманах «Гаспадар-камень», «Пабуджаныя» і «Свой дом» — на аснове асэнсавання амаль усяго надрукаванага і ў нас, і ў Заходняй Беларусі, і за мяжой». У эсэ «БНР і БССР. Роздум аб пакутным шляху беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі», выдадзеным у 2002 годзе, Генрых Вацлававіч сведчыць, што нават малаверагодныя ўчынкі гістарычных вобразаў-персанажаў з яго раманаў маюць дакументальнае пацверджанне. Побач з фрагментамі праграмных дакументаў, апісаннямі нарад і пасяджэнняў у трылогіі шмат роздумаў пра нашу гісторыю, пра адметнасць беларускага светапогляду.

Трылогія пачынаецца не з вялікай палітыкі, а гаспадарчымі клопатамі сялян, сунеріцтвам хлопцаў за вясковую красуню Зосю. Асаблівая каштоўнасць гэтай часткі твора — характэрная сялянская мова, пра якую праз 30–40 гадоў будзе нагадваць адно наша літаратура. Вядома, беларуская мова будзе гучаць і далей, але маўленне адукаваных людзей робіцца больш лагічным і, адпаведна, менш вобразным, што абумоўлівае змены на ўзроўнях лексікі і сінтаксісу.

«Сялянская» і «палітычная» лініі ў трэцяй кнізе разыходзяцца зусім далёка, хаця напачатку іх яднае вобраз Алеся Нямкевіча — маладога настаўніка-адраджэнца, які сутыкаецца з пераследам улад і непаразуменнем вяскоўцаў. Алесь Нямкевіч нагадвае Андрэя Лабановіча з аповесці «У палескай глушы», гісторыя кахання між яго братам Янкам і Зосяй — амаль сюжэт «Палескай хронікі». У параўнанні са знакамітай аповесцю Івана Мележа, тут менш напружанасці і драматызму, сяляне паказаны больш спакойнымі і памяркоўнымі. Старонкі раманаў Г. Далідовіча азначаны не толькі ўзнаўленнем вясковай рамантыкі, але і новымі рэплікамі ў асэнсаванні традыцыйных праблем і тэм.

Найбольш каларытнымі ў трылогіі падаюцца вобразы беларускіх сялян — людзей блізкіх і зразумелых пісьменніку, які вырас на хутары на Стаўбцоўшчыне. Тым часам, ідэйныя камуністы ці жорсткія партыйныя кіраўнікі, арганічна чужасныя сялянскаму свету, паўстаюць персанажамі альбо другасна-намінальнымі (як у трылогіі), альбо гратэскнымі (як у рамане «Заходнікі»). Так, у «Заходніках» дэталёва выпісана біяграфія старшыні сельсавета Апанаса Кругаглядава, акрэслены яго лад мыслення і жыццёвыя прынцыпы.

Адметнасцю прозы Г. Далідовіча можна лічыць частотныя затрымкі на інтрыгоўных момантах з асабістага жыцця герояў. Такія эпізоды выконваюць розныя мастацкія функцыі. Схільнасць да любоўных прыгодаў, адпаведна літаратурнай традыцыі, выкрывае несумленнасць героя-мужчыны — прыкладам, янкавінскага старшыні Кругаглядава. Апісанні шчаслівых сустрэч мужа і жонкі, наадварот, паўстаюць тым гімнам шчыраму каханню, які мог прагучаць у беларускай літаратуры на некалькі дзесяцігоддзяў раней — калі, вядома, не браць у разлік рэальную сацыякультурную сітуацыю.

Чытаць Г. Далідовіча не сумна — ёсць над чым паразважаць, ёсць чаму здзівіцца. Яго раманы вяртаюць не толькі ў розныя гістарычныя эпохі, але і ў свет літаратурнай класікі. Погляд на мінулае праз прызму ўжо напісанага, пераасэнсаванне вобразаў і сітуацый з хрэстаматыйных твораў — адна з постмадэрнісцкіх тэндэнцый у літаратуры, і цікава, што такі падыход стаў арганічным для Генрыха Далідовіча яшчэ ў 1980-я гады. Пісьменнік спрабаваў сябе ў розных тэмах і жанрах — і галоўным віншаваннем яму да юбілея можа быць хіба пажаданне паспяховага здзяйснення мараў пра новую кнігу!

**Алеся Лапіцкая**

# «Будем жыць!»

**Фрагменты гутаркі Генрыха Далідовіча з Міхасём Скоблам на «Радыё Свабода».**

***— Спадар Генрых, вы нарадзіліся і гадаваліся на хутары. Што ўяўляла з сябе жыццё на хутары ў часы вашага маленства і юнацтва?***

— На хутары я пражыў пятнаццаць гадоў. І калі пазней чытаў «Жыццё Арсеннева» Івана Буніна, то здзіўляўся, чаму яго герой, жывучы на хутары, сумаваў. Я не сумаваў, я не адчуваў ніякай адарванасці ад свету. Бацька, маці, нас у сям'і было шасцёра, гаспадарка... З малога я пачаў працаваць — пасвіў кароў, касіў, сек дровы. Пасля пайшоў у школу. Назіраў, як пачынаецца вясна, усё пакрываецца зялёнінай, як цвіце лета, як шарэе дзень восенню, якая бель навокал зімою...

***— Вы першым у беларускай літаратуры напісалі раманы пра 1917–1919 гады, калі ствралася БНР, а потым і БССР. «Пабуджаныя» выйшлі ў 1988-м, «Свой дом» у 1989-м. Але ж яшчэ існаваў Галоўліт і спецфонды ў архівах. Як вам удавалася абыходзіць цэнзуру і знаходзіць патрэбную інфармацыю?***

— На філфаку БДУ гісторыю Беларусі мне выкладаў сумнавядомы Абэцэдарскі, які казаў: «Беларусь і я нарадзіліся ў адзін год». А я думаў: «А хіба да гэтага Беларусі не было? Была ж, напэўна». Таму яшчэ са студэнцкіх часоў я зацікавіўся беларускай гісторыяй. Пасля працаваў настаўнікам, у рэдакцыях, пісаў, друкаваўся. Прыйшоў час, і мне захацелася напісаць пра Усебеларускі кангрэс 1917 года... Я паткнуўся ў архіў — не дапускаюць. Але там працавалі жонкі нашых пісьменьнікаў, і мне ўдалося з імі неяк дамовіцца. Скажам, мне прыносілі папкі з прафсаюзнымі матэрыяламі, а ўсярэдзіне ляжала справаздача пра Усебеларускі кангрэс 1917 года, якая не рэгістравалася... А аднойчы светлай памяці Валянціна Коўтун завочна звяла мяне з Зоськай Верас, якая на тым Кангрэсе была сакратаркай, у яе захаваліся пратаколы пасяджэнняў. І вось аднойчы Коўтун кажа: «Генрых, у парку Горкага цябе будзе чакаць чалавек з матэрыяламі ад Зоські Верас». Гэта быў Лявон Луцкевіч. Мы доўга сядзелі з ім у парку, ён дазволіў мне зрабіць патрэбныя выпіскі. Тая ж Валянціна Коўтун, паехаўшы ў ЗША, прывезла мне адтуль выдадзеныя там дакументы пра ўтварэнне БНР. Прычым прывезла па ўсіх правілах канспірацыі: узяла гісторыю КПСС, выдрала 90% старонак і ўшыла туды дакументы БНР...

***— У «Сваім доме» вы паказваеце, у якіх драматычных умовах ствралася БССР, як Мяснікоў і Кнорын з паплечнікамі стараліся не дапусціць ніякай беларускай рэспублікі. Ідзеш па менскіх вуліцах — паўсюль імёны вашых герояў. Яны заслугоўваюць на гэта?***

— Ніводзін з іх не заслугоўвае права на вуліцы ці плошчы ў Беларусі! Ніводзін. Яны не прызнавалі ніякай Беларусі, бачылі яе Паўночна-Заходнім краем ці Заходняй вобласцю, намагаліся любым спосабам перашкодзіць беларускай справе. Возьмем, напрыклад, Фрунзэ. Ён разумеў, што такое нацыянальная школа, і, калі праводзіў з'езды салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, зрабіў усё магчымае, каб выкладання на роднай мове ў Беларусі не было. Кнорын і Мяснікоў супраць беларускай рэспублікі былі да самых апошніх дзён.

***— У шапіку «Белсаюздруку» на Плошчы Перамогі я часам гартаю часопісы «Полымя» і «Маладосць» — няма за што воку зачапіцца. Графаманістыя вершы, бяззубая публіцыстыка... Ці не найлепшы час «Маладосці» — калі там працавалі вы з Анатолем Грачанікавым, калі выходзіла папулярная «Бібліятэка «Маладосці». Што вам прыемна прыгадаць з таго часу?***

— Найперш названую «Бібліятэку», у якой выйшла больш за 160 кніжак маладых пісьменнікаў. Ну і публікацыі — «Старажытную Беларусь» Міколы Ермаловіча і «Споведзь» Ларысы Геніюш (дарэчы, назву успамінам даў я). Калі Грачанікаў стаў галоўным рэдактарам, а я намеснікам, мы замовілі Ермаловічу артыкул пра Полацкае княства. Ён напісаў, мы надрукавалі, і тут жа з'явіўся разгромны артыкул у «Звяздзе». Усхваляваны Ермаловіч прыбег у рэдакцыю: «Што рабіць? Я вас падвёў!» А мы кажам: «Трэба нечым адказаць на публікацыю ў «Звяздзе». У вас ёсць чым?» Мікола Іванавіч кажа: «Ёсць у мяне адзін твор, які нідзе не друкуюць, бо я ўжо ў камсамольскіх і партыйных кабінетах лічуся буржуазным нацыяналістам і ворагам савецкай улады». Пачалі чытаць мы той твор і ахнулі. Гэта была «Старажытная Беларусь»... Праца Ермаловіча ўнікальная. Ён, сляпы амаль чалавек, прачытаў процьму літаратуры, спаслаўся больш чым на 1000 крыніцаў, каб даказаць сваю канцэпцыю. Ён першы пасля Ластоўскага ды Ігнатоўскага вывеў нацыянальную канцэпцыю беларускай гісторыі.

***— Дык гэта Ермаловіч падштурхнуў вас да старажытнай гісторыі?***

— Безумоўна. Мы з ім за дзесяць гадоў аб'ездзілі амаль усю Беларусь, пабывалі ў гістарычных цэнтрах. І неяк ён прапанаваў мне напісаць раман пра пачатак Вялікага Княства. Я адмаўляўся, маўляў, я ж не гісторык, няма гісторыі задзяўбуць. «А мяне не дзяўбуць?» — насядаў Ермаловіч. Ён мне даваў шмат профільнай літаратуры, натхняў, чым мог. Так урэшце і напісаўся ў мяне раман «Кліч роднага звона».

***— Калі адштурхоўвацца ад вашай метафары «свой дом», то беларуская літаратура і па сёння застаецца бяздомнай. Дом літаратара дзяржава забрала для сваіх камерцыйных патрэбаў. Мова выжываецца з сістэмы адукацыі. Ці перажыве такое стаўленне ўлады да ўсяго нацыянальнага наша літаратура?***

— Ніхто не чакаў, што з набыццём незалежнасці так павернецца справа. Беларуская мова за дваццаць апошніх гадоў фактычна выціснута з дзяржаўных СМІ, выціснута адусюль — ад садка да рэзідэнцыі прэзідэнта. Гэта ўсё немагчыма зразумець, такой павальнай русіфікацыі не было нават у савецкі час. Беларускай літаратуры сёння вельмі цяжка, камусьці хочацца нацягнуць на яе надмагільную пліту. Але ўсё роўна, як ты ні мурый, парасткі жывыя будуць прабівацца на свет. Такое становішча сапраўднага пісьменніка павінна толькі загартаваць. Гісторыя паказвае, што ў найцяжэйшыя часіны нараджаюцца самыя вялікія творы. Таму, нягледзячы на ўсе перашкоды, будзем жыць!

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (118) | 24 чэрвеня 2016 | № 25 (490) Новы час

# Пра радаводнае рэха Пушкіна

**Прамінула 30 летаў з таго часу, як я трапіў пад Бабруйск у вёску Цялуша, дзе праходзіла Пушкінскае свята музыкі і паэзіі.**

Дзе яна, былая сядзіба ўнучкі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна — графіні Наталлі Аляксандраўны Варанцовай-Вельямінавай? Праходзім каля Свята-Нікольскай царквы, узведзенай у 1902 годзе стараннямі яе і мужа Паўла Аркадзьевіча.

Цэгла і тут пасупраціўлялася варварству. Радасна бачыць і абнаўленне ў багатым пушкінскім радаводзе на Беларусі. У 1979 годзе (юбілейным) каля царквы былі пастаўлены новы, замест раней разбуранага, помнік незабыўнай гаспадыні. Ён узгадвае гады жыцця Наталлі Аляксандраўны: 1859-1912.

Віруе Свята музыкі і паэзіі! Прысутныя жанчыны ў нацыянальных строях, аблічны пявунняў, літаратараў нагадваюць мне пра жыццёвы небасхіл унучкі Пушкіна. Яна была мастачкай, паэтам, любіла песні і мову народа беларускага... Ці не дзіва: стварыць у тыя часы школку для сялянскіх дзяцей, наладзіць дом для састарэлых, не пашкадаваць сямейную бібліятэку для ахвотных пачытаць...



Помнік Наталлі Аляксандраўне Пушкінай (Варанцовай-Вельямінавай)

Пра беларускіх нашчадкаў Пушкіна пісаў Міхась Ткачоў. А я сустракаю сярод святочных людзей усмешлівага Алеся Рыбака. А вунь Іван Аношкін падпісвае сваю кнігу новаму чытачу з багатай на прывабную гісторыю вёскі Цялуша...

Сёлета 6 чэрвеня споўнілася 217 гадоў ад нараджэння Пушкіна. Не забудзем, што гадавала паэта і наша зямлячка Арына Радзівонаўна. Не забудзем і пра ўсю дабрыню бабруйскай сям'і Варанцовых-Веньямінавых і асабліва пра здзяйсноты ўнучкі Аляксандра Сяргеевіча. Гэта ж і ў яе гонар так часта праходзілі ў Цялушы Пушкінскія святы музыкі і паэзіі. Гляджу на свае здымкі 1986 года, і прыгадваецца мне магілёўскае рэха ад крокаў Пушкіна, віцебскае, дзе таксама быў на Свяце паэзіі... Але пра тыя сустрэчы іншым разам.

**Сяргей Панізьнік**



**Свята-Нікольская царква.** Фота аўтара

# Палітра прынёманскіх галасоў

**Рэгіянальны альманах павінен быць разнастайным, нават крыху стракатым паводле зместу, імёнаў, жанравых форм літаратурнага матэрыялу.**




Трэба ж пазнаёміць з самымі рознымі мясцовымі аўтарамі, паказаць адметнасць тутэйшага літаратурнага жыцця. Чацвёрты выпуск літаратурнага альманаха Гродзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Новы замак», які выйшаў на пачатку 2016 года, і пацвярджае такую скіраванасць выдання. Пры гэтым альманах павінен стацца цэласнай і нават завершанай кнігай рэгіянальнай літаратуры. Цэласнасць дасягаецца мастацкім узроўнем пададзеных матэрыялаў, а завершанасць — хронікай тых літаратурных і мастацкіх падзей, што адбываюцца на тутэйшых пляцоўках.

Усё гэта ў новым выпуску гродзенскага альманаха ёсць — і добры ў цэлым узровень, і багатая інфармацыя (аповед-развагі) пра мясцовых людзей літаратуры і культуры, таксама цікавых гасцей, пра значныя літаратурна-мастацкія акцыі ў рэгіёне.

У «Новым замку» прадстаўлены творамі паэзіі, прозы, перакладаў, спадчыны, падарожжаў, успамінаў 17 аўтараў. Магло б быць і больш: на Гродзеншчыне нямала здольных творцаў. Але нават лепш, калі з'яўляюцца ў новых выпусках новыя імёны. Не шанцуе літаратурнай крытыцы. У апошнім выпуску — адзін матэрыял. Увогуле ж, на старонках гродзенскага альманаха яна пакуль як след не прыжылася. Ды і рэцэнзаванне самога альманаха... Ці гэта справа гродзенскіх аўтараў? Хацелася б, каб пра яго пісалі людзі «збоку», каб быў незалежны погляд.

Добрая ў альманаху паэзія. Уся. Асабліва ж прыцягваюць увагу вершы Святланы Куль (Сяльверставай). Вядомы гродзенскі гісторык, прафесар, яна гадоў пяць таму назад нечакана выбухнула такімі свежымі паэтычнымі радкамі, што літаральна ўразіла знаўцаў мастацкага слова. З той пары друкуе, хоць і зрэдку, новыя вершы, у якіх пульсуе глыбокая чуйнасць да жыцця. Ладная яе падборка — і ў гэтым выпуску. Вершы кранаюць спавядальнай нотай светлай самоты, за якой — неардынарная асоба аўтаркі, якая ўмее шанаваць роднае, цаніць каштоўнасці і страты, адгукацца сэрцам на балючае і дарагое. Вершы Анатоля Брусевіча, які даўно прывучыў чытача да парадаксальнасці сваіх мастацкіх назіранняў, тут паэтычна выверaныя, даволі роўныя. Адчуваецца творчая вывучка паэта, што ўмее малой мастацкай формай высвятляць таямнічыя грані жыцця.

Парадаваў перакладамі з Ніколаза Бараташвілі Юрка Голуб, які напісаў і змястоўнае, элегантнае па характарыстыках уступнае слова пра грузінскага класіка. Сённяшні Юрка Голуб — паэт віртуозна-артыстычны паводле фарматворчасці. І грузінскія тэксты ў яго перакладзе таксама прыгожыя.

Сваё месца на старонках альманаха знайшлі вершаваныя пароды-эпіграмы Мечыслава Курыловіча. Вопытны паэт, ён умее абыгрываць тэксты калег і ствараць нечаканыя гумарыстычныя малюнкі. Добра выступілі з нізкамі вершаў маладыя Аліна Паўлоўская і Зміцер Цеслянок. Узбагацілі альманах публікацыі пад рубрыкай «Спадчына» — падборкі паэтаў з Гродзеншчыны, што не так даўно пайшлі ад нас — Самсона Пярловіча і Эдзіка Мазько. Першага змястоўна прадставіў Сяргей Чыгрын, зрабіўшы слушны акцэнт на яго рэпрэсаванай маладосці, што прайшла праз канцлагеры.

Высокі мастацкі ўзровень паэзіі робіць гонар альманаху. Гэта, вядома, калі ўлічыць яшчэ і светлыя вершы Алы Петрушкевіч, якія ўносяць сваю асобную ноту ў паэтычны ансамбль гродзенскіх аўтараў. Калі ж мець на ўвазе, што ў кніжцы прадстаўлены яшчэ проза і крытыка пісьменніцы, і ўсё выканана з густам, то можна ўпэўнена гаварыць: Ала Петрушкевіч перажывае пару свайго творчага ўздыму. Тут, напэўна, трэба глядзець і за межы альманаха. Што да яе прозы, то «Шчонаўскія абразкі» хочацца перачытваць. Праўда, абразкамі беларускую літаратуру не здзівіш. Хораша папрацавалі на гэтай ніве многія — ад Я. Брыля, Ф. Янкоўскага да А. Карпюка і Л. Арабей. У нашай жа аўтаркі свае: штрыхі колішняга вясковага жыцця, прапушчанага праз дзіцячую памяць. А якая жывая інтанацыя аповеду, якія каларытна-мілыя мясцовыя формы імёнаў! У гэтых замалёўках-мініяцюрах нічога значнага не адбываецца. Але яны адкрываюць часціны традыцыйнай народнай культуры нашай не так даўняй штодзённасці.

Увогуле ж проза ў альманаху неблагая. Удала выбудаванае апавяданне Валянціна Дубатоўкі «Анёл». Добрая мова ў апавяданні Міколы Канановіча. Згадкі Віктара Сазонава пра свае назіральніцкія клопаты падчас выбараў у Малдове трэба было б змяшчаць не ў раздзеле «Проза», а ў раздзеле «Успаміны». Прыемнае ўражанне пакідае маленькая аповесць Міхася Зізюка «Планктон» (назва як для мастацкага твора цяжкаватая). Тут ёсць моцная маральна-псіхалагічная інтрыга, выразна акрэсленыя характары. Галоўнае ж, што аўтар валодае назіральнасцю, канкрэтыкай перадачы асяроддзя, умее прыкмячаць дэталі, маляваць словам. Праўда, у другой частцы твора, дзе адносіны паміж героямі ўскладняюцца, пісьменніку сям-там не хапае дакладнасці псіхалагічных нюансіровак.

Добра чытаюцца разгорнутыя падарожныя нататкі Сяргея Астраўца «Афрыканскі бераг Еўропы». Далёкія прасторы ўспрымаюцца з пэўнай доляй рамантычнай сузіральнасці. І ўсё ж хацелася б бачыць аўтарскую асобу больш выяўленай. Згадваецца тут «Берлінскі дзённік» Вячаслава Адамчыка, у якім вельмі ж цікава нямецкія рэаліі ўбачаны беларусам, беларускім інтэлігентам. У нататках С. Астраўца сустракаюцца нярэдка вершаваныя ўстаўкі. Яны зусім тут не лішнія, але вельмі не роўныя ў мастацкіх адносінах.

Новы для альманаха аўтар Віктар Шукяловіч змясціў свае сённяшнія рэфлексіі (у рубрыцы «Памежныя сюжэты») пра розныя, часцей выпадковыя сустрэчы на польскай, летувіскай, беларускай пляцоўках жыцця. Тут — і спробы ўласнай ідэнтыфікацыі, і найбольш — маленькія адкрыцці каштоўнага ў незнаёмых людзях, іх лёсах.

Нельга абысці яшчэ літаратурнага партрэта вядомага гродзенскага выдаўца Аляксандра Рыжага, які ўдала стварыў Сяргей Астравец, разглядаючы свайго персанажа і здалёк, і зблізку, і з дапамогай іншых зацікаўленых асоб.

Праблема альманаха — рэдагаванне. Вядома, рэдагаваць трэба. І пажадана, каб рэдактар быў адзін. Але культура рэдагавання прадугледжвае абавязковае ўзгадненне правак з аўтарам тэксту. Асабліва тады, калі праўкі істотныя. Інакш непазбежныя пралікі. Так, матэрыял аўтара гэтых радкоў «На пачатку ліпеня 44-га» рэдактарскай рукою пакалечаны. Пры гэтым асобныя лексічныя хібы ў тэкстах В. Сазонава, В. Дубатоўкі не заўважаны. Рэдагаванне — клопатная справа. Аднак жа будзем спадзявацца на лепшы працяг.

**Аляксей Пяткевіч**



Ганна КОМАР

# Пазакласнае



***

*тут мяжа
і мы накрытыя
сонцам, якое сышло
за поле
сонцам, што здраджвае мне
з іншым часавым поясам
такім жа часовым
як усё на гэтай планеце...*

***

*Каханне-эксперымент у стылі арт-хаўс.
Такое кіно ніколі не ўбачаць масы.
Яго паказвалі на закрытых паказах
3-4 не крытыкам. Усё абышлося
без лішняга пафасу.
Такім кіно не пахвалішся перад сяброўкамі,
не пакажаш на гадавінах, народзінах,
святах з іншай нагоды.
Толькі тыя 3 ці 4 сведкі часам пытаюць:
«Як яно?».
— Ляжыць, чакае сваёй новай хвалі ды іншай моды.*

***

*мяне няма*

*чыстая вусціш
не апранутая ў форму
вандруючая здань
літаратуры
непісьменных народаў
музыка
якую чуюць глухія
адсутнасць коду
квант
хвост кванта
цень кванта
у бессвядомым сусвеце*

### адпускаю

*я адпускаю цябе з паветрам маіх лёгкіх
са слязьмі дзяўчынкі, што кленчыць ляльку,
са стырном машыны, што вылецела на сустрэчку.
адпускаю цябе, як націск у мове, дзе ён свабодны,
як курс даляра нацбанк,
як прэзідэнт палітвязня.
нібы шарык з вадой цябе адпускаю з даха,
выганяю, нібы блашчыц з-пад шпалераў у інтэрнаце,
выводжу цябе, нібы блыхаў з поўсці
любімай жывёлы,
выплёўваю, нібы зуб, што выпаў сам,
без крыві,
і на развітанне
змываю імя тваё з дошак, сцен і асфальту,
здымаю твае размытыя твары
з мужчынаў,
лашчу сябе апошні раз тваімі рукамі.
дапісваю сказ, каб урэшце перагарнуць старонку
рыхтую паперу для новых зачараваняў.*

### Маім мужчынам

***Мужчынам не варта ведаць наступстваў, ім дастаткова прычын — ім урэшце даецца ўсё, а яны напаўняюць яго нічым...***
***Сяргей Жадан***

*Мае мужчыны
такія занятыя:
зарабляюць грошы,
ратуюць свет,
вандруюць,
кахаюць іншых...
але
параўноўваюць кожную
наступную са мной.
Мае мужчыны
зазіраюць глыбока
ў вочы і
абяцаюць
адказаць, адпісаць,
сустрэць мяне з
падарожжаў у сябе,
спаткацца са мной у снах,
але забываюцца
на абяцанкі,
а я кожнага ранку,
ідучы на працу
бязлюдным завулкам,
прагаворваю іхныя
імёны ўслых,
каб
сэрца сціскала
салодкім болем...
Сваіх мужчынаў
я адпускаю лёгка...
Некалькі дзён я —
адкаркаваная
пляшка з шампанскім
б'ю цераз край,
тады выдыхаюся,
раблюся пойлам...
Мае мужчыны
пакідаюць
мяне лёгка:
робяць выгляд,
што мы заўсёды
былі сябрамі.
Я нават не спрабую
спрачацца з імі.*

*І я ніколі
не буду належыць
маім мужчынам,
і каханне — гэта
такая куля,
што вырываецца з гільзы
і застрае між рэбраў.
Там яе і пакіну,
як сувенір на памяць.*

### Поле...

*Вецер вяртае нам
позіркі, што мы кідаем у бок акіяну
са скалы вышынёй маіх і тваіх памкненняў,
складзеных разам,
колер вады — вочы дзяцей, якіх
мы з табой не народзім.
Недакранальная веліч стыхіі,
што танчыць пад барабаны ветру
і выгінаецца хвалямі насустрач скалам —
прымае іх у сваё ўлонне.*

***

*Я ўсё яшчэ памятаю свой страх вышыні,
і я шукаю тваю руку
не дзеля таго, каб ты мяне стрымаў,
а дзеля таго, каб мая рука
выслізнула з тваёй,
каб надаць гэтай сцэне
мастацкую вартасць.*

***

*Зіма. Маразы. Горка, залітая
на месцы будоўлі.
Я качуся з горкі
на здутым коле.
Наперадзе — дзяцінства
і шчыры смех.
І снег — як tabula rasa белы.
Калі б я ведала, што зіма
аднойчы прыйдзе і застанецца,
што ад доўгага холаду
заінеюць вейкі і
празрыстаю зробіцца скура,
што паліто нашыя зносяцца,
а на новыя мы ніколі ўжо
не заробім,
што мы пусцім фотаальбомы
ў топку, зачынімся ў спальні
і задыхнемся ў дыме ўспамінаў,
я б не коўзала з горкі разам з усімі,
я б пайшла да возера, дыхала б
доўга на лёд ля палонкі,
і не крычала б «Дапамажыце»,
бо не люблю прыцягваць увагу.*

***

*Я раблю крок насустрач вялікім водам.
Яны расхінаюць свае абдымкі.
Я застануся ў іх навечна —
яны мне заменяць абдымкі маці і сябра.
Ты адзначыш мінус адзін у капілку
і ў пятніцу будзеш танчыць
з нябачнай дагэтуль жарсцю,
нікому не скажаш, што таксама смуткуеш,
і не, не схлусіш.*

***

*Кастрычнік, а травы набрынялі сокам і колерам.
Я не памятаю, як апынулася тут,
але ўжо не аддзяляю сябе ад гэтага месца.
Неба цяжарнае і хутка народзіць дождж.
Значыцца я прарасту ў гэтым полі.
Я назаўжды застануся ў гэтым полі.
Я прачынаюся ў родным полі...*

### Пазакласнае

*Што я магу прапанаваць табе?*

*Тэорыя даўно пройдзеная і замацаваная,
ты — практык.
Пакуль я састаўляю на паліцах прачытанае,
ты жывеш як у сюжэце для кніг.*

*Што я магу адкрыць табе?*

*Ты прадказваеш кожнае
маё наступнае слова,
бо ўсё маё новае — добра забытае
табой старое,
і ты спасцігаў няпісаныя ісціны
раней, чым мужчына і жанчына,
што нарадзілі мяне,
зліліся ў акце
пяшчоты ці абавязку...*

*Што я магу расказаць табе?*

*Мая караценькая гісторыя
хавае мяне ў скрыню, каб
тугою я не атруціла наваколле.*

*Мы сустрэнемся толькі калі ты
пойдзеш назад, бо даганяць цябе —
значыцца мінаць простае і пераскокваць
адразу да складанага, а гэта
няправільна з пункту гледзішча
педагогікі.*

*Ты — усе мужчыны, якіх я кахала,
якіх я абагаўляла,
да якіх імкнулася,
за якіх чаплялася,
як за буксір,
што выцягваў мяне на наступны
ўзровень.*

*Што вучаніца можа прапанаваць
настаўніку?*

*Кароткая спадніча,
прыгожыя ножкі,
усмешка і запрашэнне
застацца на дадатковы
занятак пасля ўрокаў.*

*Вечарам ты сядзеш
пераглядаць сшыткі
лепшых вучаніц.
А я — пісаць работу
над памылкамі.*

### Чаму людзі робяцца злымі

*Людзі, якія доўга сядзяць у чарзе ў паліклініку,
робяцца злымі.
Людзі, якія таўкуцца ў гадзіну-пік
у грамадскім транспарце,
робяцца злымі.
Людзі, якія так шмат працуюць, што
прапускаюць абед,
робяцца злымі.
Людзі, у якіх так мала грошай, што няма
за што паабедаць,
робяцца злымі.
Людзі ,калі спякотна, робяцца злымі.
Людзі, калі сцюдзёна, робяцца злымі.
Людзі, якіх ніхто не любіць,
робяцца злымі.
Людзі, якіх любяць занадта моцна, —
часам таксама.
Я ўжо трэцюю гадзіну сяджу ў паліклініцы,
прыехала ў завіруху, у гадзіну-пік,
снедала, на вячэру павінна хапіць.
І не злуюся, бо ведаю,
што мяне любяць самыя цудоўныя
людзі ў свеце.
А яшчэ таму што чытаю
добрую кніжку пра мумітроляў.*

### Зачынена

*Зачынена
знутры!*

*Зачынена
знутры!!*

*Зачынена
знутры!!!*

*Можаш
грукацца
грамчэй.*

*Можаш
ламаць
дзверы.*

*Можаш
да ранку
стаяць
пад
вокнамі.*

*Але*

*зачынена
знутры,*

*і там
нікога.*

# Чорны чалавек



Уладзімер АРЛОЎ

## Фрагменты аповесці

**1**

Вы, пэўна ж, чулі выслоўе *Habent sua fata libelli,* а ў перакладзе з лаціны — *Кнігі маюць свой лёс*... Яно належыць сучасніку Марка Аўрэлія старажытнарымскаму граматыку Тэрэнцыяну Маўру і насамрэч мае ці то свядома — калі казаць пра саміх аўтараў кніг — ці то праста, праз адвечную чалавечую ляноту, прызабыты і амаль згублены ў стагоддзях працяг: *адпаведна таму, як іх прымае чытач.*

**2**

Колькі гадоў таму я прыехаў у родны горад, каб нарэшце напісаць аповесць, якая нібыта даўно выспела і прасілася на волю, але класціся на паперу ў сталіцы — з самых розных, як уяўлялася, неістотных прычын кшталту позняй вясны, лёгкага абвастрэння піеланефрыту або дажджлівага чэрвеня — катэгарычна адмаўлялася. Калі ўжо тут прагучала метафара спеласці, можна сказаць, што яна, яшчэ не перакладзеная на словы аповесць, сапраўды нагадвала спакуслівы залацістабокі, з румянцам яблык, якому, тым не менш, хочацца даць трошкі часу, каб ён за пару пагодлівых дзён стаўся наліўным і паказаў бы ў глыбіні жывога светлага бурштыну цёмныя кропелькі зярнятак, дзе запісаныя таемныя сэнсы, датычныя і гэтага плода, і яблыні, і цэлага саду.

У выніку было вырашана — пагатоў на небе нарэшце трывала атабарылася сонца — скарыстацца ад'ездам сястры ў адпачынак і, як ужо не раз бывала, ператварыць у кабінет адзін з пакояў ейнай вялікай чатырохпакаёвай кватэры, што засталася нам у спадчыну ад бацькоў на трэцім паверсе піціпавярховіка з зацішным зялёным дваром, спакой якога, праўда, цяпер парушала аўтапаркоўка каля суседняга гатэля.

Дом з аднаго боку стаіць блізка ад Дзвіны, а з другога — ад ляснога возера. Такім чынам, у перапынках паміж працай я мог не толькі выпраўляцца на бясгллумную праходку, але і дасхочу плаваць, выбіраючы, залежна ад настрою, раку з моцнай пругкай плынню або азёрны спакой у атачэнні ялін і хвояў.

**3**

Першы ж дзень на самоце, засведчыў, што інтуіцыя не падманула: увечары паўтузіна спісаных і скрэмзаных старонак легла са стала на падваконне. Тут трэба патлумачыць, што я старамодна пішу пачатковы варыянт ад рукі асадкай і адно потым прысаджваюся да кампутара.

Мой светлы драўляны стол месціўся пры акне ў таксама светлым сонечным пакоі, куды трапляеш з доўгага і прасторнага калідора, што адначасова служыць і вітальняй. Злева ад стала роўнядзь зеленаватай сцяны займаюць ясеневыя кніжныя шафы з некалькімі паліцамі нашых дзіцячых кніг, што робіць пакой асабліва прытульным.

Калі сядаеш за стол, за спінай апынаецца зялёная велюравая канапа з трыма падушкамі. Туды, на канапу, падчас маіх прыездаў звычайна перасялялася сястра, саступаючы мне шырокі ложак у колішняй бацькоўскай спальні, што ў канцы калідора направа.

**4**

Тэрэнцыян Маўр, а разам з ім і вядомы афарызм засталіся ў гісторыі дзякуючы вершаванаму трактату «Пра літары, склады, і метры Гарацыя». Імя аўтара сведчыць пра паходжанне з рымскай правінцыі Маўрытаніі, абшар якой сённяшнія навукоўцы называюць краінамі Вялікага Магрыбу. Іначай кажучы, Тэрэнцыян быў цемнаскурым маўрам, або, па-нашаму, мурынам.

**5**

Кожны літаратар ведае: сумовіцца з аркушам паперы, што палохае цнатлівай нерушшу, або з маніторам кампутара, які асабіста мяне напачатку злёгку жахае, бо, дзякуючы вочку відэакамеры, падаецца амаль жывой істотай, — занятак не з самых лёгкіх. Таму, сказаўшы, што працаваў з насалодаю і не зважаў на гадзіннік, я апынуўся б далекавата ад ісціны. Я не забыўся ні разагрэць пакінуты сястрой на першы выпадак абед, ні спусціцца да паштовай скрыні, ні — дзеля моцнай чорнай гарбаты з цытрынай, мёдам і тэленавінамі на канале Euronews — патанцуць тры разы ў сваім улюбёным скураным фатэлі ў гасцёўні.

Але тое, што адзін з калегаў называў неспадзяванкаю душы, а другі — больш квяціста і няхціпла — пошумам анёльскіх крылаў, усё ж здарылася. Пасля гарбаты а пятай адчуванне часу неўпрыкмет знікла. Нягледзячы на цудоўнае надвор'е і падрыхтаваныя ручнік з плаўкамі, я забыўся і пра паход на Дзвіну, і пра вячэру, на якую сястра пакінула, відаць, з намёкам — маўляў, не размаўляй, а пішы — вараны цялячы язык.

Аднак не буду ідэалізаваць сябе: пра вячэру я ўспомніў. Адчувалася, што яшчэ здатны з разгону напісаць старонку-паўтары новага раздзела, якія ўжо бачыў перад сабой, прычым менавіта так — старонку і ладны хвост на наступнай — ды абмежаваўся тым, што зрабіў накід з падкрэсленымі словамі-ключыкамі, якія заўтра мусілі адамкнуць абзацы і цэлыя старонкі.

Прыстоіўшы каля кніжных шафаў, я з удзячнасцю правёў рукой па карэньчыках выданняў на трох верхніх паліцах, дзе заслужана адпачывала чытанае-перачытанае ў дзяцінстве. Пальцы прайшліся па ружовых тамах Вальтэра Скота і блакітных Аляксандра Грына, затрымаліся на чорных, як і належыць, томіках Эдгара По...

У зборы твораў Фенімора Купера адной малахітавай кнігі не хапала: яе нахабна, ледзьве не на вачах, сцягнуў некалі, схаваўшы за пазуху, мой аднакласнік, апантаны гульнямі ў індзейцаў, сярод якіх ён зваўся братам Вялікае Вуха. Аднакласнік даўно жыў у Амерыцы і трымаў недзе на мяжы з Канадай рэстаран. Магчыма, усміхнуўся я, такому лёсу паспрыяў якраз скрадзены том, і купераўскія матывы гучаць у інтэр'еры ягонай харчова-пітной установы. Мо і сама тая кніга знайшла пачэснае месца паміж аўтэнтычнымі тамагаўкамі і, трэба спадзявацца, несапраўднымі скальпамі бледнатварых ворагаў. Цікава, які ў Вялікага Вуха спіс страваў? Ці знойдзецца штосьці з таго, чым кармілі нас маці ў дзяцінстве? Напрыклад, класічны дэсерт — халодная вараная бульба з брусьнічным сочывам?

Урэшце думкі пра ежу скіравалі мяне на кухню, уваход у якую знаходзіцца праз калідор і трохі наўскос ад кабінета. За вакном апусцілася на горад мяккае і ўтульнае ліпеньскае сутонне, і па двары, павольна запаўняючы сабою ўсе закуткі, плыла цішыня. У абладзе ціхай радасці ад таго, што ведаю, як узяцца за тэкст заўтра, я меўся аздобіць вячэру келіхам-другім прывезенага з сабой чылійскага шыразу.

**6**

Там, на кухні, разглядваючы вінную этыкетку, я і адчуў, што ў *кватэры прысутны хтосьці яшчэ.* Раптоўнае адкрыццё змусіла перахапіць неадкаркаваную пляшку за рыльца. Пасля кароткага роздуму я перакінуў гэтую зброю ў левую руку, у правай сціснуў самы вялікі кухонны нож і асцярожна ступіў у калідор.

Першае павярхоўнае абследаванне кватэры не прынесла ніякіх вынікаў. Надзейныя дубальтовыя дзверы на лесвічную пляцоўку былі на моцнай металёвай засаўцы. Пластыкавыя вокны прачыненыя зверху, і ў іх, апрача мух і камароў, маглі заляцець хіба што матылёк і, пры моцнай ахвоце, верабей.

Але адчуванне чужой прысутнасці не пакідала, а рабілася мацнейшым. Яно прымусіла рассунуць у спальні дзверцы шафы-купэ і перабраць вешакі з сестрынымі сукенкамі, каб упэўніцца, што за імі або ў іх самых ніхто не затаіўся. Зазірнуўшы дзеля прыліку пад ложак і напалохаўшы порсткага павучка, я з парога зноў уважліва абвёў позіркам гасцёўню. Упэўніўся, што нікога няма ні ў кабінеце, ні ў маленькім пакоі паміж спальняй ды кухняй, які некалі служыў у бацькоў спальняй для гасцей. У вітальні я падмігнуў расхваляванаму чалавеку ў вялікім авальным люстры. Чалавек з люстра міргнуў у адказ, тым самым сведчачы, што з ягонай прасторы ў маю ніхто пакуль што не патрапіў. Праінспектаваўшы прыбіральню з лазенкай, я вярнуўся да круглага кухоннага стала і ўсё ж вырашыў — перадусім дзеля супакаення — выпіць келіх віна. *Перапрацаваўся,* паспрабаваў я ўголас растлумачыць свой стан, ды атрымалася зусім неперакана́ўча.

Корак з пляшкі выйшаў так звонка, нібы шніпар быў у руках у некага іншага. *Нервы... Яно, можа, і не дзіва, калі ўзяць пад увагу, што ты пішаш.*

Мая аповесць, умоўна кажучы, прысвячалася самнамбулам. Спярша гэта былі трое дарослых — Настаўнік, Залаціставаласая і Кіяскёрка, а таксама двое падлеткаў — Гімнастка-васьмікласніца ды крыху старэйшы за яе хлапчук, над імя якога і распавядалася гэтая гісторыя. Ён быў адзіны, хто, прачнуўшыся, усё памятаў, таму што раней бачыў адбытае і на яве. Самнамбулы збіраліся з розных канцоў горада на даху недабудаванага закінутага гатэля і танчылі пад зоркамі, каб пастаяць, згубіцца ў вялікім свеце і зноў — каму пашанцуе — сустрэцца ў маўклівым паўночным танцы ў памяць пра тых, хто танчыць на дахах ужо ў тагасветных гарадах. Разам з людзьмі ад самага пачатку танчыла Котка — нібыта звычайная трохколерная бела-чорна-рудая рыска, аднак з дзівосна доўгім хвастом, які, перакінуты на спінку, даставаў да вушак.

Шыраз трапіўся сапраўдны — густы, цёмна-фіялетавага колеру, букет, як і ўласціва гэтаму віну, бліжэйшы не да садавіны, а да спецыяў, з выразнымі смакавымі адценнямі шакаладу і чорнага перцу. Адмыслоўцы, згадалася мне, нездарма называюць шыраз віном пачуццёвым ці нават непрыстойным.

Ды падмануць сябе не ўдалося: думкі пра віно існавалі самі сабой, а ўся істота наструнена прыслухоўвалася да кватэры, прымушаючы ўнутраны зрок бачыць, пачаўшы ад спальні, сканаваць пакой за пакоем.

Праз колькі імгненняў келіх з віном ледзь не выпаў з рукі. Цяпер я ўжо напэўна ведаў: *хтосьці ў кабінеце.* Прысутнасць гэтага *кагосьці* лакалізавалася на зялёнай велюравай канапе. Вольна адкінуўшыся на падушкі і паклаўшы нага на нагу, на канапе сядзеў... абсалютна чорны чалавек.

**7**

Каб авалодаць сабой, я зрабіў глыток, затым другі і трэці. Шыраз цалкам страціў нядаўнія ўласцівасці, перайначыўшыся ў шараговае пітво айчыннай фірмы «Ambassador», якая з аднолькавай сыравіны паспяхова вырабляла амаль што ўсе на свеце віны. Я механічна дапіў келіх і падняўся. Сказаўшы, што дзейнічаў рашуча, я нахабна б схлусіў. Праўдзівым было б іншае слова — зацкавана. Аднак я зрабіў некалькі крокаў, выйшаў у калідор і, таймуючы сэрца, асцярожна зірнуў у прачыненыя дзверы майго часовага кабінета. Як і чакалася, там нікога не было. І разам з тым *ён,* бясспрэчна, знаходзіўся ў гэты момант на канапе.

Зноў апынуўшыся на кухні, я зразумеў, што здолею разгледзець *яго* лепей. Першы раз здалося, быццам Чорны чалавек голы, але на ім выявілася нешта накшталт цёмнаатраманатавага, з лёгкім серабрыстым адлівам трыко. На нагах ён меў чорныя, нізкія і пляскатыя пантофлі з даўгімі, загнутымі ўгару мыскамі. Такі абутак можна ўбачыць на палотнах старых майстроў ва ўборах прыдворных блазнаў, хоць мой няпрошаны госць выдаваў на каго заўгодна, але не на блазна. З тае прычыны, што ён сядзеў, рост вусцішнага візітанта заставаўся нявызначаным, і пра яго мне наканавана было даведацца адно праз два тыдні.

Спадабаўшыся самому сабе, я даволі спакойна выпіў другі келіх шыразу. Рука не трымцела, віно вярнула сабе смакавыя якасці і прыемна паколвала язык.

Чорны чалавек, які рабіўся невідочным, калі я зазіраў у кабінет, і матэрыялізоўваўся, як толькі я адводзіў пагляд, ані не нагадваў аблічам мурына — ні класічнага жыхара экватарыяльнай Афрыкі, ні чарнаскурага амерыканца. Не выдаваў ён — тут, мяркую, са мною пагадзіўся б і Тэрэнцыян Маўр — і на жыхара Магрыбу, дзе мне калісьці пашчасціла тыдзень павандраваць і нават вылючыць з гульні двух скарпіёнаў.

Еўрапейскія рысы твару, у меру высокі лоб, прамы, з няўлоўнай гарбінкаю нос. Валасы кароткія, але не ў дробныя кудзеркі, як руно, а — густы падрослы вожык і такая самая кароткая кучаравая барадка. Вызначыць колер вачэй у прыцемку не ўдалося, але яны падаліся агатавымі, не, лепей сказаць, чорнасліўовымі.

**8**

Выратавальную, як выглядала спачатку, думку — затэлефанаваць некаму з сяброў і, вымысліўшы праўдападобную прычыну, папрасіцца нанач — я цвёрда пастанавіў не разглядаць. Па-першае, час набліжаўся да поўначы. Па-другое, хатні тэлефон стаяў на паліцы ў кабінеце, і тамсама, на стале побач з рукапісам, я пакінуў мабілку. Па-трэцяе, госць, хоць і ствараў у кватэры напружанне, відавочна не ўяўляў сабой непасрэднай пагрозы. Апрача таго, кожны з нас знойдзе ў памяці, прынамсі,

# на зялёнай канапе

адно здарэнне, якое аніяк немагчыма вытлумачыць у звыклай сістэме матэрыялістычных каардынатаў.

Карацей, ад намеру сысці да сяброў або на недалёкі адчынены ўначы аўтавакзал, або проста на лавачку ў парку каля ракі, бо ноч была аксамітава цёплай, я адмовіўся. І не без палёгкі. Едучы да сястры, я пастанавіў унікаць сустрэч са знаёмымі, каб не парушыць неабходнай адзіноты. Дый адваротны варыянт — сыход з дому — стаўся б маладушнымі ўцёкамі. Хто ведае, што атрымалася б у выніку. Напрыклад, ці не была б кватэра, калі я вярнуся, зачыненая на засаўку з сярэдзіны?

Дзеля смеласці я выцадзіў новы келіх віна, а тады досыць бадзёра накіраваўся ў спальню, дзе, зачыніўшы дзверы, прылёг на неразасланы ложак і вымкнуў святло. Адчуванне *ягонай* прысутнасці не пакідала. Круцячыся на ложку, што зрабіўся страшэнна мулкім, не раўнуючы, як у матрац нехта падступна насыпаў жвіру, а падушку наладаваў пілавіннем, я ўспомніў *маміны вяртанні.*

Пасля пахавання мамы сястра штоночы прачыналася роўна ў дваццаць хвілін на трэцюю ад таго, што адчувала несумнеўнае маміна з'яўленне. Яна тады спала ў маім цяперашнім кабінеце, бо мама прамовіла апошнія словы якраз там, дзе я зараз варочаўся з боку на бок, страціўшы ўсякі спадзеў знайсці зручнае месца. У сваю сённяшнюю спальню сястра перасялілася толькі пасля ўгодкаў мамінай смерці.

Мама заўсёды вярталася сюды, у пакой, дзе развіталася з намі, затым, паводле слоў сястры, выходзіла ў гасцёўню і доўга стаяла там каля вакна, гледзячы ў яго праз свае акуляры з чарапахавай аправай, але ніколі не пераступала парогу вітальні. Першыя дні сястра баялася, ды неўзабаве прывыкла, аднак да трэцяе гадзіны ночы — пакуль мама не развітвалася з роднымі сценамі — ляжала без сну. Але ў адну з начэй не прачнулася, і мама з яе паслясмерцця больш ніколі не завітвала.

З візітамі мамы было збольшага зразумела. Яна, пакуль канчаткова не знайшла сабе месца ў новых, таемных для нас сферах, прыходзіла дамоў. Адкуль жа і чаму акурат у нашай кватэры з'явіўся Чорны чалавек? Што ў яго за мэты? З якой такой прычыны ён абраў менавіта кабінет? З сумам падумалася, што мара вярнуцца дахаты з новай аповесцю мае высокія шанцы пайсці дымам.

## 9

Трэба, аднак, было неяк датрываць да раніцы. Мой лёгкі хмельны кураж тым часам стаўся ўспамінам, але задача выглядала цалкам рэальнай, паколькі Чорны чалавек не дэманстраваў варожых намераў.

Я падняўся і выйшаў у калідор. Зачыніў дзверы ў гасцёўню, зрабіў тое самае з усімі астатнімі, акрамя дзвярэй кабінета і кухні, да якіх не рызыкнуў



набліжацца. Пасля, зачыніўшыся ў спальні, разаслаў ложак, разнасцежыў вакно, што выходзіла на паркоўку пры гатэлі, і лёг. Позняй парою паркоўка, на жаль, азвалася не ўтульнымі зямнымі гукамі, якіх прагла знерваваная душа, а густой глыбокай цішынёю.

Каб заснуць, я паспрабаваў вынайдзены ў гады студэнцтва досыць дзейсны спосаб: у адваротным парадку, ад апошняга да першага, згадваць імёны нашых вялікіх князёў і каралёў. Звычайна ўжо недзе на сярэдзіне, прыкладна на Жыгімонце Аўгусце або на ягоным бацьку Жыгімонце Старым, жанатым з італійкаю Бонай Сфорца, думкі пачыналі блытацца ў прадчуванні блізкай дрымоты, і астатнія манархі маглі адно прысніцца. Гэтым разам мае намаганні скончыліся тунна. Аўгусцейшыя асобы, пакінуўшы стараданія партрэты і няўрочна пашыхтаваўшыся, кпліва зіркалі на бяссонніка, а Бона з Барбараю Радзівіл нечакана аб'ядналіся ў непрыхавана здзеклівым смеху.

Дапамога з'явілася, адкуль я яе не чакаў. У начной вусцішы натхнёна зазвінеў і спікіраваў на мяне камар. Ён падаўся стварэннем бясконца зямным, блізкім і родным. Беспаспяховае, але шчаслівае змаганне з камарам і дазволіла заснуць.

Я не назваў бы сон спакойным і ціхамірным. У ім мроілася, што я ўскокваю ад рыпення дзвярэй, і вачам адкрываецца іхні пусты прахон, які, між тым, зусім не пусты. Па-сапраўднаму глыбока заснуць удалося тады, калі ўжо ў вакно разам з радасным званком самага ранняга трамвая папрасіўся світанак.

## 10

Раніца падаравала развітанне з тэатрам сціхотных ценяў. Дапамог і кароткі начны дождж, што пакінуў мокрыя газоны ды лужынкі на падсохлым асфальце, якія павінны былі вось-вось дазвання знікнуць разам з рэшткамі трывогі. Яшчэ лежачы ў ложку, я мог бы прысягнуць, што больш у кватэры нікога няма.

Паснедаўшы аўсянкай, я з кубкам гарбаты і сліўкай у шакаладзе за шчакой смела зайшоў у кабінет. На сонечнай стальніцы, як і на зялёнай канапе, нічога — калі не лічыць, што разрадзіўся сотавы тэлефон, — не перайначылася. Акурат затэлефанавала з санаторыя сястра. Мы паразмаўлялі на звычайныя ў такіх выпадках тэмы, і я лёгка развітаўся з прамільгнулым жаданнем запытацца штосьці накшталт: *Ці не заўважала ты калі-небудзь у пакоі з кнігамі нечага дзіўнаватага?*

Словы-ключыкі пачалі пераўвасабляцца ў сказы і абзацы раней, чым я сеў за стол. Учорашнія прыгоды надзіва не заміналі, а — прынамсі, хацелася так думаць — абвастрыўшы пачуцці, спрыялі руцэ з асадкай. Нечаканы візітант зараз успрымаўся чымсьці сугучным маім таксама начным героям, маленькая сябрына якіх удзень распадалася на незнаёмых між сабою чужых людзей.

Нядаўняя прысутнасць Чорнага чалавека ніяк не адчувалася ці, можа, выявілася адно ў тым, што я зноў, але ўжо асэнсавана, не пайшоў купацца. Урупіўшыся ў тэкст, проста забыўся на начнога госця, але, калі за вакном зашарэла, у душы зварухнуўся неспакой. Чорны чалавек зараз не выглядаў плёнам гульні ўяўлення, якое ўчора на знак падзякі ці пакарання за нешта намалявала тую невераемна жывую карціну — ажно да адметна загнутых мыскоў блазенскіх пантофляў.

І надышоў момант, калі ўва мне прагучаў выразны загад ставіць на сёння кропку, інакш у кабінеце можа зрабіцца затесна. Без панікі адступаючы на кухню, я не забыў прыхапіць мабілку, халаднаватая пластыкавая рыбінка якой прыкметна дадавала ўпэўненасці.

## 11

Чорны чалавек з'явіўся той самай парою. Праўда, цяпер ён сядзеў на канапе не закінуўшы нага на нагу, а роўна, з пакладзенымі на калені рукамі. Яго сур'ёзная і ўадначас мірная пастава спадабалася мне значна болей, хоць, зрэшты, што тут магло асабліва падабацца?

Удзень я з дому не выходзіў, таму вячэра была падобнай да ўчорашняй як дзве кроплі вады. Праўдзівей — не вады, а віна, бо разам з рэшткамі халоднага языка чакаў недапіты шыраз. Зрабілася ясна, як божы дзень, што Чорны чалавек — наведнік невыпадковы, і датычна яго трэба выбудаваць адпаведную лінію паводзін. Няхай, вырашыў я, гэта будзе палітыка асцярожнага нейтралітэту з магчымымі дыпламатычнымі кантактамі.

Калі б Чорны чалавек паседжваў на канапе і раней, сястра неадменна б папярэдзіла мяне і без лішніх роспытаў. Адсюль вынікала, што ягонае з'яўленне звязанае якраз з маім прыездам і, відаць, з тым, чым я займаюся.

Перад сном я зачыніўся ў спальні і паспрабаваў чытаць захопленага з дому Марка Аўрэлія. Утульны томік разгарнуўся на кнізе сёмай: *Усё матэрыяльнае вельмі хутка знікае ў сусветнай сутнасці... І памяць пра ўсё не менш хутка знаходзіць сваю магілу ў вечнасці.* Не сказаць, каб сентэнцыя надта б спрыяла добрым снам. Я перагарнуў некалькі старонак. *Уяві, што ты памёр, што жыў толькі да гэтага моманту...* Дачытаўшы да канца, я быў узнагароджаны: *а час, што табе застаўся, успрымай як дадзены звыш адмеранага і жыві ў ім згодна з прыродай.*

Я нечакана супакоіўся: *жыві ў ім, жыві ў ім...* і на мяжы явы і сну працягнуў: *жыві ў ім... пры ім... за ім... над ім... ім...* Думкі блыталіся, ды, адплываючы ў сон, я паспеў згадаць дасціпна заўважанае калісьці, што *імператар* Марк Аўрэлій стаўся адно выпадковасцю, якая напаткала *філосафа* з тым самым імем. *Прысніцца можаце абодва*, запрасіў я, аднак з Маркам Аўрэліем у тую ноч спаткаўся хтосьці больш шанцоўны.

## 12

Штораніцы, папіваючы першы кубак наймацнейшай за цэлы дзень гарбаты, я перачытваў напісанае напярэдадні і вяртаўся да сваіх танцораў. А мо гэта яны вярталіся да мяне, і я па чарзе нейкай часткаю істотыператвараўся ў аднаго ці ў адну з іх, не мінаючы і Коткі. Каб перанесціся ў іхні свет, часам я нават пачынаў танчыць, робячы зусім маленькія, адпаведныя памерам кабінета, колы. Нарэшце хтосьці з маіх нябачных, але ўсё больш адчувальных партнёраў дакранаўся мне да рукі або да пляча. Гэта і служыла знакам таго, што вяртанне здзейснілася. На колькі гадзін я забываў і пра Чорнага чалавека, і, калі шанцавала, пра ўсё астатняе.

## 13

*Травеньская ноч была цёплай і чуйнай. Шчыльныя аблокі захінулі месяц і зоркі, аднак, ратуючы наваколле ад цямрэчы, злёгку свяціліся самі. Як звычайна, мы збіраліся па адным, але Залацістая з Коткай заўсёды чакалі астатніх каля квадратнага люка, усё роўна як і не пакідалі даха з мінулага разу.*

*Тонка праспявала нябачная страла, і ўслед за ёю недзе ўзляцела рука таямнічага дырыжора. Узляцела і застыла ў найвышэйшай кропцы, каб праз няўлоўнае імгненне даць сігнал музыкам...*

*Мы паспелі прайсці некалькі колаў, мяняючы хуткасць ды накірунак і пакрысе напаўняючы танец усё большай энергіяй, як раптам нас зрабілася не шасцёра, а сямёра.*

*У паветры ціха прашамацелі крылы, і на плячук Гімнасткі апусцілася дзіўная начная птушка, падобная да грака, але з двума ярка-зялёнымі пераліўчастымі пёрамі на баках і такой самай абламоўкаю чорнай шыі. Трэцяе пяро — доўгае і вузкае, спакойнага салатавага колеру — птушка трымала ў дзюбе. Прыгледзеўшыся, я зразумеў, што гэта не пяро, а стрэлка аеру.*

*Як выглядала, ні Гімнастка, ні хто-небудзь яшчэ з танцораў, апроч мяне, не заўважыў нябеснай госці. Адно Котка насцярожылася і наставіла поўсць так, што стала добра відаць ейная абсалютна круглая ружовая плямка-пячатка, выпаленая некім ці нечым на падчарэўцы справа. Але праз хвілю нашая чатырохногая танцорка ўжо ўсім сваім выглядам паказвала, што ніякае небяспекі яна не адчула.*

*Птушка не замінала танцу, і ён ні на момант не перапыняўся — ні тады, калі мы мяняліся месцамі, ні тады, калі, працятыя сціхотнай самотаю, браліся за рукі. Толькі перад тым, як — быццам на нечы загад — мы павінны былі абняць адно аднаго за плечы, зрабіўшы нашае кола зусім вузкім, птушка паднялася ў паветра. Трымаючыся накірунку агульнага руху і не выпускаючы аеравай сцяблінкі, яна пачала лётаць над намі нізкімі кругамі — нібы таксама брала ўдзел у танцы.*

*Калі невідочныя музыкі, папярэджваючы нас пра небяспеку, зайгралі зусім ціха і мы яшчэ раз узяліся за рукі, каб далей танчыць, заплюшчыўшы вочы, птушка зноў апусцілася на плячо Гімнасткі. Няўжо наша зялёнапёрая госця наперад ведала, што цяпер яна найбольш патрэбная менавіта дзяўчынцы, што на сваіх цёплых спружыністых ступачках найчасцей датанцоўвала да самага краю.*

*Птушка заставалася з намі да той хвіліны, калі напрыканцы мы ўскінулі рукі да зорак...*

**Надрукаваць аповесць цалкам плануе ў ліпені 2016 года ў №25 газета «Наша Ніва»**

# Карнавал

## Паэма-феерыя



Юрка ГОЛУБ

*На падмостках часу — карнавал!*
*Там бываць раней не выпадала.*
*Будуць на прастол каранаваць*
*Самага вясёлага вандала.*

*Сядуць чэрці чынна за сталы,*
*Каб абранніку намазаць морду,*
*Прынясуць не выварку смалы —*
*Валакуць з вярхом балею мёду!*

*Эх, братове! Не жыццё — а цуд —*
*Вунь таму, хто бавіцца на троне!*
*Ля яго і найвышэйшы суд*
*Для страхоцця кодэксы патроіў.*

*Кінуць трон, то не пусты патрон,*
*Нам часова карнавал дазволіў*
*З той умовай, каб і ты, пардон,*
*Дзеля праўды булу накрамзоліў.*

***

*Рве душу гармонік. А мядзведзь*
*На смаргонскай блясе — вунь — як скача!*
*У кішэні засвярбела медзь:*
*У карчме загіне, не інача́й.*

*Баба-гром вачыма зірк ды зірк:*
*Гэх! Дзябёлаю хадзіла ў дзеўках!*
*А цяпер, дзе вылупіўся цырк,*
*Вызначае прышласць у прыпеўках.*

*«Спадзявалася сама*
*На хлапца-зануду,*
*Ды яго, нібы сама,*
*Не злавіць на вуду.*

*Нацягалася вады*
*І нагрэла лазню.*
*Ды адной жа мне туды*
*Неахвота лазіць!»*

*Зорам адлушчыць з сябе эмаль —*
*Праз цадзілка месяца цадзіцца.*
*Захапіла сцэну, як медаль,*
*Каб агучыць долю, маладзіца.*

*«Сэрца з вечара баліць —*
*Абраніце слоўца.*
*Буду потым слёзы ліць —*
*Выйду за вайскоўца».*

*І паўстаў вайсковы шыхт:*
*Дайце рады — ўсе мардавароты.*
*Глянеш: зверу — бляск і шык.*
*А з-пад нізу — пагублялі боты.*

*Не стрываў разгневаны майдан,*
*Каб яго глумілі кавалеры,*
*Бо і сам не роўны да «мадам»,*
*Бо і ён — мясцовы кабальера.*

*Узмахнуў дубінай шашлыка:*
*Папярэдне вёў разведку тылу.*
*Нібы ад варожага штыка,*
*Пыл курэў са стрыжаных патыліц!*

*Часам тым прадаў дзяцюк каня:*
*(Часцяком бывае!) за бясцэнак.*
*Так узнікла жончына фігня,*
*Здольная на друз уходаць сцены.*

*І набраўся дзядзька, як гразі:*
*Каля плоту пачынае рохкаць.*
*Бог ратуй, калгаснікy ў князі —*
*Бавяцца ў начальстве скамарохі.*

*«У адным канцы сяла*
*Заспявала весела.*
*А прыйшла ў канец другі —*
*Ад тугі ў вачах кругі».*

*Ды далоў пявучы песімізм!*
*Адмыслова плакаць пад мінорам!*
*Бач, Цімошка кажа дзеду «пліз»:*
*Калі ласка — азначае сорам?*

***

*А між тым грукоча карнавал*
*Між бартоў нябыту і буфета,*
*І таго, хто свет не шанаваў,*
*Цягнуць чэрці кодлам да лафета,*

*Пад сталом загнуўся небарак:*
*Вось што значыць выбрыкі прастола.*
*Ім няма патрэбы выбіраць,*
*Дзе прастольна, а тым больш, прыстойна.*

*Дзе лафета цешыцца метал,*
*Чэрці труцца кучкаю малою.*
*Будуць след саноўны замятаць*
*(Выварку згадайма са смалою).*

*Разагнаць ён меўся карнавал,*
*Завадатараў чамусь «замочваць»?*
*Толькі як басоту не карай —*
*Не ўдаецца подзвігі замоўчваць.*

***

*Любіць песню наская душа,*
*Заадно і не зашкодзіць чарка.*
*Першай зыкла вывесяць аншлаг,*
*Для апошняй салютуюць скваркай.*

*Свой лабешнік я даўно схіліў б*
*Перад тымі, хто закарнаваліў.*
*Не дазволіць непаўторны хіб:*
*Бач, грахоў за плечуком навалам.*

*Грэх грымучы даўся ад гляка,*
*Немінучы — з жонкамі злучыўся.*
*Ты ж і папярэднія гукаў*
*(Поўзаць толькі што тады злаўчыўся).*

***

*Не на жарт зацяўся карнавал:*
*Нават пеўні не вязалі лыка.*
*Фінансіст дык сіліўся парваць*
*Знак грашовы з сямізначным лікам.*

*У адрыве жорсткім ад сям'і*
*(На дручок закладзены кароўнік)*
*Фермер, што не лічыць да сямі,*
*Каўтануў з астатнімі пароўні.*

*У акторкі (паміж намі) шок:*
*Не каб хляснуць спадцішка з піітам —*
*Паклялася, бедная, то бок —*
*Не была ніколі на падпітку.*

*Скульптар (наш знаёмец) вунь зляпіў*
*Індыка, падобнага на качку.*
*Тут убачыць нават і сляпы,*
*Што індык не ходзіць ураскачку.*

*А Мікола Крукаў, багамаз,*
*Сябра мой даскону закадычны,*
*Раскруціў «кручок» у соты раз,*
*А сто першы выглядаў міфічна.*

*Не гучалі мат і дыямат,*
*Ды крыўляўся ёлупень віротны,*
*Біў сябе ж у грудзі дыпламат,*
*Збіты з панталыку ў падваротні.*

*Быў амаль цвярозы генерал:*
*(Пенсію ўтрымала генеральша).*
*І свяціў кукардай, як карал,*
*Заклікаў прысутных да дэмаршу.*

*Карнавал зняславіць — рукі цёр —*
*Пад сіфоны, фоны, саксафоны*
*Мчаўся Аламінскі — рэпарцёр,*
*Што ні ёсць, з дзіравым мікрафонам.*

***

*Карнавальны нораў, бы пяршак:*
*Незнарок па макаўцы як жарне!*
*Хто дазволіў, зрэшты, парушаць*
*Непарушныя законы жанру?*

*Аўтара ў кайданкі — і пад суд!*
*І як след з распустай разабрацца!*
*Дзе і як цяпер радок пасуць*
*І якія мэты ў дэкарацый?*

*Павініцца лепш, чым драла даць*
*(Нас у бурсе гэтак прасвяцілі).*
*Як жа тут забыць, ядрона маць:*
*Карнавал жа зверху асвянцілі.*

*І таму, як вою супрацьгаз,*
*Трактарысту — выспятак мазуты,*
*Карнавал павінен мець абраз,*
*Быць адзетым, роўна як абутым.*

*І таму не лішне па-за ўсім*
*Азірнуцца па баках на шэсці.*
*Раіў жа калісьці ўсім Максім*
*Не губляцца, калі вобак чэрці.*

*Але наш — інакшы антураж:*
*Блешча плошча.*
*Сонейка, як лозунг.*
*Набывае ведамасць і стаж*
*Музыка Бізэ і Берліёза.*

*На падмостках хор у сто карат.*
*Гарлякоў не шкода для народа!*
*(Аўтар ушчаміўся акурат:*
*І яму, распусніку, не шкода!)*

***

*Паглядзі, нястомны карнавал*
*Рухае ў кірунку «Зэльва — Слонім».*
*І яго туды накіраваў,*
*Думаю, сынковіцкі тапонім.*

*Ля царквы, дзе вежы не ў абхват,*
*І глядзяць байніцы праз расніцы,*
*Збегліся паэты — брату брат —*
*З карнавалам згодныя радніцца.*

*Ды прайшоў неверагодны слых:*
*Згінуў красамоўства закапёршчык.*
*Карнавалу б паддалі пад дых,*
*Узняліся спадысподу мошчы.*

*Ух! Зышлося і на гэты раз:*
*Усе пры целе, «дзеле» і прыладах.*
*Карнавал рыхтуе на паказ*
*Тое, што і ў вушка не пралазіць.*

*Авангарду прэмію далі*
*(Спашукальнік — вынаходнік вальса).*
*Вось цікава, ці далі б Далі,*
*Дзе і конь калгасны не валяўся.*

*Выстаўляецца і гурт асоб*
*(Хто іх тыцкаў пысамі да мёду?)*
*Кожны гучна паасобку соп —*
*Калектыўна засапуць на модлах.*

*Вось калі б яшчэ глыбей капнуць…*
*Каб трубу, які машну, прарвала,*
*Гуртавыя заравуць: — Капут! —*
*Лататы наладзяць з карнавала.*

*Ну, а той, само сабой, гудзе!*
*Фарбы сцелюць вечар з ручнікамі.*
*Што яшчэ патрэбна грамадзе?*
*Толькі б не найшла каса на камень.*

*«Хлопцаў мала, дзевак шмат.*
*Выраслі з кораня.*
*Выбіраем наўздагад*
*Да любові скорую».*

***

*Вось захоча — вытачыць рубель*
*Найвядомшы ў свеце майстар Піпка.*
*І скачы, будзь добры, з канапель,*
*Пэўна, усё ж прыспічыла, Піліпка.*

*Ды шукаць каноплі днём з агнём*
*Тут, на карнавале, бескарысна:*
*Прыдушыў даўно Каюк сцягном,*
*Генерал падводзіў тлуста рыску.*

*Стой! Прыстань на хвілю, мілы друг,*
*Дый разгорнем спліщаны даведнік:*
*Матка Боска! Тут і ні на дух —*
*Вывелі каноплі ў запаведнік.*

*Дый заўважым момант пазырчэй.*
*Паабапал свята рдзеў маліннік.*
*«Дадалі» яму сваіх вачэй*
*Тыя, што грахоў не замалілі.*

*На пагорку, дзе ляцеў вятрак —*
*Матылёк з безабаронным крыльцам —*
*Зачыталі поначы трактат*
*І падрылі рылам камарыльцы.*

*Тым, хто здольны… вобзем… разбураць,*
*Дай патачку — змесяць і Ла Скала.*
*Даспадобы ім, каб сват і брат*
*Босыя на вогнішчы скакалі.*

***

*Плойма масак…*
*Вогнішча…*
*Салют…*
*Кубак пену як мага трывае.*
*Карнавал даўно зышоў бы ў склюд.*
*Ды гурма за хлясцік затрымала.*

*Ды і аўтар, скажам, не прасцяк:*
*Гне падковы з існай феерыі,*
*Скасавурыў вока на працяг*
*І паперу на барозны рые.*

*Намаганні тыя: будзь здароў!*
*Для пяра — і толькі! — летапісца.*
*Графаман ад горычы зароў,*
*І радні шрайбуе псеўдапісьмы.*

*Хай пасецца смачна графаман:*
*Луг шырокі ў нетры феерыі,*
*Кольцамі віецца фіміям*
*Да нябёс адсюль, з перыферыі.*

***

*Скажам цвёрда: карнавалу ход*
*Можа дацца ў найбліжэйшым часе!*
*Вунь ваксуе аўтар левы бот,*
*Каб падацца ранкам да прычасця…*



# Пад золкім небам бацькаўшчыны

**Калі я ўзяў гэтую кніжку ў рукі і прачытаў прадмову дачкі пісьменніка, то яшчэ доўга не мог уцяміць, чаму ж рукапіс праляжаў у выдавецкіх і хатніх шафах ажно дваццаць гадоў?!**

На той час, калі пісьменнік здаў рукапіс у выдавецтва, — 1995 год — ва ўладзе ўжо быў Лукашэнка, але яшчэ пэўны перыяд у «Мастацкай літаратуры» працавалі рэдактары-«апазіцыянеры» і выдавалі даволі розныя кніжкі, як мастацкага кшталту, так і грамадзянскай, і нацыянальна-патрыятычнай скіраванасці, і свае ўласныя перадусім. Чаму ж у час не выдалі кніжку «Пад сузор'ем сярпа і молата» вядомага творцы Барыса Сачанкі, бо амаль усё, што ў ёй ёсць, якраз клалася і пасавала менавіта таму гістарычнаму моманту ў грамадскім і літаратурным жыцці нашай краіны? Дачка Г. Багданава піша: «Вы трымаеце ў руках апошнюю кнігу, якую паспеў не толькі напісаць, але і скласці аўтар у цяпер ужо далёкія, але такія значныя для нашай краіны 1990-я гады, на жаль, а можа, і на шчасце, выдаць яе магчымасць з'явілася толькі цяпер». Шкада, што такі выбітны пісьменнік і грамадскі дзеяч неяк выпаў з грамадскага розгаласу і апынуўся ў зацені нашай літаратурнай памяці... Бо варты — і вяртання да шырокага чытача, і цёплага ўспаміну, і пашанотнай памяці...

Пачынаецца кніжка з аповесці «Засталіся толькі ўспаміны...» Гэта шчыры расповед пра свой род, сям'ю і малую бацькаўшчыну. Пра аўру Палесся і менталітэт палешукоў. Вядомая справа, што нарадзіўшыся ў гады (1936) самага распалу бальшавіцкага тэрору, жыць сыта не выпадала. Таму сям'я Сачанкаў, як большасць іншых, можна сказаць, выжывала, ледзь зводзячы канцы з канцамі. Працавалі ад зары да зары, нават дзеці, якія збіралі ягады і грыбы ў тады яшчэ густых і пладаносных лясах і пушчах. Вайна і ўвогуле дадала жару ў пякельны агонь гаротнага сялянскага жыцця. Праўда, быў выбар — альбо ісці ў лес да так званых партызанаў-рабаўнікоў, альбо на паліцэйскую службу да немцаў. Бацька Б. Сачанкі выбраў сярэдзіну, што сталася пагрозай адразу з абодвух бакоў. Але неўзабаве сям'ю вывезлі ў Германію на прымусовыя работы. Два гады быў там з бацькамі і будучы пісьменнік. Вызвалілі іх англічане, прапаноўвалі застацца на Захадзе, аднак бацькі вырашылі за лепшае вярнуцца на радзіму. І «красное колесо» закруцілася наноў. Пачалі даймаць уступленнем у калгас. Бацька не захацеў, і яго пачалі выклікаць на «прачостку» ў мясцовы савет, а ўрэшце прынеслі позву з'явіцца ў Хойнікі да раённых чэкістаў. Там ужо ні здароўя сялянскага, ні псіхікі не шкадавалі. Маўляў, чаму не пайшоў у партызаны, а «дазволіў»




вывезці сябе ў Германію і працаваў на Рэйх? Нарэшце, адпушчаны і зашуганы, вярнуўшыся, расказваў запалоханай жонцы: «У турму завялі. А потым усю ноч дапытвалі... нават стралялі...

— Як стралялі?

— А так... Паставяць да сцяны і страляюць... Куля ля самага вуха дзынькне, пабелка са сцяны ў твар... А ён: «Ах! — і вылаецца. — Зноў прамахнуўся! Няхай, яшчэ пагаворым...» І зноў пачынае допыт... Так ноч усю...»

Гэты шлейф «грамадзянскай ненадзейнасці» цягнуўся пасля і за самім Барысам Сачанкам. Першая яго кніжка «Дарога ішла праз лес» (1960), як ні дзіўна, была ўспрынятая крытычна і насцярожана.

Ці не з тых часоў у пісьменніка выпрацавалася пудліва-затоеная асцярога і ўнутрана прыхаваная нелюбоў да аўтарытарнай улады і тонкае адчуванне любой яе часовай сілы і слабасці, перамогі і гібласці... Між іншым, у дзённікавых запісах «Восень у Парыжы» (1993) пра паездку на сесію ЮНЕСКА, ён піша, што «...сёй-той захацеў не пусціць мяне за мяжу і па іншых меркаваннях, маўляў, чаму ў Парыж пасылаюць члена ЦК КПБ. Што ж, палітычная кан'юнктура ў апошні час змянілася. Быў час, калі мяне не толькі за мяжу не пускалі, але нават збіралісе выключыць з універсітэта. За што? Ды за тое, што «ненадзейны»... <...> Словам, такім, як я, месца было ў Сібіры. Колькі і чаго перацярпеў я, перацярпелі мае бацькі і браты! Цяпер, калі перамагла быццам справядлівасць і дэмакратыя, зноў, як выявілася, такім, як я, няма дарогі».

Многія тэксты кнігі напісаны на самым пачатку 90-х, напярэдадні аб'яўлення суверэнітэту краіны і першых часоў яе дзяржаўнай самастойнасці. Вядома, што Б. Сачанка найперш пісаў пра блізкае і вядомае яму: пра пісьменнікаў і літаратурны працэс як тагачасны, так і той, што тычыўся сталінскіх рэпрэсійных часоў. Пра сваіх калег-літаратараў ён піша цёпла і спагадліва, не зважаючы на іх творчую, жыццёвую і грамадзянскую нешараговасць і маргінальнасць. Тое тычыцца М. Стральцова, С. Дзяргая, С. Гаўрусёва... Цікавы запіс пра заўсёдны ўсплёск эмоцый С. Дзяргая, калі гаворка заходзіла пра ўціск беларускай мовы. Паэт верыў у яе поўнае адраджэнне і не губляў надзеі да апошняга. Усім пераказваў пра выпадак са сваёй маці, якая вырасла ў Мінску, а падчас рэпрэсій 30-х гадоў змушана выехаць ў Маскву: «Усё роднае забыла, нават мову... Прыязджаю я да яе, дык не разумела, пра што з ёю гавару... — расказваў Сяргей Сцяпанавіч. — І вось здарыўся ў яе інсульт... І перавярнулася ўсё ў галаве... Успомніла беларускую мову, тое, чым жыла ў дзяцінстве, у маладосці... А пазнейшае, маскоўскае, забыла, як бы яго і не было... І ўсюды — дома, на вуліцы, у магазінах — пачала размаўляць толькі па-беларуску... І з народам нашым некалі нешта падобнае здарыцца. Успомніць ён і мову нашу, карані свае, сваё не такое ўжо і паганае мінулае... Вось пабачыце. Я, можа, і не дажыву да таго, але хтосьці дажыве. Веру — будзе тое...»

Альбо амаль анекдатычнае пра С. Гаўрусёва, звязанае з яго выпіўкай і стаўленнем да савецкай улады: «Сустракаючы раніцою Сцяпана ў Доме літаратараў, я іншы раз казаў:

— Сцяпан, так рана, а ты ўжо вясёлы?

— А ты хацеў бы, каб я быў сумны? — пытаннем на пытанне адказваў Сцяпан. — Трэці год пяцігодкі пачаўся, як паведамляюць, паспяхова, ёсць усе падставы для здаровага савецкага аптымізму...»

Вядома, што гэта не кніжка мастацкай прозы. І крытычнае ўспрыманне яе трохі іншага складу. Але нават і тут аўтар не прамінуў зачапіць менавіта гэтае — творчае, прытым не баючыся самакрытычнасці і шчырасці ў выказваннях. Да прыкладу, ва ўспамінах пра не лепшы перыяд жыцця М. Стральцова ён нечакана, як з падсвядомасці, адцеміў пра сябе самога наступнае: «Шчыра кажучы, я ў сім-тым зайздросціў Міхасю. Яго спакою, нетаропкай, але ўпэўненай хадзе ў літаратуру. У мяне ж часта не хапала цярплівасці папрацаваць яшчэ і яшчэ над сваім творам. Набягалі новыя і новыя тэмы, яны падганялі хутчэй і хутчэй класці словы на паперу. Недахопы сваіх твораў я бачыў пасля, калі творы былі ўжо надрукаваны. Да таго ж я браў для сваіх твораў такія тэмы, якія крывавілі, балелі. Даводзілася ўмешвацца рэдактарам. А ўмяшанне рэдактарскага, а ў тых умовах па сутнасці цэнзарскага алоўка, ніколі не паляпшала твор. Мусіць, я скардзіўся тады на свой лёс, і ён, Міхась, мяне супакойваў, суцяшаў...» Так могуць пра сябе выказвацца толькі сумленныя і таленавітыя людзі.

Большая трагіна тэкстаў гэтай кніжкі тычацца стану нацыянальнай літаратуры падчас бальшавіцкіх рэпрэсій 1930-40-х гадоў, драматычных, а найчасцей трагічных лёсаў асобных пісьменнікаў і паэтаў, грамадскай, духоўнай і творчай працы нашых літаратараў у эміграцыі, а таксама, што патрабавала смеласці па тым часе, выкрыццю ганебных спраў былых партыйных дзеячаў, опер-работнікаў НКУС і рознага роду стукачоў...

Безумоўна, прайшло больш за дваццаць гадоў пасля напісання кнігі, і некаторыя выкладкі і высновы Б. Сачанкі займелі новую рэдакцыю ці набылі свежыя архіўныя ўдакладненні і папраўкі. Але асноўнае з напісанага застаецца праўдзівым фактам нашай літаратурнай гісторыі. Скажам, на той час ніхто не ведаў вось гэтых радкоў У. Дубоўкі, якія былі выдрукаваны ў эміграцыі, і з дапамогай Сачанкі былі агучаны ў Беларусі, і я не ўпэўнены, мо і дагэтуль не выдрукаваны ў сучасных выданнях паэта. Я маю на ўвазе верш «Здраднікам» (1931), адкуль працытую дзве страфы:

*«...вы прасякнутыя брудам*
*ад пяты да самай шыі,*
*звыклі біць тых, што пад спудам,*
*ліць на бліжняга памыі...*
<...>
*Месца ваша ў ніцалоззі,*
*ганьба вам наканавана,*
*бо пры вашай дапамозе*
*Бацькаўшчына ўкрыжавана...»*

Але тыя, з «ніцалоззя», нават «сваіх» не шкадавалі: «Дзевятнаццатую гадавіну нараджэння ВЛКСМ у нашай рэспубліцы адзначылі своеасабліва — расстралялі ў гэты дзень — 29 кастрычніка 1937 года — двух таленавітых пісьменнікаў — Анатоля Вольнага і Платона Галавача. Абодва ж — і Анатоль Вольны і Платон Галавач — у свой час былі актывістамі-камсамольцамі, працавалі ў апараце ЦК ВЛКСМБ, а Платон Галавач быў нават першым сакратаром ЦК ЛКСМ Беларусі...»

І тут жа, непадалёку — імёны некаторых з тых, хто прымаў удзел у знішчэнні нацыянальнай літаратуры і нашай эліты ўвогуле: «Справа міфічнага, выдуманага на ўтульных начальніцкіх кабінетах «Саюза вызвалення Беларусі» рыхтавалася пры непасрэдным удзеле Л. М. Кагановіча, першага сакратара ЦК КП(б) Б Гея, начальніка ГПУ Беларусі Рапапорта... «Агучвалі» яе, рыхтавалі «масы» да «разумення» таго, што адбывалася, бы заадно і «кампрамат» — матэрыялы для карных органаў, «крытыкі» Аўэрбах, А. Сянкевіч, Л. Бэндэ, В. Вольскі, Я. Бранштэйн, С. Вальфсон, А. Кучар, М. Аляхновіч... Мянялася кіраўніцтва ў ЦК КП(б)Б, у ГПУ (НКУС), мяняліся і «агучвальнікі»... Падключаліся, каб не стаяць убаку, засведчыць сваю «непрымірымасць» да «ворагаў народа» ў «агучванне», «выкрывальніцтва» і некаторыя пісьменнікі. А то і супрацоўнікі розных установ».

Сёння гідка чытаць і ўзгадваць гэтыя прозвішчы. Але, на жаль, і сёння час яшчэ неспрыяльны для беларушчыны, а таму недзе некім занатоўваюцца і адкладваюцца для ведама нашых нашчадкаў новыя і новыя імёны з «ніцалоззя»... І як бы ў павучанне падобным Б. Сачанка падае запіс пра сыход аднаго з самых ненавідных літаратурных стукачоў таго часу, на сумленні якога многія жыцці таленавітых творцаў Айчыны: «Бэндэ памёр не дома, у Ленінградзе, а ў Смаленску. Перад самай смерцю ён у тым пакоі, дзе пасяліўся, заканапаціў вокны, замкнуў дзверы, а, каб да яго ніхто не ўлез, да дзвярэй падцягнуў яшчэ і шафу, стол, забарыкадзіраваўся імі. Так што калі праз некалькі дзён пасля яго смерці ўзламвалі пакой, давялося і міліцыі і панятым нямала папрацаваць, перш чым вызвалілі яны труп ка́та беларускай літаратуры, які ўжо разлажыўся... З таго дня, як пачуў я гэта, не выходзіць у мяне з галавы думка: ад каго хаваўся Бэндэ, каго ён баяўся? Няўжо мірсніліся яму, прыходзілі ў перадсмяротнай гарачцы тыя, каго ён даслаў ні за што ні пра што на смерць? Кажуць жа: кроў людская — не вадзіца...»

Сам Б. Сачанка да апошніх дзён шчыра верыў у росквіт нацыянальнай культуры і літаратуры, у шчаслівае заўтра і светлую будучыню нашых дзяцей і ўнукаў, аддаючы даніну памяці тым, хто не шкадаваў уласнага жыцця дзеля нацыянальнага адраджэння і ўздыму. Пішучы артыкул пра Аляксандра Уласава, рэдактара-выдаўца «Нашай нівы», Барыс Іванавіч не прамінуў працытаваць запавет рэпрэсаванага пачынальніка беларушчыны: «Мае равеснікі і аднадумцы клалі свае маладыя гады, сваё асабістае шчасце, сваё здароўе, сваё жыццё. Многа з іх звалілася ў баразну, аддаўшы ўсе свае сілы да канца. Дзе мае старыя таварышы? Большасць спіць у зямлі сырой. Праз іх трупы ідуць новыя барцы, утрымліваючы заваяваныя папярэднікамі пазіцыі, смела імкнучыся далей уперад. І як нашае пакаленне старалася вызваляць і дух народа з рабскае залежнасці ад чужынцаў, так і вы, маладыя, мусіце гэта рабіць і ствараць новы перыяд, які б адыграў не меншую ролю ў беларускім рэнесансе, як перыяд «нашаніўскі»».

Апрача ўпомненага, чытач знойдзе ў кніжцы Б. Сачанкі цікавыя і арыгінальныя тэксты пра эмігрантаў Н. Арсенневу, М. Сяднёва, Ю. Віцьбіча, Я. Юхнаўца, Б. Заборава, пра іншых таленавітых людзей беларускай культуры і літаратуры, а таксама нататкі і артыкулы грамадскага гучання, гутаркі і інтэрв'ю аўтара, што друкаваліся ў газетах «Звязда», «Голас Радзімы», «Свободные новости», «Народнай газеце», часопісе «Беларуская думка»...

Даволі рана мы страцілі яшчэ аднаго пісьменніка ў самым росквіце ягонага таленту. Але і пакінуты ім плён творчага і грамадскага жыцця дае падставы гаварыць пра Барыса Сачанку не толькі як пра выбітнога пісьменніка, але і як пра годнага паслядоўніка тых, хто адстойваў нашу духоўную культуру і нацыянальную самасвядомасць. Сёлета яму было б 80 гадоў... І ўсім нам варта прыслухацца да яго словаў: «Як маці, бацьку нельга сабе выбраць, так і Радзіму, народ. Якія даў іх Бог, такія яны і ёсць. І не абурацца, не папракаць іх трэба, а рабіць усё магчымае, каб народ стаў лепшы, дабрэйшы, больш адукаваны, свядомы, а Радзіма — багацейшая, слаўнейшая».

Добра сказана. На жаль, пакуль яшчэ дрэнна засвоена.

**Леанід Галубовіч**



Іван ШТЭЙНЕР

# Трыпціх Насты

## Сад зямных радасцяў

**Такую назву далі мастацтвазнаўцы найбольш загадкаваму і таямнічаму трыпціху славутага Героніма Босха, у сваяцтве з якім зусім шчыра і доказна прызнаецца ягоная далёкая (у храналагічным летазлічэнні) сваячка, паэтэса Наста Кудасава.**

Сусвет, створаны галандскім мастаком, настолькі незвычайны і парадаксальны, што да гэтага часу (г. зн. за пяцьсот гадоў!) неразгаданы і неспазнаны, а ягонага аўтара то забываюць, то зноў залучаюць у шэрагі геніяў чалавецтва. Невыпадкова на пачатку мінулага стагоддзя менавіта яго сюррэалісты назвалі сваім папярэднікам і натхніцелем. Шлях чалавека ад раю да пекла Босх увасобіў такімі адметнымі алегорыямі, шматузроўневымі сімваламі, нязвыклымі асацыяцыямі, што глядач, разгублены і разладжаны, не можа знайсці апору ў звыклым асяроддзі: усё ў ім плыткае, бясформеннае, вадкападобнае, а таму фармуе спецыфічнае светаўспрыманне. Жыцццёвы вопыт, якім бы багатым ён ні быў, не толькі не спрыяе спасціжэнню філасофіі быцця, але нават шкодзіць, бо ўступае з ёю у непрымірымую супярэчнасць і антаганізм. Таму славутую карціну, якую аўтар, відаць, знарок не называў, каб абудзіць фантазію патэнцыйнага гледача, схіліць яго да сутворчасці, неабходна не толькі бачыць, але і чытаць.

Тым болей, што прыкладна ў той самы час не менш вялікі Леанарда да Вінчы сцвярджаў: *«Жывапіс — гэта нямая паэзія, а паэзія — гэта сляпы жывапіс»*. Патрывожаныя цені вялікіх дазваляюць нам перакінуць віртуальна-ажурны масток у сучаснасць, бо сваім чарговым зборнікам Наста Кудасава таксама завяршае свой уласны трыпціх. Прычым калі ёе папярэднія дзве кнігі сталіся адпаведна левым і правым складнікамі агульнай выявы, то цяпер перад намі — галоўная частка створанай яе талентам карціны. І для падобнага ўспрымання ёсць усе падставы. Свет паэтэсы таксама незвычайны, населены экзатычнымі істотамі: шматгорбыя вярблюды веры, кашалоты, расхрыстаныя касманаўты, салдаты ў шыхтах адзіноты, забойцатварыя гаргоны, жук у бліскучым трыко, святарная карова, павук між натоўпамі малпаў у краіне кратоў, рака міліярдалітрая хавае сваіх цуда-юдаў касматых, грае Пан касматаногі, дракон, якога павінна весці нявінніца, п'е з рук пяшчоты ваду. Нават звыклы для нашых палестынаў мядзведзь — і той амаль філасаф, бо падчас спячкі ледзь не ўцяміў бога. І флора незвычайная, самабытная: базілік і хурма, сівыя явары і кедры ліванскія ў шэрагу іншых дрэў, што *«бязногія, тысячарукія, заўсёды ў абдымках неба цярпліва стаяць у бязгукаўі»*. *«Сляпая»* карціна Кудасавай, як і твор Босха, таксама разбітая на мазаічныя кавалачкі (цяпер гавораць пазлы), у кожным з якіх пануе свой вобраз і тэма, на першы погляд амаль незалежныя ад іншых. Аднак іх яскравая індывідуальнасць і ўяўная суверэннасць падпарадкаваныя генеральнай дамінуючай ідэі, і кожны канкрэтны вобраз раскрывае агульную глыбіню задумы, надае ёй неабходны каларыт, ствараючы сістэмную палітру палатна. І глядач, і чытач павінны найперш здзівіцца неўсвядомленаму і да канца неспасцігнутаму свету, страх сузірання адыходу якога паралізуе цябе, нібы жонку Лота, і ты не маеш сілы і адвагі *«стаіць самоту страшнаротую, не расчытаную нікім»*. Бо ўжо нават самім актам прысутнасці пакараны за далучэнне да вялікай таямніцы, а таму вымушаны стаяць з соллю на языку, *«маўчанне ў неба сеючы»*. Узамен за гэта вечнасць абдымае плечы і вымае невыносны боль з цела і душы радкамі вершаў. Нешта падобнае было ў творчай практыцы Лесі Украінкі, азарэнне да якой прыходзіла разам з несціханым болем. Але яна не цуралася пакутаў, нават заклікала іх, бо толькі такім чынам, сцвярджае і яе салідарная беларуская калега, можна дасягнуць сівільных высі, зрабіцца прарочыцай. Хаця наша зямлячка не хоча, каб богі падкідалі ёй падобныя дары, бо заўсёды, як яна падсвядома разумее, патрабуюць за іх адпаведнай адплаты.




На трыпціху Босха вылучаецца фігура чалавека з галавою савы. Сутнасць падобнага вобразу да гэтага часу неразгаданая. Звычайна сава — сімвал мудрасці, згадаем Афіну, міфы розных народаў, словы Троцкага пра музу паэзіі, якая вылятае са змяркannем... І ўсе вялікія мужы марылі аб ёй: *«Не просил еси собе дней многих, ни богатства, но жадал еси собе мудрости»* (Ф. Скарына). Лірычная гераіня Кудасавай не імкнецца да падобнай славы. Не трэба прасіць таго, што маеш: кожная жанчына нараджаецца з тысячагадовым досведам. Таму ў яе свая доля, свой шлях: *«я твой вернік з атраду кудзесных мякка-крылая ноч-гамаюн»*, здольная абпаліць *«агнягукаю песняй»*, каб аж трымцела птушыная плоць. Спеў сінічкі на вуснах адзінага намнога прыгажэй і ўзнёслей начнога вухання і рагату пачвары змроку.

Рыбы на трыпціху вялікага галандца сімвалізуюць сабою непакой і пажадлівасць. Водны свет надзвычай прыцягальны для беларускай паэткі: *«і ў звар'яцелым вусьці нашу сваю веры, выспельваючы вуснамі пяянне срэбных рыб»*. Недарэчна ёй — рачной — быць з усімі, бо вада дамінуе ў сусвеце. Рэчы стануць рэкамі; мінулае сплывае ракой рабой; рака бяжыць нарохрыст хрыбтамі рыб; рыбіным царом называецца адзін з адрасатаў яе верша, імя якога яна ўспрымае як *споведзь вады;* яна цалуе рыбам вусны і кладзе рукі ім на плечы, або любуецца, як *«рыбы ў феерычным танцы тапочуць па рацэ нагамі»*... Яны ж моляцца і співаюць харалы алаху ўсяводнаму. Рыбінай ідзе лірычная гераіня з песняй болю і шчасця за павадыром белых рыб, што азначае не толькі спадзяванне на шчасце, але і поўную пакору. І як яе зусім не бязмоўныя персанажы адрозніваецца ад выключна цнатлівых насельніц воднага свету А. Міцкевіча, Я. Чачота, Я. Купалы.

**Жыцццёвы вопыт, якім бы багатым ён ні быў, не толькі не спрыяе спасціжэнню філасофіі быцця, але нават шкодзіць, бо ўступае з ёю у непрымірымую супярэчнасць і антаганізм**

Цэнтральная карціна трыпціха Босха прысвечана граху пажадлівасці і нястрымнай насалоды — Luxuria. Тут рай саступае месца хаосу, бо менавіта пажадлівасць збівае людзей з праведнага шляху. Сад запоўнены голымі мужчынамі і жанчынамі, якія ядуць велізарныя ягады (некаторыя ростам з чалавека), плаваюць, але найперш шукаюць насалоду кахання, прычым у не вельмі спрыяльных таму месцах і ўмовах.

Рай для Насты Кудасавай не ў далёкай Індыі, як лічылі ў XVI стагоддзі, а на роднай зямлі; не ў Міжрэччы, а ў стыку Друці і Дняпра, які становіцца Рымам, бо з усяго свету бягуць да яго дарогі, па якіх вяртаюцца дарагія сэрцу людзі. Менавіта там існуе сапраўдны Эдэм, у якім святое трэба аддаць сабаку, будка якога нагадвае храм, а на дне вачэй адбіваецца свет невыгаўкны. Толькі там у здзіўленых травах можна слухаць дабравесце стракоз. Там гадуецца самазванка-душа, што ўзрастае, люляная трыпутнікам і мядовым сунічнікам, распнутая на сцежках радзімы. На жаль, мы маем вушы (вобраз на карціне), але не чуем. Наша сучасніца не будзе пагаджацца з тым, што чалавек страціў анёльскую прыроду і таму ўпаў вельмі нізка. Як і паказваць пачварныя наступствы плоцевых жарсцяў і іхні эфемерны характар. На гэта адказ дае само жыццё: мільёнамі кветкавых моваў заходзіцца поле ў чаканні кахання. А за пецікава-тытыннай прэлюдыяй пачынаецца сапраўдная, якой так баіцца і так чакае кожны паэт. А тым болей калі ён — жанчына. Тады вербная нядзеля ператвараецца ў *свербную,* бо цябе ахоплівае такая *ждома,* якую не адужае нават Пенелопа: безназоўная магма выцякае з цела, а памяць, язык і нават душа просяцца да яго ў абоймы. І фарбамі, і словамі немажліва перадаць галоўнае — Дотык:

*Ад я да ты — толькі дотык,*
*І ў роце пякучы эрот.*
*Разбіцца б усёй адзінотай*
*Аб твой неабвержны жывот...*

У гэтым танцы рукі становяцца прарочымі, пальцы — лёгкімі лётчыцамі, што шукаюць на целе месца прызямлення, вусны пяюць сініцай, а яна ўздымаецца крыламі тугі-вяшчунні. І самыя дарагія ўбранні, якія так неабходны кожнай жанчыне, — гэта ягоныя абоймы. Чарговае спатканне — тканне спаянасці, што дазваляе яшчэ адным спотыкам радніцца ў адно радно. А ягоны водар вядзе ў *«пушчу бездарогую»,* дзе антычны казланогі ўладар напаўняе гудзьбу такой вечнасцю, што ўжо не страшна ведаць, хто на самой справе той спакуснік, а толькі хочацца любіць да самай незваротнай ноты. (У Босха апошнія намаляваны на ягадзіцах.) І сама яна стане лясной русалкай, а яе спакуснік (ці ахвяра?!) будзе на чужыне сніць *«пушчаў нашых шлюб»*, і ад роспачы яго ўратуе толькі *«ягадная моўч»*. Ахвярнасць, хутчэй самаахвярнасць, прыроджаная сутнасць жанчыны. Невыпадкова Наста Кудасава ўслаўляе маладую прыгажуню Авісагу, якая прыйшла сагрэць цара Давіда мёдам ягадаў і сваім маладым целам. Але не толькі пакорнасць дамінуе ў сэрцы дачок Евы. Кожная жанчына хоць на хвіліну ўспрымае і адчувае сябе Саламеяй, па волі якой рушацца царствы і сусветы, а танцавальна-мілоснымі рухамі і жэстамі яна вырашае лёс і долю прарокаў. Гераіня Насты Кудасавай і сама ў пэўнай ступені багіня, невыпадкова да яе грудзей рукамі крадзецца зеўс... Цела жанчыны — гэта цаціва, што робіцца ўсё напяцей, бо ў ім схаваны і муза, і жанчына, і маці. І прызначаная канва паступова танчэе, а з ёю знікае спрыт, грым, забег жончын і доччын. А тады прыходзіць ацверазенне: усё мінае, і толькі памяць *(за ўсё гарчэйшы памяці тытунь)* унутраным зверам скуголіць. Бо ты засталася адна. Здзейснілася тое, чаго так падсвядома баялася, што прыходзіла толькі ў пачварных кашмарах. Самае

# Кудасавай



страшнае на свеце, што можа здарыцца ў жыцці жанчыны: у вярэдзіне дзён ты незаўважная, нічыя.

Я самая-самая лішняя ў цябе, *«з усіх тваіх мараў, падзей і дарог»,* а значыць, з усяго на свеце. І не трэба шукаць вінаватых: іх даўно знайшлі і прывязалі да ганебнага слупа ў гэтым фалакратычным свеце мужчынаў і жанчынаў. *«Я паўсюды вінная»,* — сцвярджае лірычная гераіня. Вінаватая ў тым, што марыла сплыць у завадзь ягонага пляча шчаслівым пакорным птахам *(«плячом палячы, прытулі аж датуль, пакуль не пачнецца віна»)* і шчыра спадзявалася, што не адна пакутуе і здабывае насалоду. І тым гарчэйшы ўсклік выпаленай полымем болю душы: *«віны вы ж мае»!* Дурэючы з лёсам, яна ўсклікала: *«хай збудзецца ўсё, што так страшна назваць, што цепліцца ў гронках-руках».* А цяпер б'е хвастом адзінота — непад'ёмная кашалоціха; вечар даўкім адчаем зумкае, вінаградзінай болю: кінь мяне, бо і так я змоўкла наўзбоч тваіх дарог. Усё *мінае* — было напісана на пярсцёнку цара Саламона. *«Усё праходзіць на зямлі, як слава пустаротая»,* — сцвярджае наша сучасніца. А туды, *«дзе мы нязбытныя прайшлі»,* вернецца дождж, каб *«абмыцца вольніцай самотнаю».*

Хто ж на самой справе вінны ў гэтым? Была я жанчынай з доляй прапашчай, — шчыра-какетліва згадвае гераіня. — З бярвенняў у воку можна было скласці хату. Але нельга ў гэтым свеце спавядацца. Тым болей шчыра. Ніхто не ўратуе цябе пяшчотай, хварэеш моўчкі, бо для жанчыны існуе толькі адна свабода: абліваццa болем у самоце ночы. І дарэмны адчайны ўскрык: Госпадзе, вось я — *нічыйнарукая,* я не магу так болей. Нельга знайсці ратунак ад *«сябе-цемразаўра».*

У еўрапейскай мастацкай традыцыі паэзія звычайна атаясамліваецца з вясной. У Насты натхніцельніца ўсёй маладой лірыкі згадваецца толькі адзін раз, ды і то ў зусім незвычайным выглядзе — *«упартая, лезе вясна».* Гэта не яе стыхія. Як і зіма ў альбомным вершы *«Кудаса»,* дзе абыгрываецца ейнае прозвішча, сінанімічнае назве завеі. Сюды ж дабавім не менш какетліва-звыклае жаданне *«закунежыць, вылецець у комін»,* пакрасавацца: *«варажбітка, завея, ліліт».* Альбо *«ведзьма ва ўсіх пакаленнях».* Па сутнасці, аднойчы, але затое як раскошна пададзена лета, якое *«стомленай гетэрай адыходзіць на спачын».*

**Кажуць, што мужчына не ведае, якое цудоўнае жыццё, да таго імгнення, пакуль не адчуе, як ахоўваць сон каханай. Але наўрад гэтая радасць зраўняецца са шчасцем маці: «Спі, мой любы сыне, спі, Ягорка, Спі, а я твой сон пасцерагу»**

Яно здзейсніла наканаванае, як у вершы «Яблычная аскеза», дзе гаворка зусім не пра плады. Калі Пімен Панчанка паэтызаваў яблычны цвет, то Наста Кудасава ўслаўляе *«летам налітыя яблыкі целаў»,* што млеюць дадолу ў мурог, *«дзе паўнаўладны муркоча амур».* Параўнаем: лодка-яблык на карціне Босха, у якой схаваліся каханкі, нагадвае жаночую цыцку. Менавіта такой яе ўбачылі крытыкі яшчэ задоўга да Фрэйда.

Дамінуе восень, якая прыходзіць *«нястрыманай, паўсюль вінаватай жанчынай»,* недарэчнай цёткай гераіні:

*Верасень — роспачны Вертэр –*  
*лісце пакуе ў канверты,*  
*піша парывіста «Werde!»*

Восень прыходзіць і ставіць усё на сваё месца: бульбу ў капцы, чаравікі ў лужыну, вершы ў горла. А самае галоўнае — спрабуе раставіць прыярытэты ў жыцці. Восень нясе ёй пакаранне, нібы Ёву. Нават фізічна: *«восень пад рэбрамі смюягне».* ВОСЕНЬ САНСАРА. Менавіта з вялікай літары, бо гэтае паняцце ў індыйскай філасофіі абазначае кругазварот нараджэння і смерці, абмежаваных кармай. Душа, якая топіцца ў акіяне сансар, імкнецца да вызвалення і забыцця сваіх мінулых дзеянняў. САНСАРА — вынік неразумення свайго сапраўднага «Я», сваёй недасканаласці, пад уплывам чаго часовы і ілюзорны свет прымаецца за рэальны. Якраз падчас крызісу адбываецца катарсіс, пасля чаго наступае ачышчэнне. Як фізічнае, так і духоўнае, бо якраз у падобным стане пазбаўляюцца ідэалаў, развітваюцца з кумірамі. У вершы без назвы (а такіх у зборніку выключная большасць) ва ўсіх 42 словах не называецца імя Цвятаевай, але па-майстэрску раскрыта трагедыя вялікай паэтэсы, творчасцю якой захаплялася наша зямлячка. У доме павешанага не згадваюць пра вяроўку, таму гаворка ідзе пра кара́лі на шыі ахвяры, столь хаты становіцца панцырам, што закрывае неба. Выслоўе *«хто мае крылы не можа не ўзняцца хоць раз хоць на метар ад абсурднага долу»* жахліва-саркастычна паказвае бяссэнсіцу і веліч учынку паэтэсы, якая ад голаду страціла дачушку і праз голад (не толькі фізічны) і сябе. Прысуд свету, які адвяргае генія: Цвятаеву не ўзялі нават мыць посуд у пісьменніцкай сталоўцы *(не да посуду апастылага міраносіцы песеннажылай).* Ніхто не заўважыў трагедыі: *«дні днявалі* ***елабуга*** *ела».*

Уплыў класіка застанецца апасродкаваным, бо праяўляецца не ў знешніх рэаліях, а ў патаёмным, інтуітыўным, пра што пісала сама Марына Цвятаева ў лісце да каханага: *«Вы освобождаете во мне мою женскую суть, мое самое темное и наиболее внутреннее существо».* Лірычная гераіня Насты Кудасавай пратэстуе супраць падобнага шаленства, закладзенага ў цела жанчыны. Яна гарыць у сваім целе, просіць зіму астудзіць агонь, які зусім не па яе росце выпадае, паказаць, як злую глебу жыцця ўтрымліваць белай. А можа, у гэтым і схаваны сэнс жыцця? *«Но от этого я не менее ясновидица. Вся моя зрячесть обратной стороной имеет — ослепление».* Восень застаецца восенню, *«стрыжнем тонкае душы»,* а душа напаўняецца новай радасцю, што так прыгожа ўвасобілася ў *«Калыханках для дзетак».* Кажуць, што мужчына не ведае, якое цудоўнае жыццё, да таго імгнення, пакуль не адчуе, як ахоўваць сон каханай. Але наўрад гэтая радасць зраўняецца са шчасцем маці: *«Спі, мой любы сыне, спі, Ягорка, Спі, а я твой сон пасцерагу».* Або песня для дачушкі, да якой *«едуць мірыяды прынцаў... і кожны на кані».* Самая вялікая паэзія ў такіх простых і наіўных радках: *«Спі, мая харошая, засні».* Праўда, для завершанага трыпціха не хапае яшчэ адной калыханкі...

Каб ямчэй арыентаваццца ў свеце паэтэсы, яна пакідае ў тэкстах арыенціры-маркеры. Акрамя Лота і Саламеі, гэта Ной, Саламон з ягонай мудрай абыякавасцю, арфейны пошум лесу, пагоня за эўрыдыкаю Айвенга, Вертэр, urbi et orbi? Але ўсе вобразы не кніжныя, а роднасныя гераіні: *«бескампраміснага пракруста цалую ў вусны»,* ці варта аддаваць святыню псам?

Наста Кудасава — адметны майстар, арыгінальны словатворца. І толькі ў паасобных вершах можна з нацяжкай убачыць сляды арыентацый на славутых папярэднікаў: *вершалінаў вершалініі* (Хлебнікаў), што зусім не крамола. У астатнім яна працягвае нацыянальную, найперш уласную, традыцыю: *соснаў роспачнае sos; каляслёзныя ў горле мячыкі; сябе-цемразаўра; басалап; спевашчокія жабы; памылкай памыцца; жабрак бязвешні; дрэваверніца, сцежканосіца; занадтаногая, скальдзіцца мая кялейніца, нічыйнарукая.* Умельства ў гульні з гукам добра ілюструе верш «Акрыяць»:

*акрыяць гэта крылы і хлеба*  
*акраец*  
*родны край і крый Божа*  
*не скрадзены вырай*  
*гэта выкрывяніць да раскаяння*  
*памяць*  
*і на ветразі перакраіць*  
*свае шырмы*  
*гэта прага няскоры і скарбы*  
*адкрыццяў*  
*піць паскораным сэрцам*  
*крынічнае слова*  
*каб урэшце зрабіцца*  
*прыўкраснай сініцай*  
*і сагрэцца пад пахай святарнай*  
*каровы*

У падобных пошуках Насты Кудасавай пры жаданні можна знайсці сувязі з модным напрамкам у сучаснай еўрапейскай паэзіі, найперш нямецкай і аўстрыйскай, — канкрэтывізмам, задача якога праз эксперыменты з мовай вызваліць энергію канкрэтнага слова, незалежнага ад граматыкі і пунктуацыі. Эмацыйная энергія закладваецца ўнутр радка, у сярэдзіну слова, у фонасемантыку. Аднак беларуская паэтэса не імкнецца да знешняй арыгінальнасці ці простага пераймання неавангардысцкіх тэндэнцый (моўныя канвертацыі, зксперыменты з эўфонікай тэксту, гульні з рыфмай). Цяпер лічыцца вельмі прагрэсіўнай інтэрпрэтацыя працэсу стварэння візуальных жанравых формаў (ідэяграма і канстэляцыя, шараднае і іерагліфічнае пісьмо, друкарскі набор featured рознымі шрыфтамі, сінтэз вербальных і параграфічных знакаў) як вынік адмовы аўтара ад знаку сімвала, уласцівага натуральнай мове, на карысць візуальнага лінгвістычнага знаку. У гэтым якраз бачыцца мажлівасць пашырэння межаў паэзіі ў яе суадносінах з графікай і жывапісам. Зборнік Насты Кудасавай сведчыць аб тым, што таленавіты паэт нават у класічнай традыцыі зможа дасягнуць вельмі многага, арганічна паяднаўшы дасягненні сумежных відаў мастацтва.

ПРЭМІІ

## Букераўская прэмія

**Міжнародную Букераўскую прэмію за 2016 год атрымалі пісьменніца з Паўднёвай Карэі Хан Канг, аўтар рамана «Вегетарыянка», і перакладчыца Дэбара Сміт.**




«Вегетарыянка» — першы перакладзены на ангельскую мову раман Хан Канг. Журы Міжнароднага «Букера» назвала твор «дакладным, трывожным і выдатна складзеным», «уражлівай сумессю прыгажосці і жаху».

Пераклад «Вегетарыянкі» стаў першым для Дэбары Сміт, якая пачала вывучаць карэйскую мову сем гадоў таму.

У рамане гаворыцца пра хатнюю гаспадыню, якая ўбачыла дзіўны сон, пасля якога вырашыла перастаць есці мяса. Таму яна сутыкаецца з агрэсіўнай рэакцыяй з боку мужа, бацькі і тых, хто іх акружае.

Міжнародную Букераўскую прэмію ўручаюць з 2005 года. Спачатку ёю ўзнагароджвалі раз у два гады за кнігі, напісаныя на англійскай мове ці перакладзеныя на англійскую. З 2016-га прэмію ўручаюць за адну перакладзеную на ангельскую мову кнігу. Узнагароду (50 000 фунтаў стэрлінгаў ці прыкладна 75 000 даляраў ЗША) дзеляць пароўну аўтар і перакладчык.

**Паводле «Meduza»**

## Прэмія Андацье

**Кніга Пітэра Памяранцава «Нічога праўдзівага і ўсё магчыма» (Nothing is True and Everything Is Possible) атрымала прэмію Андацье 2016 года.**



Прэмію прысуджаюць ужо 13 гадоў за мастацкую літаратуру, нон-фікшн і паэзію, у якіх «прысутнічае дух пэўнага месца». Пераможца атрымлівае 10 000 фунтаў стэрлінгаў (15 000 даляраў ЗША). Яе заснавальнікам з'яўляецца пісьменнік і бізнэсовец Крыстафер Андацье.

Брытанскія крытыкі і журналісты назвалі кнігу П. Памяранцава «шыкоўным выкрыццём прагнасці і карупцыі ў сучаснай Расіі» і дадалі: «Гратэскавая пагоня за грашыма перадаецца бліскучай, рэзкай прозай, якая адлюстроўвае краіну, дзе кіруюць гангстары, а рэкі брудных грошай лёгка цякуць у Лондан».

Гэтая кніга таксама ўвайшла ў шорт-ліст прэміі «The Guardian».

Кніга «Нічога праўдзівага і ўсё магчыма» злучыла ў сабе журналісцкае расследаванне, крытыку і падарожны нарыс. «The Guardian» назвала яе «анты-падарожным нарысам пуцінскай Расіі». У ёй апісана Расія нулявых: з глянцам, прагай нажывы, палітэхнолагамі і крымінальнымі аўтарытэтамі. Кінематаграфічныя і адначасова дакументальныя сюжэты кнігі востра апісваюць постсавецкую Расію, дзе не можа існаваць ні адна рэальнасць, акрамя той, што ў тэлевізары. Дзе «нічога праўдзівага і ўсё магчыма».

За перамогу ў гэтым годзе спаборнічалі зборнік вершаў «Рака» (The River) Джэйн Кларк пра жыццё на ірландскай ферме; «Вялікі Выбух» (The Great Explosion) Брайяна Дылана, кніга пра пажар на ваенным заводзе на балотах Кент у 1916 годзе; даследаванні гісторыі ангельскага надвор'я Аляксандры Харыс «Weatherland»; дзённік успамінаў Джэймса Рэбанкса «Жыццё пастуха» (The Shepherd's Life) і кніга «Гэты падзелены востраў» (This Divided Island) Саманта Субраманьяна пра грамадзянскую вайну ў Шры-Ланцы.

Пітэр Памяранцаў — брытанскі журналіст, даследчык расійскай медыяпрасторы. У пачатку 2000-х гадоў працаваў у Маскве журналістам і тэлевізійным прадзюсарам. У кнізе «Нічога праўдзівага і ўсё магчыма» асвятліў праблему трансфармацыі расійскага грамадства пад уплывам медыятэхналогій, апісаў феномен расійскага тэлебачання як механізм, які ўплывае на палітычныя трэнды, гісторыю краіны і свядомасць яе грамадзян.

**Паводле «The Guardian»**

# «Аліса ў краіне цудаў» за 2 мільёны долараў

**Першае і самае вядомае выданне «Алісы ў Краіне Цудаў» выстаўленае на аўкцыён. За кнігу прызначылі цану 2–3 мільёны долараў. Гандаль адбудзецца ў чэрвені.**

Гэтае выданне 1865года з'яўляецца адной з 22 вядомых копій, якія ёсць цяпер. Пасля таго, як кніга была надрукаваная, яе аўтар Люіс Кэрал адклікаў увесь наклад.

Дзве тысячы асобнікаў першага выдання сусветна вядомай казкі Л. Кэрала былі надрукаваныя ў чэрвені 1865 года. Выдавецтва «Macmillan & Co» планавала выпусціць яго ў продаж з 4 ліпеня і накіравала Л. Кэралу 50 асобнікаў, якія аўтар павінен быў вярнуць. Але неўзабаве пасля таго мастак Джон Тэніэл, які стварыў ілюстрацыі да першага выдання «Алісы...», паведаміў Л. Кэралу, што ён «вельмі незадаволены друкам ілюстрацый», таму аўтар і адклікаў увесь наклад уключна з 50 згаданымі экзэмплярамі.

2 жніўня Л. Кэрал напісаў у сваім дзённіку, што вырашыў перавыдаць «Алісу...», а першыя 2000 асобнікаў трэба прадаць як макулатуру.

Даследчык творчасці Л. Кэрала Мортан Н. Коэн пераканаы, што Л. Кэрал мог пакінуць і першыя асобнікі ў продажы, і з яго боку гэта была хутчэй саступка безкампраміснаму ілюстратару.

Кніга, выстаўленая на аўкцыён, сапраўды ўнікальная: 16 з вядомых цяпер асобнікаў знаходзяцца ў інстытуцыйных бібліятэках, шэсць — у прыватных калекцыях.

**Паводле «The Guardian»**



Адна з ілюстрацый да першага выдання «Алісы ў Краіне Цудаў»

# Кніга Алексіевіч за 1750 долараў

**На папулярным амерыканскім гандлёвым партале «Amazon.com» выстаўленая на продаж кніга Святланы Алексіевіч «У вайны не жаночы твар» у англійскім перакладзе. Прадавец просіць за кнігу 1750 долараў.**




Мяркуючы па ўсім, такую высокую цану за кнігу яе прадавец выставіў зыходзячы з таго, што гэта першая англамоўная кніга сёлетняга Нобелеўскага лаўрэата па літаратуры.

Кніга «War's Unwomanly Face» выйшла ў 1988 годзе ў СССР у беларускім выдавецтве «Мастацкая літаратура», пераклад ажыццёўлены амерыканскай кампаніяй «Progress Publishers». Прадавец сцвярджае, што кніга знаходзіцца ў выдатным стане.

Варта адзначыць, што на «Amazon» прадаюцца і іншыя кнігі Святланы Алексіевіч, але па значна больш «дэмакратычных» цэнах. Так, «Чарнобыльская малітва» (Voices from Chernobyl: The Oral History of a Nuclear Disaster) каштуе 18 долараў, «Цынковыя хлопчыкі» (Zinky Boys: Soviet Voices from the Afghanistan War) — 13 долараў, «Час сэкандхэнд» (Secondhand Time : The Last of the SovietsMa) — 18 долараў. Выданні ў мякай вокладцы, электронныя кнігі ці аўдыёверсіі абойдуцца яшчэ танней.

Чаго нельга сказаць пра расійскамоўныя кнігі Святланы Алексіевіч, якія прадаюцца ў Беларусі...

## Апошні верш Высоцкага

**Апошні верш Уладзіміра Высоцкага быў прададзены на аўкцыёне «Drouot» у Парыжы за 200 тысячаў еўра. Аб гэтым паведамляецца ў твітэры згаданага аўкцыённага дома.**

Раней паведамлялася, што акторка Марына Ўладзі, удава паэта, выставіць на аўкцыён яго асабістыя рэчы: пасмяротную маску паэта-спевака і аўтограф яго апошняга верша. Марына Ўладзі адзначыла, што «справа не толькі ў грошах» і прадае яна гэтыя рэчы таму, што «паварочвае» сваё жыццё і «кідаецца» ў будучыню.

Былы дырэктар Тэатра на Таганцы Мікалай Дупак у лісце да Марыны Ўладзі папрасіў яе зняць з аўкцыёну пасмяротную маску Уладзіміра Высоцкага.

# «Кабзар» — па-кітайску

**«Кабзар» Тараса Шаўчэнкі ўпершыню ў свеце пераклалі на кітайскую мову.**

Як распавяла галоўны захавальнік Нацыянальнага музея Тараса Шаўчэнкі Юлія Шыленка, гэта першае выданне «Кабзара» на кітайскую мову, пераклад якога зроблены з украінскіх крыніцаў (бо ўсе папярэднія выданні былі зробленыя з расійскамоўных перакладаў).

Паводле яе слоў, у мінулым годзе ва Украіне пабывала дэлегацыя кітайскіх мастакоў, у тым ліку прадстаўнікі Акадэміі жывапісу і каліграфіі з Пекіна. Яны і прапанавалі выдаць «Кабзар» па-кітайску. «Праца працягвалася цэлы год. Мы пачалі ў жніўні мінулага года, калі да нас у музей прыехала група кітайскіх мастакоў. І мы ажыццявілі цэлы шэраг паездак: былі ў Каневе, пабывалі ў кіеўскіх музеях Тараса Шаўчэнкі. У час гэтага падарожжа яны рабілі замалёўкі, эскізы, а пасля яе год працавалі над тым, каб узнавіць свае ўражанні і адчуванні», — адзначыла Юлія Шыленка.

У той жа час віцэ-прэзідэнт Кітайскай акадэміі жывапісу і каліграфіі Алан Юй прызнаўся, што толькі ў гэтым годзе асабіста набыў 30 асобнікаў зборнікаў вершаў Т. Шаўчэнкі, каб падарыць іх кітайскім мастакам: «Я хачу яшчэ раз падкрэсліць, што гэтыя мастакі, якія нарадзіліся ў трыццатыя, пяцідзясятыя і нават да дзевяностых гадоў, таму мы ахапілі больш за 80 гадоў, цэлую эпоху, амаль усё стагоддзе. Мы не спецыяльна адабралі мастакоў, народжаных у гэтыя гады, але так атрымалася, што менавіта на гэтых людзей паўплываў Тарас Шаўчэнка. Яго ведаюць як тыя, хто нарадзіўся ў трыццатыя гады, так і народжаны ў дзевяностыя».

**Паводле ukrinform.ua**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

Алег НОВІКАЎ

# Формула Аліева



Фота www.sekiller.net

**Баку 19 чэрвеня ўпершыню прыняў адно з самых славутых спартовых мерапрыемстваў у свеце — гонкі «Формула-1». Нашто аліеўскаму рэжыму такая дарагая цацка, «Новы Час» спрабаваў разабрацца разам з бакінскім эколагам Намікам Мамедавым.**

***— Пасля таго, як у 2014-м было прынятае рашэнне аб правядзенні ў сталіцы Азербайджана гонак «Формулы-1», як мінімум двойчы ў краіне гучалі заклікі не прымаць мерапрыемства. Спачатку — пасля таго як увосень амаль напалову абрынуўся манат. Яшчэ раз — калі напачатку красавіка абвастрыўся канфлікт у Нагорным Карабаху. Чаму ў выніку Баку ўсё ж не адмовіўся ад дарагога праекту, які, па разліках спецыялістаў, каштаваў яму каля 100 мільёнаў еўра?***



Фота www.en.trend.az

— Яшчэ на этапе абмеркавання ідэі ралі ў Баку, у яе хапала праціўнікаў. Ці не зашмат мы ўкладаем у нейкія іміджавыя, вельмі дарагія шоу? Спачатку фінал «Еўрабачання», пасля сусветны чэмпіянат па боксе і Еўрапейскія гульні. Цяпер вось гран-пры «Формулы-1». Гонкі, дарэчы, будуць праходзіць штогод. Натуральна, тады ў людзей ніхто не пытаўся. А вось бліжэй да зімы, калі на фоне падзення коштаў на нафту рэзка патаннеў манат і ўзнік дэфіцыт валюты, самі чыноўнікі задумаліся, ці трэба тая «Формула». У выніку, праўда, перамагла фракцыя прыхільнікаў гонак. Магчыма, ім удалося давесці Аліеву, што адмова будзе ўспрынятая ў краіне як адзнака катастрафічнага стану эканомікі. Нагадаем, менавіта тады правінцыю ахапілі стыхійныя эканамічныя бунты.

***— А чаму не адмянілі «Формулу» з-за так званай чатырохдзённай азербайджанска-армянскай вайны ў красавіку? Якія могуць быць аўтагонкі, калі краіна фактычна ў стане вайны?***

— Такія прапановы ад апазіцыі сапраўды гучалі. На думку апанентаў улады, забаўляльныя шоў у тыле ў вачах жаўнераў на передавой выглядаюць, мякка кажучы, трошкі дзіўна. Аднак дзяржаўная прапаганда павярнула гэта так, што менавіта «Формула» павінна была выглядаць сімвалам нашай канчатковай перамогі над праціўнікам. Трэба ўзгадаць і пра тое, што на той час асноўная частка канструкцыі трасы была зробленая, яе ўжо наведалі інспектары, пратэсціілі гоншчыкі, ужо запусцілі рэкламу, у якую было ўкладзена шмат сродкаў, прэса абвясціла пра тое, што бакінская «Формула-1» параўнальная з алімпійскімі гульнямі ў Рыа і гэтак далей. Адмаўляцца ад гонак арганізатарам было запозна.

***— Напярэдадні «Еўрабачання–2012» у краіне былі масавыя затрыманні апазіцыі. Нешта падобнае адбывалася гэтым разам? Як увогуле апазіцыя рэагавала на «Формулу-1» у Баку?***

— З 2012-га прайшло шмат часу. Цяпер апазіцыйныя палітычныя цэнтры больш кволыя. Аднак паліцэйская прафілактыка мела месца. Напрыклад, у сталіцы арыштавалі двух анархістаў, якіх абвінавацілі ў антыўрадавым графіці. Пры гэтым, думаю, быў пастаўлены рэкорд па фабрыкацыі доказаў на тэрыторыі СНД. Паводле пратаколу, хлопцаў арыштавалі за захоўванне некалькіх кілаграмаў гераіну, які каштуе на чорным рынку фантастычныя грошы. Што тычыцца больш саліднай апазіцыі, то яна намагалася арганізаваць кампанію ў заходняй прэсе, звярнуць увагу іншаземцаў на тое, што за фасадам прыгожага мерапрыемства хаваецца жорсткі аўтарытарны рэжым. Магчыма, у Баку чакалі чагосьці падобнага. Таму напярэдадні з турмы выпусцілі журналістку Хадзіджу Ісмаіл, якую праз інтарэс да карупцыйных афёраў атачэння Аліева раней прысудзілі да сямі з паловай гадоў зняволення. Міжнародная супольнасць вызнала яе вязнем сумлення.

***— Ці выкарыстоўваў аліеўскі рэжым аўтагонкі ў палітычных мэтах?***

— Безумоўна. Галоўныя трафеі бакінскага раўнду «Формулы-1» пераможцам асабіста ўручалі кіраўнік дзяржавы і першая лэдзі. У рэпартажах асабліва падкрэслівалася, што менавіта Ільхаму Аліеву першаму прыйшла ідэя правядзення гонкі на берагах Каспія. Для заходняга адрасата рабіўся малюнак развітой краіны, якая, будучы мусульманскай, мае еўрапейскую ідэнтычнасць. Нават палітызаваная заходняя прэса, каментуючы бакінскую «Формулу», абавязкова ўзгадвала вызваленне Хадзіджы, падаючы гэта часам як пачатак палітычнай вясны, паварот Баку ў накірунку дыялогу з Захадам. Пра значны палітычны складнік сведчыць і эканамічная нерэнтабельнасць гонак. Усе пагаджаюцца, што пабудаваныя пад гонкі гатэлі пасля іх заканчэння будуць напаўняцца максімум на траціну.

***— Аўтаралі прайшло практычна ў гістарычным цэнтры сталіцы. Натуральна, гэта выклікала нейкія нязручнасці для насельніцтва. Як паставіліся да гэтага бакінцы? Ці можна верыць армянскай прэсе, якая піша пра прымусовыя высяленні з дамоў, дзе мела праходзіць 6-кіламетровая траса?***

— Канфлікты праз прымусовае высяленне людзей без адпаведнай кампенсацыі сапраўды мелі месца напярэдадні «Еўрабачання» чатыры гады таму. Тады ў цэнтры яшчэ маглі лакальна пражываць не вельмі заможныя людзі. Таму тут інфармацыю армянскіх медыя трэба правяраць. Асаблівых прэтэнзій да арганізатараў гонак з боку бакінцаў я не чуў. Наадварот, да «Формулы» назіраўся хутчэй інтарэс, што можна растлумачыць асаблівасцямі паўднёвай масавай культуры: у нас вельмі любяць хуткую язду. Магчыма, таму само шоў наведала вельмі шмат людзей, прыкладна 40 тысяч чалавек.

***— Ці працягне Аліеў практыку правядзення буйных мерапрыемстваў?***

— Так. Ужо вядома, што восенню ў нас адбудзецца сусветная шахматная алімпіяда. У 2017 годзе краіна збіраецца прымаць Ісламскія гульні салідарнасці. Гэта, напэўна, таксама павінна прынесці рэжыму нейкія новыя палітычныя дывідэнды, аднак трэба прызнаць, што бясконцы серыял гіганцкіх дарагіх шоў, якія фінансуюцца з бюджэту, сапраўды ўсё часцей раздражняе азербайджанскую грамадскасць.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Адштурхоўваючыся ад заяваў (Лукашэнкі), аналітыкі мяркуюць, што атаналнасць сходу будзе пазітыўнай і задаволенай. Пры гэтым ніякай «сур'ёзнай размовы» пра праблемы не будзе, а значыць, і змены ўрада. Задача сходу, на думку экспертаў, якраз наадварот супакоіць насельніцтва, адцягнуць яго ад думак пра прадпрыемствы на стадыі банкрутства і заробак, што падае, ды перапанаць у тым, што ўлада кантралюе сітуацыю.

**«Независимая газета» (Расія)**

Лукашэнку ўдалося дамагчыся зняцця з сябе і паплечнікаў санкцый ЕС, у той час як санкцыі супраць агрэсіўнай Расіі не знятыя. Гэта вялікая беларуская дыпламатычная перамога. Па ўсім відаць, што Беларусь набірае сур'ёзныя тэмпы міжнароднага супрацоўніцтва. У Крамлі, відавочна, раўнуюць, але выгляду не падаюць. Не першы год ходзяць размовы пра тое, што Крэмль хацеў бы бачыць на чале Беларусі менш самастойнага і не такога харызматычнага палітыка, як Лукашэнка. Гэта значыць, «сяброўства» Крамля і Мінска — сітуацыйнае, казаць пра асаблівыя «братэрскія» адносіны не даводзіцца.

**24 (Украіна)**

За кулісамі беларуска-расійскіх перамоваў па эканамічнай тэматыцы ідзе жорсткі гандаль. Турбуе Маскву не вырошчванне на радасць расіянам беларускіх яблыкаў з бананамі. У Расіі не адзін год прагаворваецца ідэя пра перадыслакацыю ў Беларусь аператыўна-тактычных комплексаў «Іскандэр» і авіябазы ў якасці «адказу на разгортванне ваеннай інфраструктуры NATO ў Еўропе». Беларускае кіраўніцтва адчайна супраціўляецца ціску Расіі, якая горача імкнецца ўцягнуць свайго саюзніка ў супрацьстаянне з NATO. Але гэта не «сыход на Захад», якога дарма асцерагаюцца ў Расіі, а хутчэй, цвярозая ацэнка сітуацыі: Мінск не хоча быць цацкай у руках Масквы.

**Deutsche Welle (Германія)**

Лукашэнка неаднаразова даваў зразумець, што краіна гатовая даць адпор агрэсіі, з якога б боку яна ні надышла. Аднак адкуль ёсць сапраўды пагроза для Беларусі, і з якога боку яна можа надысці? У першую чаргу, спецыялісты выключаюць Украіну і краіны NATO як патэнцыйную пагрозу для краіны. Да таго ж, як вядома, на працягу апошніх гадоў менавіта Расія дэманстравала агрэсіўнае стаўленне да суседзяў, адзначаюць эксперты. І таму нельга не пабачыць, у дачыненні да каго распрацаваная новая ваенная дактрына Беларусі.

**«Биржевой лидер» (Украіна — Расія)**

У яго (Лукашэнкі) з эканомікай усё ў парадку, яму нічога вырашаць не трэба. У Аляксандра Рыгоравіча, у сілу таго, што ў яго магутнасці несувымерна меншыя, ва ўсёй краіне жыве 10 мільёнаў чалавек, як у адной Маскве, тэрыторыя меншая, вельмі дакладна сектаральна арганізаваная эканоміка. У яго не будзе прарыўных высокіх тэхналогій, ён сядзіць на тым, на чым ён сядзіць. Што яму пірыць? Ён паволі рухаецца ў Еўропу, удыхае еўрапейскае паветра, адчувае набліжэнне Польшчы як партнёра. Тым больш, калі ў Беларусі пэўныя пазіцыі і па Украіне, і па Крыме, і па ўсім іншым.

**Русская служба «Радио Свобода» (ЗША)**

На тэрыторыі Украіны зафіксаваныя шасі ад беларускага Мінскага заводу колавых цягачоў для ЗРК (зенітна-ракетных комплексаў). Новенькія. Што гэта значыць? Як мінімум, што ў нас добрыя адносіны з Мінскам. Калі ЗРК будуць для нас, то гэта дае нам магчымасць стварыць зброю, якая будзе збіваць самалёты (...) У Мінску не задарма рызыкуюць адносінамі з Расіяй дзеля Украіны. Магчыма, гэта тая цана, якую плаціць суседняя краіна за тое, што Украіна купляе ў яе вайсковыя грузавікі вытворчасці МАЗ.

**«Прэса Украіны» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ІСПАНІЯ. Маркіз-чучхеіст пад арыштам

У Іспаніі арыштаваны Алехандра Као дэ Бенас — вельмі экзатычная асоба. Нягледзячы на тытул маркіза Разальмонтэ, ён з'яўляецца прыхільнікам пануючай у Паўночнай Карэі камуністычнай мадэлі. Магчыма, дзякуючы блакітнай крыві Алехандра ў Пхеньяне нават прызначылі на пасаду спецыяльнага прадстаўніка камітэта па культурных сувязях КНДР з замежнымі дзяржавамі. Тым не менш, дыпламатычны імунітэт не дапамог яму пазбегнуць арышту. СМІ паведамляюць, што ён затрыманы па падазрэнні ў транспарціроўцы зброі. Нашто маркізу была зброя, незразумела. Назіральнікі не выключаюць, што гэта магла быць правакацыя паліцыі, якая была здзейснена па запыце арыстакратаў. Апошнім даўно не падабаецца, як Чо Сон Іль (так Алехандра называюць у КНДР) ганьбіць шляхту. Яшчэ адна з версій затрымання Алехандра — яго актыўны ўдзел у руху за незалежнасць Каталоніі, якая, на яго думку, павінна арыентавацъ на досвед Паўночнай Карэі.

**Паводле іспанскай прэсы**

### УКРАІНА. Букавінская народная рэспубліка

У Чарнавіцкай вобласці Украіны можа паўстаць румынская аўтаномія. Пра гэта просіць асамблея румын Букавіны ў прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі. Па словах каардынатара Савета Асамблеі румын Букавіны, правы румын сур'ёзна парушаюцца, ім не даюць праводзіць мерапрыемствы і форумы. Аўтаномія магла б дапамагчы ім бараніць сваю нацыянальную ідэнтычнасць. Падставай да звароту стала рашэнне прэзідэнта Украіны даць тэрытарыяльную аўтаномію крымскім татарам, якое, як гаворыцца ў звароце ўкраінскіх румын, «стварыла прававы і палітычны прэцэдэнт, у межах якога ўсе нацыянальныя суполкі, што кампактна пражываюць на Украіне, могуць прэтэндаваць на аналагічны статус». Сапраўды, крымскім татарам абяцаюць у самы бліжэйшы час надаць замацаваную ў Канстытуцыі аўтаномію, якая, праўда, будзе цалкам дэкларатыўнай — з-за таго, што Крым па факце кантралюецца Расіяй. Яшчэ адным падарункам для крымскіх татараў могуць стаць папраўкі ва ўкраінскі каляндар святочных дат. Ён можа папоўніцца двума мусульманскімі святамі. Створаная восенню мінулага года Дзяржслужба па справах Крыма і Севастопаля прапануе абвясціць выхаднымі па ўсёй краіне дні Ураза Байрама і Курбан Байрама.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### РАСІЯ. Помста Буды

Кіраўніцтва Калмыкіі дало згоду на перавод з калмыцкага СІЗА ў папраўчую ўстанову іншага суб'екта Паўднёвай федэральнай акругі Расіі дагестанскага спартоўца Саіда Асманава. Такім чынам улады намагаюцца зняць палітычную напружанасць, выкліканую ўчынкам Асманава. Ён, чалец дагестанскай каманды па грэка-рымскай барацьбе, быў затрыманы 2 красавіка па падазрэнні ў апаганьванні статуі Буды ў Элісце. 10 чэрвеня суд прыняў рашэнне адпусціць Асманава пад заклад, але адразу пасля вызвалення ён зноў быў затрыманы, і 11 чэрвеня апынуўся ў турме. Пакуль Асманаў сядзіць, у калмыцкім грамадстве расце непрыязнасць да каўказцаў. Напрыклад, пайшлі чуткі, што ўсіх каўказцаў у мясцовых турмах пачалі збіваць — у якасці помсты за Буду. Быццам бы калмыцкія зэкі таксама дамовіліся, што Асманаў вернецца з турмы выключна інвалідам. За прыгодамі спартоўца назіраюць і ў Дагестане, дзе пададзена заяўка на мітынг салідарнасці з суайчыннікам. У такой атмасферы ўлада вырашала пазбавіцца раздражняльніка. Тым больш, што выбары кіраўніка Калмыкіі прызначаныя на восень.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФІЛІПІНЫ. Былога дыктатара ўрачыста пахаваюць

Радрыга Дутэртэ, новы прэзідэнт Філіпінаў, дасягнуў кампрамісу наконт лёсу парэшткаў былога дыктатара Фердынанда Маркаса. Прынята рашэнне пра перапахаванне іх у Лібінгане — філіпінскім пантэоне. Маркас, які кіраваў краінай з 1965 па 1986 год, не трапіў у Лібінган па зразумелых прычынах: у выніку ўсенароднага пратэстау ён быў вымушаны збегчы ў ЗША, якія былі куратарам яго рэжыму, дзе і памёр у 1992-м. Паслямаркасаўскія ўлады пагадзіліся на перапахаванне цела на радзіме, аднак толькі не ў Лібінгане. Дзіўным чынам тэма лёсу цела Маркаса з'яўляецца адной з ключавых у тутэйшай палітычнай дыскусіі. Кропку паставіў новы гарант Канстытуцыі. Лічыцца, што коштам такога кроку ён хоча знайсці дыялог з чальцамі дынастыі Маркас, якая мае моцныя палітычныя пазіцыі ў некаторых рэгіёнах краіны. Цікава, што згоду на перапахаванне Маркаса далі і філіпінскія камуністы, якіх дыктатар моцна пераследаваў. Ім давялося паабяцаць новы варыянт працоўнага кодэксу. Каб нейк супакоіць ветэранаў барацьбы з дыктатурай, Дутэртэ паабяцаў, што пад яго кіраўніцтвам краіна будзе змагацца за поўны суверэнітэт ад Вашынгтона.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Brexit падкраўся незаўважна

Алег НОВІКАЎ

**За ўвесь час свайго існавання з Еўрасаюза не выходзіла ніводная дзяржава. Блок толькі пашыраўся. Паглядзім, ці будзе парушаная гэта парадыгма 23 чэрвеня па выніках рэферэндуму ў Вялікабрытаніі.**

Яшчэ ўчора, здавалася, палітычнаму генію прэм'ера Дэвіда Кэмерана мог бы пазайздросціць сам Макіявелі. Спачатку торы зрабілі тэму рэферэндуму пра выхад краіны з ЕС фішкай сваёй выбарчай кампаніі. Прыйшоўшы да ўлады, прабілі адпаведны закон пра плебісцыт у парламенце, што выклікала паніку ў еўрачыноўнікаў і прымусіла іх шукаць кампраміс з Лонданам.



Кансультацыі, якія скончыліся ў лютым, усе эксперты назвалі трыумфам Кэмерана, які выгандлеваў у Еўракамісіі шэраг значных бонусаў для Вялікабрытаніі: права вета на любы законапраект ЕС, скарачэнне памеру ўнёску ў бюджэт аб'яднання, абмежаванне правоў мігрантаў з кантыненту на атрыманне сацыяльнай дапамогі.

Аднак адбылася нечаканая калізія: частка кансерватараў і іх выбаршчыкі праігнаравалі здабыткі прэм'ера і па-ранейшаму ўпарта падтрымліваюць Brexit (Britain і exit — выхад). На цяперашні дзень рух так званых «брэкзіцёраў» сам па сабе — незвычайны феномен са шматлікімі аспектамі. Тут бачаць і рэнесанс старой англійскай знешнепалітычнай школы «бліскучай ізаляцыі», і страх перад ісламскім тэрорам, які атакуе кантынентальную Еўропу. Магчыма, тут хаваюцца і ілюзіі сацыяльнага характару (брытанцам, маўляў, дастануцца працоўныя месцы, якія цяпер займаюць мігранты з краін ЕС).

Цікавая версія пра тое, што папулярнасць Brexit — адрыжка брытанскай імперскай свядомасці. Пасля візіту кіраўніка Кітая ў Вялікабрытанію ў мінулым годзе чакаецца, што Лондан ужо з кастрычніка стане асноўнай пляцоўкай для гандлю юанем на Захадзе. А юань нядаўна быў абвешчаны адной з рэзервовых валют свету. Гэта вельмі добрая навіна для прадстаўнікоў англійскага сярэдняга класу, асабліва настаўнікаў і менеджараў, якія запатрабаванні ў такой колькасці выключна ў межах глабальнага праекту з удзелам Брытаніі. Нарэшце, матывам галасаваць за выхад можа быць проста ірацыянальны рэфлексіўны пратэст супраць істэблішменту, які, нягледзячы на палярныя партыйныя лэйблы, заклікае галасаваць супраць выхаду.

Сапраўды, аматары Brexit ігнаруюць відавочныя негатыўныя наступствы рэферэндуму, якія ляжаць на паверхні. Фермерскія гаспадаркі Англіі пазбавяцца штогадовых датацый ад ЕС. Вялікабрытанія сутыкнецца з праблемамі экспарту сваёй прадукцыі, большая частка якой спажываецца ўнутры Еўрасаюза. Амаль 4 мільёны брытанцаў сутыкнуцца з цяжкасцямі, звязанымі з новым працоўным заканадаўствам для эмігрантаў, бо можа быць адменена свабода перамяшчэння паміж краінамі ЕС.

Пры самым лепшым сцэнарыі, брытанская эканоміка да 2030 года пакажа рост 1,6%. Пры горшым — Брытанія будзе губляць 2,2% ВУП штогод. Больш рэалістычны малюнак — гэта ваганні ад 0,8% скарачэння валавога ўнутранага прадукту да 0,6% росту да 2030 года. Так ацэньвае перспектывы Брытаніі без ЕС інстытут «Open Europe». Рэальныя даходы насельніцтва будуць амаль на 3% менш. Альбіён страціць каля 500 тысяч працоўных месцаў, што прывядзе да росту беспрацоўя на 2,3%, а курс фунта знізіцца прыкладна на 12%, адзначаецца ў дакуменце брытанскага Мінфіна. Інвестыцыі ў эканоміку краіны ўжо замарудзіліся з-за нявызначанасці ў сувязі з рэферэндумам.

Галасуючы за выхад з ЕС, брытанскі выбаршчык запускае механізм рэгіянальнай і глабальнай турбуленцыі. У еўраскептыкаў няма дарожнай мапы выхаду краіны з ЕС. Няма адзінага бачання, што атрымаецца на выхадзе. Агучваецца цэлы спектр мадэляў — ад разрыву ўсіх адносін з ЕС (акрамя дамоваў у межах Сусветнай гандлёвай арганізацыі) да заключэння эксклюзіўнага пакту з Брусэлем, які дазволіць брытанцам захаваць доступ на еўрарынкі.

Новая эканамічная база, відавочна, павінна мець новую палітычную надбудову, контуры якой вельмі цьмяныя. Якая будзе рэакцыя на Brexit у Шатландыі, дзе, у адрозненне ад Англіі і Уэльсу, дамінуюць еўрафільскія сантыменты? Тая ж сітуацыя на Гібралтары, які зараз знаходзіцца пад Брытаніяй, і які Іспанія ўжо гатовая ўзяць пад сваю апеку на правах аўтаноміі.

Еўраструктуры ў выпадку Brexit таксама чакае шок. Спатрэбіцца інстытуцыйная перазагрузка, пошук новага балансу сіл і агульных формул адказу на розныя выклікі. Гэты працэс запатрабуе шмат часу з улікам таго, што Германію і Францыю — краіны-лакаматывы еўраінтэграцыі, — у наступным годзе чакаюць выбары. І, відавочна, што еўраэнтузіясты не будуць лідарамі грамадскіх настрояў. Прынамсі ў Францыі запыт на еўраскептыкаў вельмі салідны.

Першым наступствам Brexit, які мы адчуем ужо ў гэтым годзе, можа стаць рост рэйтынгу Дональда Трампа, што ахвотна выкарыстоўвае рух «брэкзіцёраў» як ілюстрацыю незадаволенасці людзей існуючай сістэмай.

Відавочна, што «перабудова» ўнутры ЕС аслабіць знешнепалітычную актыўнасць саюза. Украінская медыя ўжо б'юць трывогу з гэтай нагоды. «У выпадку такога павароту падзей (Brexit) увага Бруселя будзе засяроджана на ўмацаванні еўрапейскага адзінства і веры ў еўрапейскую будучыню. У сувязі з гэтым лёс Украіны адыдзе на другі план. Акрамя таго, выхад Вялікабрытаніі з Еўрасаюза можа змяніць пазіцыю ЕС у адносінах да Расіі і Украіны. Бо менавіта Лондан больш за ўсіх астатніх падтрымлівае Кіеў. Такім чынам, Украіна можа пазбавіцца моцнага і аўтарытэтнага заступніка ў ЕС. Гэта можа справакаваць ізаляцыю ЕС, што ў сваю чаргу затармозіць еўраінтэграцыю Украіны», — піша кіеўскае выданне «Kyev post».

Аднак больш небяспечная, думаецца, рэвізія праграм падтрымкі для краін-суседзяў, якія найбольш заклапочаныя працэсамі ў краінах СНД. Гэта тычыцца краін Балтыі. Праўда, паводле рапарту 4Liberty — платформы інтэлектуалаў і экспертаў для Цэнтральнай Еўропы, — Brexit асабліва на гэты рэгіён не паўплывае. У крайнім выпадку фірмы, якія інвеставалі ў Балтыю з Лондану, будуць працаваць з Ірландыі.

Так ці інакш, нельга не пагадзіцца са словамі Дональда Туска, старшыні Еўрапейскага Савета: «У выпадку выхаду Вялікабрытаніі з Еўрасаюза магчымыя разбуральныя наступствы не толькі для ЕС, але і для ўсёй палітычнай цывілізацыі Захаду». Аднак супраць гэтага аларміму існуе доза скепсісу. Брытанія — вельмі кансерватыўная краіна, якая інстынктыўна баіцца якіх-небудзь радыкальных трансфармацый. Як бы брытанцы ні прагаласавалі 23 чэрвеня, гэты інстынкт напэўна спрацуе.

# Якая будучыня ў Вышаграда?

Алег НОВІКАЎ

**Польшча 1 ліпеня пераймае старшынства ў Вышаградскай групе — аб'яднанні чатырох краін Усходняй Еўропы, роля якіх апошнім часам становіцца ўсё больш прыкметнай.**



Фота www.minfin.com.ua

Нягледзячы на сталы прынцып працы Вышаградскай чацвёркі (у прэсе яе часта называюць проста V4), наяўнасць працуючых органаў і праграм, статус аб'яднання ў палітычным жыцці рэгіёна мяняўся. Ініцыятыва аб'яднання цэнтральнаеўрапейскіх дзяржаў (Польшчы, Чэхіі, Славакіі і Венгрыі) паўстала 25 год таму, і з часам інтарэс, які быў да гэтых краін, саслаб.

Гэта тлумачыцца аб'ектыўнымі фактарамі. На старце праекту перад яго ўдзельнікамі стаяла, па сутнасці, рэвалюцыйная задача — правядзенне інстытуцыйных і рынкавых рэформаў. Падчас станаўлення інстытутаў дэмакратыі і інтэграцыі лакальных эканомік у сусветны рынак павестка дня Вышаграда стала больш будзённай.

Акрамя таго, пасля далучэння ўсіх сяброў V4 да Еўрасаюза ў 2004 годзе, некаторыя функцыі Вышаграду пачалі дубляваць еўраструктуры. Напэўна, пра нейкую асаблівую пазіцыю рэгіёна казалі толькі падчас падрыхтоўкі інтэрвенцыі ЗША і Вялікабрытаніі ў Ірак. Тады краіны Вышаграду, насуперак Старой Еўропе, дружна падтрымалі ідэю паходу на Багдад.

Пра месца Вышаграда ў палітычным жыцці яго суб'ектаў сведчаць вынікі апытання, зробленыя ў краінах-сябрах аб'яднання ў мінулым годзе. Найбольш адсочваюць дзейнасць аб'яднання ў Славакіі: 54% рэспандэнтаў. У іншых краінах інтарэс меншы: 37% — у Чэхіі, 26% — у Венгрыі і 17% — у Польшчы.

Тым не менш, у кантэксце апошніх падзей — міграцыйны крызіс, пагроза дэзынтэграцыі Еўрасаюза, канфлікт ва Украіне і новая халодная вайна з Расіяй, — роля Вышаграда як пляцоўкі для выпрацоўкі агульнай думкі Усходняй Еўропы імкліва адрадзілася. У прынцыпе, самі сябры-краіны вымушаны больш інтэнсіўна кантактаваць і фармуляваць агульную пазіцыю.

Рэнесанс аўтарытэту Вышаграда пачаўся пасля крымскіх падзей 2014-га. Гэта было ўспрынята як сігнал пагрозы для рэгіянальнай бяспекі. Ужо 14 сакавіка 2014 года ўдзельнікамі ініцыятывы была падпісаная дамова пра стварэнне сумеснага ваеннага органа ў рамках Еўрапейскага саюза як адказ на ваенную інтэрвенцыю ва Украіну. Дамова ўключае ў сябе пункты пра сумесныя ваенныя вучэнні, скаардынаваныя закупы зброі і сумеснае развіццё абароны чатырох краін Цэнтральнай Еўропы. У маі гэтага года краіны Вышаградскай групы адназначна падтрымалі пазіцыю Балтыйскіх краін і Польшчы, якія патрабуюць павелічэння ваеннай прысутнасці NATO.

Акрамя таго, Усходнюю Еўропу, якая мае агульную мяжу з Украінай, турбуе праблема бежанцаў — ахвяр вайны. На Пражскім саміце ў пачатку чэрвеня лідары краін звярнуліся да старшыні Еўракамісіі з прапановай заснаваць фонд падтрымкі Украіны, які дапаможа аслабіць націск мігрантаў на ўсходнюю мяжу ЕС. Вышаградскія краіны таксама заявілі пра гатоўнасць рэалізаваць такую праграму.

Калі гутарка ідзе пра Украіну, нельга прайсці міма цікавага эпізоду. У снежні 2014 года прэзідэнт Украіны Пётр Парашэнка падчас сустрэчы з дэлегацыяй краін Вышаградскай групы ў Кіеве выказаў надзею, што Вышаградская чацвёрка зменіцца з V4 на V5 за кошт удзелу Украіны. Міністр замежных спраў Польшчы ў сваю чаргу заявіў, што Польшча падтрымае Украіну, калі яна захоча ўступіць у склад гэтага аб'яднання.

**Пікіроўка з Брусэлем наконт квотаў уцекачоў стала базай для спекуляцый наконт таго, што Вышаград можа стаць своеасаблівым геапалітычным полюсам еўраскептыкаў, якія будуць намагацца абараняць сваю формулу еўраінтэграцыі**

Усходнееўрапейскай ідэнтычнасці спрыяў і міграцыйны крызіс. Краіны Усходняй Еўропы выступілі супраць спроб увесці сістэму нацыянальных квот для бежанцаў, нягледзячы на ціск з боку іншых краін ЕС. З улікам таго, што пры ўладзе ў Варшаве і ў Будапешце знаходзяцца правыя партыі, прыток мігрантаў, якія накіроўваюцца ў асноўным з краін Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі, трактуецца як цывілізацыйная пагроза.

Пікіроўка з Брусэлем наконт квот стала базай для спекуляцый наконт таго, што Вышаград можа стаць своеасаблівым геапалітычным полюсам еўраскептыкаў, якія будуць намагацца абараняць сваю формулу еўраінтэграцыі. На інтэрнэт-старонках правых польскіх арганізацый можна прачытаць нават пра тое, што Вышаградская група ў перспектыве можа выйсці са складу ЕС і разам з Украінай адрадзіць балтыйска-чарнаморскі праект накшталт сярэднявечнай Рэчы Паспалітай. Цікава, што канцэпцыю «моцнага Вышаграда» падтрымаў і беларускі афіцыёз.

Аднак наўрад ці фронда ўсходнееўрапейскіх еўраскептыкаў зойдзе так далёка. Пражскае выданне «Hospodarske noviny», каментуючы саміт 9 чэрвеня, піша, што існуе пагроза ператварэння аб'яднання ў інструмент абароны індывідуальных амбіцый палітыкаў. Быццам бы пра гэта кулуарна заявіў чэшскі прэм'ер Багуслаў Саботка, падводзячы вынікі чэшскага мандату. Калі верыць СМІ, ён расчараваны тым, што некаторыя бачаць у Вышаградзе выключна сродак прыкрыцця сваіх вузканацыянальных забабонаў. З іншага боку, усе СМІ адзначаюць, што міграцыйны крызіс ужо не такі жорсткі, як раней, і што градус еўрафобскіх настрояў хутка паменшыцца.

Якім будзе новы фармат Вышаграда, пакуль цалкам незразумела, аднак рост рэгіянальнага супрацоўніцтва проста непазбежны. Беручы пад увагу актыўную ролю Польшчы ва Усходняй Еўропе, яе кадэнцыя можа быць вызначальнай для далейшага лёсу V4. Другая палова 2016-га — вельмі зручны час для нейкіх маштабных ініцыятыў з боку краін Усходняй Еўропы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Іслам Карымаў



Усё ўзбекскае грамадства гадае, ці памілуе ўзбекскі гарант Канстытуцыі спявачку Юлдуз Усманаву, якая робіць даволі незвычайныя ўчынкі, каб вярнуцца на вялікую сцэну. Голас Юлдуз, якая мае ліцэнзію на эстрадную дзейнасць, знік з узбекскага эфіру прыкладна дзесяць гадоў таму праз негалосную забарону на яе творчасць. У адказ яна з'ехала ў Турцыю, аднак была вымушана вярнуцца.

Лічыцца, што за забаронай на яе выступы стаяў сам Карымаў, паколькі ў рэпертуары спявачкі пасля забароны з'явіліся песні, прысвечаныя «любімаму прэзідэнту» і яго сям'і. Спачатку Усманава распаўсюдзіла праз інтэрнэт песню пад назвай «Гулістан», прысвечаную старэйшай дачцэ Карымава Гюльнары. У канцы мінулага года спявачка прысвяціла песню непасрэдна Карымаву, у якой назвала яго «падзішах». «Я напісала песню, прысвечаную нашаму падзішаху, бацьку нашага народа, які на працягу некалькіх гадоў кіруе Узбекістанам, беражэ мір і згоду ў краіне. Я тысячу разоў удзячная яму», — заявіла Усманава перад прэм'ерай. Аднак нават прысвечаная прэзідэнту песня не змагла вярнуць спявачку на вялікую сцэну.

І вось новая спроба. Напярэдадні прызначанага на 23–24 чэрвеня ў Ташкенце саміту Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва (ШАС) Усманава выпусціла песню, прысвечаную згаданаму вайскова-палітычнаму блоку.

### Аун Сан Су Чжы



Фігура бірманскай праваабаронцы, лаўрэаткі Нобеля, лідаркі Нацыянальнай лігі за дэмакратыю, якая прыйшла да ўлады ў мінулым годзе, пакончыўшы з перыядам вайсковай дыктатуры, лічылася бірманцамі ледзь не сакральнай. Але цяпер яна пачала губляць прывабнасць: нечакана для ўсіх Аун Сан Су Чжы падтрымала праект аднаўлення будаўніцтва комплексу гідраэлектрастанцый, за якім стаіць кітайскі бізнес і палітычныя інтарэсы КНР.

Гэты праект коштам у 3 мільярды долараў у свой час быў падтрыманы вайсковай дыктатурай і стаў адным з сімвалаў знявагі бірманскай нацыянальнай годнасці. У выніку ў 2011 годзе самі чыноўнікі былі вымушаны адмовіцца ад планаў, каб давесці, што Бірма — не кітайская марыянетка. І вось нечакана для ўсіх будоўля аднаўляецца. Больш таго, абмяркоўваецца ідэя будаўніцтва — зноў жа на кітайскія грошы — стратэгічнай чыгункі, праект якой даўно крытыкуюць усе вядучыя экалагічныя арганізацыі планеты. Кошт праекту — 20 мільярдаў долараў.

Геапалітычны зігзаг дэмакратаў, на думку каментатараў, пагражае новым раўндам амерыкана-кітайскай канфрантацыі. У свой час ЗША вельмі моцна падтрымлівалі рух Аун Сан Су Чжы, каб паслабіць кітайскую экспансію ў стратэгічны рэгіён.

### Педра Санчас



Лідар Рабочай сацыялістычнай партыі Іспаніі (PSOE) будзе ўладальнікам «залатой акцыі» ў новым парламенце, які іспанцы абіраюць 26 чэрвеня. Выбары пазатэрміновыя, паколькі ў папярэднім парламенце, што быў абраны ў снежні, так і не здолелі сфармаваць урадавую большасць.

Усё сведчыць, што такая ж незразумелая канфігурацыя будзе і ў новым парламенце. Адзіная розніца ў тым, што Unidos Podemos — кааліцыя экс-камуністаў і левых радыкалаў — будзе мець другую па колькасці пасля кансерватараў дэпутацкую групу. Аднак ані кансерватары, ані Unidos Podemos не атрымаюць патрэбнай для фармавання кабінету большасці. Адзіны выхад — шукаць падыход да PSOE, у якіх па колькасці мандатаў будзе трэцяя група.

Іспанская прэса піша, што Санчас стаіць перад цяжкім выбарам. Кааліцыя з кансерватыўнай Народнай партыяй (PP), якая дыскрэдытавала сябе праз жорсткі эканамічны курс, можа пагоршыць рэйтынг партыі. Блок з левардыкаламі азначае дэканструкцыю той мадэлі Іспаніі, якая склалася пасля падзення дыктатуры Франка ў 1975 годзе. Unidos Podemos выступаюць за ліквідацыю манархіі і вяртанне да традыцый рэспублікі, якую франкісты знішчылі ў выніку грамадзянскай вайны 1936–1939 гадоў. З улікам наяўнасці цэнтрабежных тэндэнцый (каталонскі сепаратызм) і сацыяльнай напружанасці, гэты эксперымент можа мець самыя неверагодныя наступствы.


Нямецкі танк ля аднаго з савецкіх ДАКаў пад Полацкам


Знішчаны пад Мінскам ДАК МІУРа


Немцы ля знішчанага савецкага ДАКа

# Дзе насамрэч была «лінія Сталіна»


Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Пасля нападу Германіі на СССР камандаванне савецкага Заходняга фронту імкнулася арганізаваць лінію абароны і спыніць наступленне вермахту на ўсход. Лепей за ўсё для гэтага падыходзілі ўмацаваныя лініі на былой савецка-польскай мяжы.**

## Заслаўе прыкрывае Мінск

Нядаўна мне трапіўся дакумент, які варта ўзгадаць (у скарачэнні) у кантэксце апісання баявых дзеянняў на «старой» мяжы. Гутарка ідзе пра баявое данясенне камандзіра 44-га стралковага корпуса РСЧА, камдзіва Васіля Юшкевіча.

«Да 18.00 25.06.41 44-ты корпус, адпаведна з пастаўленай Вайсковым саветам фронту задачай, заняў абарону ў Мінскім УРы, маючы 64-ю стралковую дывізію ў абароне паласы Стайкі, Заслаўе, Краснае. 288-ы стралковы полк знаходзіўся на правым флангу і займаў фронт Баяры-Скнарэвічы; 30-ы стралковы полк абараняўся ў цэнтры на фронце Скнарэвічы, Хмелеўка, 159-ы стралковы полк абараняўся на фронце Хмелеўка, Краснае.

Увечары 25.06 невялікія падраздзяленні танкавых частак праціўніка атакавалі ўчастак 30-га палка, але былі адкінутыя, і праціўнік са стратамі адышоў у лес на паўночны ўсход ад Радашковіч. [...]

25.06 невялікія высланыя выведвальныя атрады 64-й і 10-й стралковых дывізій праніклі ўглыб размяшчэння праціўніка, і ў раёне Шалухі, Дэкшняны, Путнікі наткнуліся на мота-тэхчасткі праціўніка. У выніку начнога бою выяўленае падраздзяленне было цалкам знішчана (відавочна, штаб вайсковага злучэння). Узятыя дакументы 27.06 былі перададзены ў штаб фронту.

Раніцай 25.06 у 6.00 Камендант УРа (!) данёс мне, што з боку Радашковіч на Заслаўе прарваліся танкі праціўніка. Далей, як пазней было ўстаноўлена, бесперапынна, на працягу дня, танкі праціўніка невялікімі групамі (5–10 танкаў), а часам і больш, працягвалі атакаваць 30-ы стралковы полк і 159-ы стралковы полк, спалучаючы свае дзеянні з налётамі авіяцыі. [...] Пяхота праціўніка на працягу 26.06 перад фронтам 44-га стралковага корпуса амаль не з'яўлялася. У ліквідацыі прарыву танкаў на працягу 26.06. прымала ўдзел уся артылерыя корпуса, а пяхота дзейнічала гранатамі. [...] 30-ы стралковы полк быў атакаваны мотапяхотай праціўніка пры падтрымцы танкаў на фронце Касачы—Рогава, дзе, маючы некаторы поспех, пацясніў частку 30-га стралковага палка на паўночны ўсход і ў 8.30 заняў фронт Скнарэвічы — вышыня 273,1 — Казакова — Ашнарова. Арганізаванай контратакай і нясучы значныя страты, полк аднавіў палажэнне. Праціўнік быў адкінуты на фронт Воўкаўшчына — вышыня 266,1 — Збарычы.

На працягу ўсяго дня 30-ы стралковы полк некалькі разоў атакаваўся пяхотай праціўніка. [...] Паміж 14 і 15.00 27.06 танкі праціўніка атакавалі Заслаўе. Авіяцыя яго запаліла. Рух танкаў праціўніка распаўсюдзіўся на Баравую і Ратамку. [...] 28.06 невялікай групе танкаў праціўніка (восем танкаў) удалося прарвацца на ўсход, і ў 13.00 гэтыя танкі атакавалі камандны пункт 44-га стралковага корпуса. У выніку бою вызбіцеся са строю 4 танкі, а два падбітыя. З нашага боку сем чалавек забітыя і 22 параненыя».

На працягу некалькіх дзён савецкія жаўнеры стрымлівалі наступленне немцаў на лініі Мінскага УРа.

Варта адзначыць, што не ўсе доўгатэрміновыя агнявыя кропкі (ДАК) былі падрыхтаваныя да бою. Аднак значная частка ДАКаў і артылерыйскіх паўкапаніраў аказалі супраціў наступаючым на Мінск падраздзяленням вермахта. Пра гэта сведчаць не толькі ўспаміны ўдзельнікаў баёў і мясцовых жыхароў, але і сляды абстрэлаў на знешніх сценах бетонных «крэпасцяў», якія па сённяшні дзень стаяць у раёне Хмелеўка — Шубнік — Крылава.

## На мяжы з Латвіяй і Польшчай

Не менш крывавыя баі ў ліпені 1941 года адбываліся і на лініі 61-га Полацкага ўмацаванага раёна (ПоУР). Будаўніцтва доўгачасовых умацаванняў там пачалося ў 1927–1928 гадах. Працягласць ПоУР складала 56 км, і ад 2 да 5 км углыб. Некаторыя ўмацаванні знаходзіліся на адлегласці ў 4 км ад «рыжскай» мяжы. ДАКі пачыналіся на поўнач ад вёскі Горкі на рацэ Дрысе і вёскі Баравуха-1, і ішлі да вёскі Гомель, якая знаходзілася паміж Полацкам і Ветрына.

Асноўныя аб'екты знаходзіліся на ўсходнім беразе ракі Ушача. У 1930 годзе было ўзведзена 47 збудаванняў на фарынаўскім накірунку, а ў 1932-м — пабудавана каля 250 ДАКаў. У 1938-м у Полацкім УРы было 263 кулямётныя агнявыя кропкі, разлічаныя на 452 кулямёты і 10 супрацьтанкавых кропак (СТАК) з вежамі ад танкаў Т-26. Абарончая паласа складалася з 11 батальённых раёнаў. Важным момантам была высокая шчыльнасць пабудовы агнявых кропак ПоУРа. Напрыклад, калі ў Кіеўскім УР на 85 км было 217 агнявых кропак, то пад Полацкам на 56 км было 202 бункеры.

**Герман Гот называў Полацкі УР «крэпасцю Полацк» і адзначаў: «Наступленне на Полацк натыкалася на контратакі і неаднаразова спынялася»**

Большасць ДАКаў і артылерыйскіх паўкапаніраў, якія знаходзіліся пад Полацкам, маглі вытрымаць агонь 203-міліметровай гаўбіцы. Вёска Баравуха-1 знаходзілася ў цэнтры паўночнага сектара ПоУРа. Вакол дыслакаваліся 4 батальённыя і 3 ротныя раёны абароны. У 1935–1937 гадах вялося будаўніцтва вайсковага гарадка 17-й стралковай дывізіі. Цікавы момант: будаўніцтва і ўзбраенне ПоУРа курыравалі маршал Міхаіл Тухачэўскі і камандуючы Беларускай вайсковай акругай Еранім Убарэвіч. Пасля іх арышту ў 1937 годзе ўмацаванням ля Полацку сталі надаваць менш увагі.

У верасні 1939 года Заходняя Беларусь была далучана да БССР. Умацаванні ля Полацка закансервавалі. Праз год вайсковыя часткі ПоУРа былі перададзеныя ў распараджэнне Гродзенскага УР, а для аховы бункераў ля Полацка пакінулі 10-ты асобны кулямётны батальён. У кастрычніку таго ж года Полацкі і Себежскі УРы былі аб'яднаныя. У іх склад уваходзілі 25-ты і 133-ці асобныя артылерыйска-кулямётныя і 156-ты асобны кулямётны батальёны.

## Затрымаць немцаў

4 чэрвеня 1941 года была выпушчана пастанова Саўнаркама СССР «Аб умацаваных раёнах», у якой, акрамя іншага, адзначалася: «Утрымліваць пастаянныя гарнізоны ўмацаваных раёнаў першай лініі ў складзе 70% і ўмацаваных раёнаў другой лініі ў складзе 30% ад ваеннага часу». Непасрэдна перад вайной ДАКі пад Полацкам паспелі прывесці ў поўную баявую гатоўнасць.

У пачатку ліпеня 1941-га на пазіцыі ПоУРа наступалі танкі 19-й дывізіі вермахта. На гэты момант на рубяжы ракі Заходняя Дзвіна канцэнтраваліся часткі 174-й стралковай дывізіі 62-га корпуса 22-й арміі пад камандаваннем камбрыга Аляксея Зыгіна. У свой час ён быў камендантам Благавешчанскага ўмацаванага раёна на Далёкім Усходзе, і гэты досвед спатрэбіўся пад Полацкам. Паласа абароны дывізіі ўключала пазіцыі на рэках Дзісна і Ула, а ўвогуле часткі 22-й арміі павінны былі абараняць рубеж ад Краславы да Бешанковічаў.

Супраць шасці савецкіх стралковых дывізій наступалі два армейскіх корпусы і 3-я танкавая група генерала Германа Гота. 3 ліпеня 1941 года танкі пачалі наступленне на накірунках Даўгаўпілс — Полацк і Маладзечна — Полацк. Праз дзень 18-я матарызаваная дывізія Вермахта ўпёрлася ў савецкія ДАКі ў раёне Фарынава і Ветрына, а авангард нямецкай 19-й танкавай дывізіі выйшаў да Заходняй Дзвіны. Герман Гот адзначаў ва ўспамінах: «Камандаванне не разлічвала на моцны супраціў на Заходняй Дзвіне. Сур'ёзнай абароны састарэлых умацаванняў пад Полацкам не павінна было быць».

Аднак супраціў на лініі ПоУР быў настолькі жорсткі, што немцы былі вымушаны выклікаць на дапамогу 14-ю матарызаваную дывізію, якая знаходзілася пад Мінскам. З цяжкімі баямі вермахт прайшоў савецкія ўмацаванні ля Ветрына, але зноў спыніўся ля Кутнян. Немцы спрабавалі знішчыць савецкія бункеры пад прыкрыццём дымавой заслоны.

У адной са справаздач Штабу Заходняга фронту адзначалася: «Падчас блакіроўкі ДАКу №51 Полацкага УР праціўнік прымяніў дым, які прымусіў гарнізон ДАКу апрануць абгазнікі». І нават ва ўмовах задымлення чырвонаармейцы здолелі не даць штурмавым групам немцаў падабрацца да агнявых кропак. Шчыльны агонь з кулямётаў і гармат кожны раз прымушаў нямецкую мотапяхоту адыходзіць.

6 ліпеня 1941 года 18-я матарызаваная дывізія вермахта знішчыла чатыры савецкія агнявыя кропкі і ўклінілася ў абарону 22-й арміі. Камбрыг Зыгін контратакаваў немцаў і адкінуў праціўніка. 9 ліпеня баі ішлі на кірунку Баравуха-1. Тут геройчна змагаліся ДАКі ля населеных пунктаў Заручэня, Асяроткі і Махірава. У адным з нямецкіх данясенняў адзначалася: «Паветраная выведка выявіла не вядомую раней умацаваную лінію ад Баравухі да Яновы. Гутарка ідзе пра палявыя ўмацаванні, якія на поўнач і на поўдзень чыгуначнай лініі Полацк — Баравуха сур'ёзна ўзмоцнены глыбока эшаланаванымі ДАКамі».

12 ліпеня немцы ўвялі ў бой 57-ы матарызаваны корпус 3-й танкавай групы. Раніцай 15 ліпеня яны прарваліся да Полацка ў раёне Баравуха-2 і захапілі левабярэжную частку горада. Артылерыя 6-га нямецкага корпуса адкрыла шквальны агонь па агнявых кропках ПоУРа. Пазней камандаванне Вермахта кінула ў атаку свае штурмавыя групы, узброеныя агнямётамі. На працягу дня немцам удалося знішчыць некалькі дзясяткаў савецкіх ДАКаў, пры гэтым у палон узялі ўсяго некалькі цяжкапараненых чырвонаармейцаў. Астатнія загінулі ў сваіх бетонных крэпасцях.

У ноч на 16 ліпеня рэшткі 174-й дывізіі РСЧА пачалі адыход у бок Невеля. Некаторыя савецкія ДАКі пад Полацкам у атачэнні працягвалі весці баі з наступаючымі немцамі да 19 ліпеня 1941 года. Генерал Герман Гот ва ўспамінах называў Полацкі УР «крэпасцю Полацк» і адзначаў: «Наступленне на Полацк шматкроць натыкалася на варожыя контратакі і неаднаразова спынялася». З цяжкімі баямі падраздзяленні 174-й стралковай дывізіі выйшлі з атачэння, а яе камандзіру Аляксею Зыгіну было нададзена званне генерал-маёра і ўручаны ордэн Леніна.

**Фота з уласнага архіву Ігара Мельнікава**



Уладзімір Гіль-Радыёнаў

# Яшчэ раз пра Гіля-Радыёнава

Сямён БАРОДЗІЧ

**Артыкул «Дыягназ — здраднік. Гіль-Радыёнаў і яго брыгада», надрукаваны ў №18 НЧ ад 6 мая, не пакінуў мяне абыякавым. Справа ў той катэгарычнасці, з якой аўтар, што відавочна ж не вяваў у той час, наклейвае ярлык здрадніка на Гіля-Радыёнава.**

Канешне, фігура Гіля-Радыёнава неадназначная і прыцягвала да сябе ўвагу шматлікіх даследчыкаў. Адразу пасля вайны імя яго замоўчвалася, потым быў перыяд асуджэння (60-я — 70-я гады). Падчас перабудовы надышоў перыяд рэабілітацыі і гераізацыі, аддачы яму належнага. Зараз, са з'яўленнем у некаторых перыядычных выданнях («Совершенно секретно», «Народная газета», «Новы Час») асуджэння ў здрадзе, зноў пачынаецца новы перыяд? Ды колькі ўжо можна? Ці гэта ўжо ў нашым нацыянальным характары — асуджаць, уздымаць на шчыт і зноў скідаць? І як гэта ўсё чытаць, чуць і бачыць яго сыну Вадзіму, што жыве ў Мінску, кандыдату тэхнічных навук, зараз пенсіянеру, былому загадчыку крыягеннай лабараторыі інстытута цяпла і масаабмену АН РБ? І як было яго дачцэ Галіне — кандыдату фізіка-матэматычных навук, выкладчыцы Харкаўскага ўніверсітэта (памерла ў 2015 годзе).

Дык хто ж такі Гіль-Радыёнаў? Ахвяра ці кат? Здраднік ці патрыёт? На шалі суда праўды трэба класці ўсе справы чалавека. Палон — гэта вельмі цяжкае фізічнае, псіхалагічнае і маральнае выпрабаванне для салдата, якога пазбавілі магчымасці бараніць родную зямлю. Па сталінскіх мерках, палон лічыўся ў нас не бядой, не трагедыяй чалавека, а яго ганьбай, цяжкай віной, і нават дзяржаўным злачынствам, за якое абавязкова трэба было караць і памятаць толькі тое, што палонныя — «ворагі народа». Немагчыма дакладна сказаць, што чакала пасля вайны Гіля-Радыёнава, калі б ён застаўся жыць, — лаўры героя ці кляймо здрадніка. Ва ўсялякім выпадку, яго сям'я — жонка і двое дзяцей — не была пакінута дзяржавай і атрымлівала ўсё належнае як нашчадкі загінулага: упарадкаванае жыллё, добрую пенсію і г.д.

Лёгка судзіць людзей, седзячы ва ўтульным кабінеце, абклаўшыся падручнікамі па палітграмаце. Але ў жыцці ўсё нашмат складаней і не ўпісваецца ў форму двухколернага свету: чорнага і белага.

Дзесяць гадоў таму я, кіраўнік школьнага музея Дараганаўскай СШ, разам з вучнямі нашай школы імкнуліся як мага болей даведацца Уладзіміра Гіля. Перачыталі шмат дакументальнай літаратуры, мемуараў, пазнаёміліся са многімі радыёнаўцамі і нават паплечнікамі Гіля. Улетку 2006 года мы пабылі ва Ушацкім раёне, дзе ўсклалі вянок на магілу земляка, наведалі вуліцу яго імя, паразмаўлялі з жыхарамі-старажыламі, якія асабіста ведалі яго, з кіраўнікамі раёна, наведалі велічны музей народнай славы і мемарыяльны комплекс «Прарыў». І ні ад каго не пачулі ніводнага дрэннага слова пра радыёнаўцаў. Некаторыя з размоў мы запісалі на дыктафон.

Асабліва каштоўныя матэрыялы аб нашым земляку мы атрымалі ад былога пісара пры штабе Гіля-Радыёнава Г.С. Маркава, што жыў у Віцебску (памёр у 2015 годзе). Між іншым, яго пасляваенны лёс склаўся шчасліва. Працаваў начальнікам электрацэха, галоўным інжынерам Віцебскай ЦЭЦ, начальнікам дыспетчарскай службы «Віцебскэнерга», з 1957 года — член КПСС. Шмат разоў абіраўся дэпутатам Віцебскага гарсавета. На пенсію пайшоў у 80 гадоў. Быў старшынёй савета ветэранаў 1-й антыфашысцкай партызанскай брыгады і Савета ветэранаў вайны і працы Віцебскай вобласці. Меў шмат урадавых узнагарод. Мы перапісваліся з ім каля дзесяці гадоў, яго ўспаміны захоўваюцца ў нашым музеі. Яны выклікаюць давер, бо Маркаў з пачатку стварэння «Дружыны» і да мая 1944 года быў побач з Гілем.

Спадар Зміцер у сваім артыкуле прыводзіць характарыстыку Гіля, якую яму даў Пётр Калінін. Гэта цытата ўзятая з яго кнігі «Партызанская рэспубліка», выдання 1964 года. У 1973 годзе выйшла 3-е выданне гэтай кнігі, значна перапрацаванае, у якім ён хаця і асуджае Гіля, але і аддае яму належнае: «...Гіль-Радыёнаў загінуў, абараняючы Радзіму ад фашысцкіх акупантаў. Ён памёр як салдат, сумленны савецкі чалавек». Там жа ён піша, што партызанам ніяк не ўдавалася ўзарваць чыгуначны мост праз Друць, які ахоўвалі эсэсаўцы. Калі ж ахову даручылі роце «дружыннікаў» пад кіраўніцтвам старшага лейтэнанта Панчанкі, то яны 25 лістапада 1942 года самі ўзарвалі той мост і поўным складам са зброяй перайшлі на бок партызан. Далей, праўда, Калінін не піша, што Гіль, як сведчыць Маркаў, тут жа аддаў загад усёй дружыне на перадыслакацыю з усім узбраеннем і маёмасцю, патлумачыўшы назіральнікам ад СС, што дружына быццам бы ўзнята на пошукі ўцекачоў. Ужо тады дружына перайшла б на бок партызан, калі б не прыйшла сумная вестка: самі партызаны расстралялі Панчанку і ўсіх камандзіраў узводаў. Іх пакаралі за здраду. І Гіль дае каманду «адбой».



Радыёнаўцы адпачываюць

У артыкуле апісваюцца розныя карныя дзеянні «дружыннікаў». Але ў гісторыка-дакументальных хроніках «Памяць» тых раёнаў, дзе дзейнічалі радыёнаўцы, такіх звестак няма. А калі і ёсць, як, напрыклад, у хроніцы «Памяць. Вілейскі раён», то толькі станоўчыя. Тое ж самае можна знайсці і ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» т. 2. 1993 года, і ў «Беларускай энцыклапедыі» т. 5. 1997 года.

А вось як выказаўся пра Гіля былы кіраўнік Цэнтральнага штабу партызанскага руху Пётр Панамарэнка: «Радыёнаў — наш чалавек».

На сцяне велічнага мемарыяльнага комплексу «Прарыў», што ва Ушацкім раёне, адзначана і 1-я Антыфашысцкая партызанская брыгада, адна з 16-ці, што трапілі ў блакаду ў выніку антыпартызанскай аперацыі «Frühlingsfest». Іншага выйсця, як ісці на прарыў, не заставалася. На нарадзе камандзіраў брыгад было вырашана, што першымі ідуць радыёнаўцы як лепш узброеныя, навучаныя і абстраляныя. Нарэшце, ім трэба было змыць віну ўласнай крывёю. Радыёнаўцы пайшлі і зрабілі тое, чаго ад іх чакалі, заплаціўшы велізарную цану. Іх брыгада страціла 1026 чалавек. Перасталі існаваць 5 атрадаў і рота сувязі. Засталося 4 атрады (400 чалавек). У гэтым баі быў смяротна паранены і сам камбрыг.

4 ліпеня 1944 года брыгада злучылася з Чырвонай Арміяй. 20 жніўня новы камбрыг, былы камісар, Герой Савецкага Саюза Іван Цімчук разам з начальнікам штаба брыгады Барысам Панамарэнкам напісалі «Гісторыю ўзнікнення, арганізацыі і баявой дзейнасці 1-й Антыфашысцкай брыгады палкоўніка Гіля-Радыёнава». Яе рукапіс знаходзіцца ва Ушацкім музеі народнай Славы імя Уладзіміра Лабанка. У апошнім раздзеле сваёй працы «Агульныя высновы» яны адзначылі: «Высновы ясныя. Байцы і камандзіры 1-й Антыфашысцкай брыгады ў пераважнай большасці раней знаходзіліся на службе ў немцаў — цягам 11-ці месяцаў змагаліся ў складзе брыгады супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў крывёю і ахвярнасцю збавілі сваю міжвольную віну перад Радзімай. Баявы шлях 1-й Антыфашысцкай пакрыты славай перамог і падзякай мірных жыхароў. Яе гісторыя хоць на калiўца ўвойдзе ў Залатую кнігу гісторыі партызанскага руху Беларусі». Вось так!

Даследуючы ваенны перыяд жыцця Гіля-Радыёнава, давайце зададзім сабе пытанне: а як бы мы павялі сябе ў падобных абставінах? Адказаць адназначна будзе няпроста.

Ані мы, ані аўтары шматлікіх мемуараў і дакументальнага фільма пра «Дружыну», ніхто іншы не імкнуцца гераізаваць Гіля-Радыёнава, не робяць з яго ўзорна-паказальнага героя. Але і чарніць яго нельга. Так, ён фармальна стаў здраднікам, узяў зброю з рук ворага. Але ўзяў яе, будучы выдатна падрыхтаваным ваенным, добра валодаючым нямецкай мовай, каб павярнуць супраць яго ж. Не яго віна, што атрымалася гэта не адразу, не проста. Ён выбраў адзіны правільны, магчымы ў яго становішчы, шлях вяртання да сваіх. Складаны, пакручасты, поўны недаверу сваіх жа. І ўрэшце да сваіх ён вярнуўся. Нават калі ёсць хоць якія падставы абвінавачваць яго ў здрадзе, то хіба не змыў ён яе сваёй крывёю? І таму давайце спынім нарэшце ўсе размовы пра яго, якія абражаюць ня божчыка і яго нашчадкаў.

На вайне няма герояў, ёсць толькі ахвяры. І Гіль-Радыёнаў — адна з іх, чалавек трагічнага лёсу.

***P.S.*** *Між іншым — пераход такога буйнога, звыш 2000 воінаў, добра ўзброенага і абучанага ваеннага фарміравання з германскага боку на савецкі з'яўляецца адзіным выпадкам за ўсю гісторыю Другой сусветнай вайны.*

**Ад рэдакцыі:**

Друкуючы артыкул Змітра Захарэвіча пра Гіля-Радыёнава мы, шчыра кажучы, разлічвалі на такія водгукі. Бо сапраўды, як піша спадар Бародзіч, трэба адыходзіць ад "двухколернага свету: чорнага і белага". На жаль, уся беларуская гісторыя і гістарыяграфія — у спадчыне савецкіх часоў, дзе і быў гэты двухколерны свет. І мы памятаем пра Хатынь, але не ведаем пра Дражню, якая ад Хатыні — у некалькіх кіламетрах, і якую разам з жыхарамі спалілі не фашысты, а партызаны.

Постаць Гіля-Радыёнава — сапраўды супярэчлівая. Але трэба памятаць пра ўсе яго дзеянні, і абставіны, у якіх ён здзяйсняў тое, што здзяйсняў. Бо, малюючы мінулае чорным альбо белым, мы ніколі не даведаемся пра сапраўдную гісторыю Беларусі ўвогуле.




КВИТАНЦИЯ

ИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня

Кассир

Всего

# Шаноўныя чытачы!

**«Новы Час» немагчыма купіць у шапіках РУП «Белсаюздрук». Няма нас і ў падпісным каталогу РУП «Белпошта».**

Але падпісацца на «Новы Час» можна. Для гэтага трэба: 1. Пералічыць грошы на наш рахунак; 2. Накіраваць копію плацёжнага дакумента на адрас рэдакцыі (220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234) ці на электронную пошту рэдакцыі (novychas@gmail.com). Альбо патэлефанававаць у рэдакцыю і паведаміць адрас дастаўкі (+375 29 9625143; +375 29 7518143; Арцём)

**Нашы рэквізіты:** рахунак 3012741108019 у Дырэкцыі ААТ «Белінвестбанка», па г. Мінску і Мінскай вобл. код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11.

**Падпісацца таксама можна ў нашым офісе, а таксама ў нашых прадстаўнікоў.**

# Макмілін заўсёды вязе добрае надвор’е

Уладзіслаў ГАРБАЦКІ



**Арнольд Макмілін — ці не галоўны цяпер беларускі асветнік англамоўнага свету — 21 чэрвеня адзначае 75-годдзе. Прафесар, літаратуразнаўца, чалавек з непаўторным пачуццём вострага і трапнага гумару. Светлакніжнік. Сябра.**

Пазнаёміўся я з Арнольдам, як многія, праз кнігі. Спачатку праз адну — «The Vocabulary of the Byelorussian Language in the 19th Century». Якраз з яе для мяне пачаўся Арнольд. Памятаю, знайшоў яе на паліцы ў мінскіх сяброў, бацькі якіх выкладалі беларускую літаратуру. Мяне заўсёды зачароўвалі слоўнікі. Таму гэтая праца Арнольда за 1973 год, ды яшчэ па-англійску, прыкула мяне. Слушна пададзеныя беларускай лацінкай словы з тлумачэннямі сталіся да ўсяго маёй своеасаблівай практыкай англійскай мовы.

Афіцыйна мы пазнаёміліся на адным з першых кангрэсаў беларусістаў у Коўне, — працавалі разам у адной секцыі. Арнольд слухаў выступоўцаў, ставіў ім не зусім зручныя пытанні, і ў секцыі захоўвалася строгая акадэмічная атмасфера. Тады мне было крыху шкада, што многія беларусы не дайшлі на нешта вельмі важнае, не паслухалі таго, хто так спакойна, бы хірург, але і зачаравана, як нейкі нягэтульны маг, літаральна разразаў беларускую літаратуру.

І ўжо тады я пачаў чытаць яго літаратуразнаўчыя працы пра беларускіх пісьменнікаў як сапраўдныя раманы. Напрыклад, тоўстая кніга Макміліна «Пісьменства ў халодным клімаце» — шэдэўр не толькі беларускага маштабу, твор еўрапейскі, напісаны хаця і энцыклапедычна, але жвава, з гумарам і са смеласцю, уласцівай хіба замежніку, пра аўтараў і часцяком жывых класікаў. Мне было надзвычай цікава гэта чытаць, бо беларускія літаратуразнаўцы звычайна акуратнічалі ў вызначэннях жывых пісьменнікаў.

Погляд звонку крытычнага брытанца, упэўнены, вярнуў многім беларусам веру ва ўласную літаратуру. Пасля я зафундаваў гэтую кнігу — падарунак Арнольда — Віцебскай абласной бібліятэцы, бо хацеў, каб яе чыталі іншыя. Яе адразу ж перавялі з абанементу ў чытальню, і кніга стала бестселерам — на яе запісваліся, каб пазычыць і пачытаць у начны час.

Неафіцыйна мы пазнаёміліся з Арнольдам у Скарынаўцы, калі падчас працы ў тамтэйшых архівах я меў магчымасць спаткаць, як пачуў я тады ў Лондане, «адзінага пастаяннага і ўпартага чытача» дыяспарнай бібліятэкі.

Арнольд запытаў нешта па-англійску, я адказаў па-беларуску — і тады ўжо мы гаманілі толькі па-беларуску. Цікава, што на нашу гаману выйшаў айцец Надсан. Крыху здзіўлена пагледзеў і жартліва сказаў: «Арнольд, ты так хораша размаўляеш па-беларуску!» Сапраўды, беларуская мова Арнольда чароўная: мяккая, спакойная, з непаўторным і няўлоўным дыяспарным акцэнтам, што хочацца слухаць і слухаць. І часам да яе ўкліньваецца нешта лаканічнае, ацвераджальнае, сухое, узятае, маркую, ад мовы англійскай.

У размовах з Арнольдам сімпатызавала яго крытычнасць да беларусаў, якія мала, на ягоную думку, ствараюць перакладных слоўнікаў з беларускай мовы. А многія існыя слоўнікі проста дрэнныя. Гэтая праблема, агучаная брытанскім даследнікам, не спыніла яго самога — ён авалодаў мовай, стаўся яе знаўцам і рэдкім на Захадзе папулярызатарам беларускага гожага слова.

Акрамя таго, што Арнольд — знаўца таго, у чым працуе, ведае нашу літаратуру лепей за беларусаў, размаўляе па-беларуску, ён яшчэ мае такі стэрэатыпна англійскі гумар: усюльпрысутны, нават у маркоту, ці па мне, проста крытычны погляд на рэчы. І кпіць, смяецца ён з сябе перадусім. Як забыць, напрыклад, гісторыю, расказаную Арнольдам пра тое, як ён палюбіў беларусаў: у маладыя гады ў свой першы прыезд у Мінск, працуючы ў Акадэміі навук, на сценах кабінету віселі плакаты аб абароне супраць атамнай атакі з Захаду — тут Арнольд і зразумеў, які ж вясёлы і добры беларускі народ.

Цікава, што ў нашы сустрэчы ў Вільні, Коўне ці Мінску, калі мы шлі на шпацыр ці ў кавярню, свяціла сонца і было наагул цёпла. Тады Арнольд жартам заўважаў: "Гэта я вам з Лондану прывёз добрае надвор’е».

І цяпер кожнага разу я лячу ў Лондан не толькі Вірджыніі Вульф і Скарынаўкі, а да ўсяго ў Лондан Арнольда Макміліна.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 607

Падпісана да друку 24.06.2016. 8.00. Наклад 5000 асобнікаў. Кошт свабодны.